№6 (981) 6 чэрвеня 2018

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

16+

www.nn.by

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць раз на месяц, у першую сераду

# «НН» цалкам пераходзіць у інтэрнэт

З гэтага нумара «НН» спыняе рэгулярны выхад папяровай газеты і працягне сваё існаванне ў электроннай форме як партал NN.BY.

«Наша Ніва» паказала ўсім прыклад, як адаптавацца да новай эпохі. У маі гэтага года *NN.BY* наведалі 475 тысяч карыстальнікаў, прачыталі 7,1 мільёна старонак. А бываюць месяцы значных падзей, і тады гэтыя лічбы большыя нават удвая. Гэта непараўнальна з аўдыторыяй папяровай газеты. У далейшым друкаванні яе не засталося практычнага сэнсу.

«НН» анлайн – гэта штодзённае выданне, адаптаванае да сучасных тэхналогій. Нам удалося тое, чаго не дасягнулі нашы папярэднікі.

У XX стагоддзі незалежным беларускім выданням не ўдалося выйсці на штодзённую перыядычнасць.

Украінцы («Діло» і «Рада») і літоўцы (*Vilniaus zinios*) мелі штодзённыя газеты ўжо ў пачатку XX стагоддзя. «Наша Ніва» ж у 1906–1915 была тыднёвікам.

Украінская эміграцыя выдавала штодзённую «Свободу», эміграцыйны «Беларус» такім не быў.

І ў 1990–2000-я гады толькі дзяржаўная прэса мела штодзённую перыядычнасць. «Свабода» Ігара Герменчука, «Народная воля» Іосіфа Сярэдзіча, «Наша Ніва» Сяргея Дубаўца залатымі літарамі ўпісаныя ў гісторыю беларускага друку і дзяржаўнасці, але штодзённага выхаду не дабіліся.

Мы ганарымся той аператыўнасцю і аб'ёмам інфармацыі, якую мы цяпер даём анлайн. Мы ганарымся таксама тым, што мы – платформа для дэбатаў. Мы роўна даём трыбуну кансерватарам і лібералам, сацыял-дэмакратам і нацыяналістам, экалагістам і рыначнікам. Мы імкнёмся выхоўваць у людзях павагу да чужога меркавання, уменне слухаць і змяняцца. І, як і нашы папярэднікі Антон і Іван Луцкевічы і Янка Купала, Вацлаў Ластоўскі і Аляксандр Уласаў, мы верым у прагрэс, у магчымасць больш справядлівага ўладкавання грамадства, лепшага разумення чалавекам свету і сябе.

«Нашу Ніву» чытаюць самыя шырокія слаі. Аснову аўдыторыі складаюць чытачы ад 25 да 45 гадоў. Больш за палову нашых інтэрнэт-чытачоў жыве ў Мінску.

Тое, што аўдыторыя «НН» дасягнула гістарычнага рэкорду, — гэта і люстэрка нацыянальнага станаўлення беларусаў. «НН» мае сёння столькі чытачоў, бо вырасла колькасць людзей, які лічаць сябе беларусамі, а беларускую нацыю – адной з цэнтральнаеўрапейскіх.

Інтэрнэт – новая эпоха чалавецтва, настолькі ж прагрэсіўная ў параўнанні з паперай, як калісьці вынаходства Гутэнберга – проці рукапісных фаліянтаў.

Мы б даўжэй трымаліся за папяровае выданне, калі б яму не было альтэрнатывы, калі б мы былі адзінай крыніцай інфармацыі для старэйшых, хто не мае доступу да інтэрнэту. Але ж ёсць якасныя, патрыятычныя «Народная воля», «Новы час», «Рэгіянальная газета», іншыя выданні.

А на паперы «Наша Ніва» плануе выдаваць гістарычную літаратуру. Мы рыхтуем новы праект «Наша гісторыя». Інфармацыю пра яго выхад шукайце на сайце *NN.BY*, мы таксама апублікуем яго анонсы ў «Народнай волі» і «Новым часе».

* * *

Гэты нумар «Нашай Нівы» многія захаваюць як памятку. Таму давайце тут нагадаем асноўныя вехі гісторыі газеты.

## 1906. Першы нумар газеты



Год 1.

Наша Нива

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА З РЫСУНКАМИ

ВЫХОДЗИЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ рускими и польскими литэрами.

Вільня, 10 (23) лістапада. Рэдакцыйны зварот.

Пачынаючы выдаваць беларускую газету «Наша Ніва», хочам трохі пагаварыць з усімі, каму ў той ці іншы спосаб залежыць на нашай працы, хочам адкрыць свае думкі, каб усе маглі нас пазнаць.

«Наша Ніва» будзе другой беларускай газетай – першая газета «Наша Доля» не жывець: была надта нядоўга, бліснула, як маланка, і згінула дзесьці. Разумеем мы, як важна цяпер беларуская газета, разумеем, якую вялікую работу яна можа зрабіць. І дзеля таго мы будзем старацца, каб наша газетка глянула ўсюды, каб папала яна і пад страху беднай курной хаты мужыка-беларуса. Не думайце, што мы хочам служыць толькі ці панам, ці адным мужыкам. Не, ніколі не! Мы будзем служыць усяму беларускаму скрыўджанаму народу, пастараемся быць люстрам жыцця, каб ад нас, як ад люстра, святло падала ў цёмнасць... Мы будзем браць усё ад усіх і, злажыўшы ў парадак, зноў аддаваць. Ведайце добра, што «Наша Ніва» – газета не рэдакцыі, але ўсіх беларусаў і ўсіх тых, хто ім спагадае. Кожны мае права быць выслуханым на старонках нашай газеты і кіраваць ёю, толькі каб было разумна. Мы з сваёй стараны будзем старацца, каб усе беларусы, што не ведаюць, хто яны ёсць, – зразумелі, што яны беларусы і людзі, каб пазналі свае права і памагалі нам у нашай рабоце.

Не будзем пісаць громка. Будзем спакойна, цвёрда кідаць усім праўду ў вочы, пастараемся быць цярплівымі і панаваць над сабою: няхай халодны розум моцна трымае ў сваіх руках гарачае сэрца.

А цяпер прызываем усіх тых, хто разумее нашы цэлі, адчувае тое, што мы чуем, і захоча нам памагчы: падтрымайце нас у рабоце, што цяпер пачынаецца!

**Так выглядаюць першыя старонкі партала nn.by на экранах камп'ютара**




## 1908. Янук Купала Хто ты гэткі?

Хто ты гэткі?
— Свой, тутэйшы.
Чаго хочаш?
— Долі лепшай.
Якой долі?
— Хлеба, солі.
А што болей?
— Зямлі, волі.
Дзе радзіўся?
— У сваёй вёсцы.
Дзе хрысціўся?
— Пры дарожцы.
Чым асвенчан?
— Кроўю, потам.
Чым быць хочаш?
— Не быць скотам.





Год першы. Вильня 2 (15) грудня (декабря) 1906 г. №. 4

Наша Нива

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА З РЫСУНКАМИ

ВЫХОДЗИЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ рускими и польскими литэрами.



«Газета з рысункамі», але не шмат было тых рысункаў.

Працяг на старонцы 2.

## Падпісныя індэксы папяровых газет

**«Народная воля»**
63222 — для індывідуальных падпісчыкаў
632222 — для прадпрыемстваў і арганізацый

**«Новы час»**
63279 — для індывідуальных падпісчыкаў
632792 — для прадпрыемстваў і арганізацый

**«Рэгіянальная газета»**
63212 — для індывідуальных падпісчыкаў
632122 — для прадпрыемстваў і арганізацый

# «Наша Ніва»: доўгая гісторыя

Працяг са старонкі 1.

## 1907. Якуб Колас

### Расейскія вобразы

Куды ні глянь — адно і тое:
Усюды стрэльбы і «шнуры» —
Стаяць па пары і па трое
На скрыжаваннях «каўняры».
Аж у вачах яны міґцяцца,
Усюды іх, як прусакоў...
Куды пайсці і дзе схавацца
Ад гэтых рыл і «каўняроў»?!

Рэдактар газеты Аляксандр Уласаў і адзін з яе асноўных аўтараў Якуб Колас арыштоўваліся царскімі ўладамі.



Рэдакцыя «Нашай Нівы» пасля паліцэйскагаператрусу.

## 1912. «Наша Ніва» выбірае правапіс



НАША НІВА

Nasza Niwa

Biełaruskaja Hazeta.

TRECIAJA DUMA.

Першыя гады газета выходзіла ў двух варыянтах: кірыліцай і лацінкай. Для адзінства трэ' было вызначацца: большасць выказалася за кірыліцу.

## 1913. Рэклама на старонках «НН»



НАША НІВА

Выходзіць што тыдзень.

Год VIII. | 27 Сьнежня 1913 г. | № 51—52

Каб не было задзержкі з высылкай газэты, просім прысылаць падпіску на 1914 г.

З гутарак с сябрамі.

Сяўцы асьветы.

## 1913. Памылкі на старонках НН (знайдзіце)



НАША НІВА

Выходзіць што тыдзень.

Год VIII. | 10 мая 1963 г. | № 19.

Як аселі Прахор.

## 1914. Вайна

«Наша Ніва» публікуе «найвышэйшы маніфест» Мікалая II з абвяшчэннем вайны.



НАША НІВА

ВАЙНА.



НАША НІВА

Выходзіць што тыдзень.

Год X. | 13 Лютага 1915 г. | № 6

ВАЙНА.

На вайне і каля вайны.



«Наша Ніва» займала паслядоўна антываенную пазіцыю. У выніку газета выходзіла з белымі плямамі цэнзуры.

## 1915. Немцы займаюць Вільню...

...і выданне газеты спыняецца. Прарыў немцаў да Вільні быў нечаканым. Выдаўцы не думалі, што жнівеньскі нумар газеты стане апошнім.



Мапа беларускіх зямель у адным з апошніх нумароў газеты.





Нашаніўскае кола каля Рэдакцыі.

## 1920. Антон Луцкевіч спрабуе адрадзіць газету

Суседнія нацыі сілай зброі стварылі свае дзяржавы. Беларусы войска не мелі, і іх тэрыторыі падзялілі чужаніцы.

Выйшла ўсяго 9 нумароў газеты.



З усёе Беларусі.

Заграніцай.

Беларускі Вучыцельскія Курсы.

Беларускі Вучыцельскі Саюз.

Апошняя старонка апошняга нумара НН за 1920 год.

## 1991. Адраджэнне газеты

Вільня, травень. Рэдакцыйная калонка ў №1.



НАША НІВА

«Наша Ніва» выходзіць зноў. Людзі, якія стварылі яе ў 1906-м годзе, разлічвалі не на нейкі перыяд, ці этап, ці нейкую праграму-мінімум, пасля чаго трэба было б спыніць выданне, але на ўсю перспектыву беларускага нацыянальнага жыцця. Гэты разлік у 1915-м сарвала вайна, пасля — рэвалюцыя, часы сацыялістычнага будаўніцтва. Цяпер, калі гэта ўсё адышло ў нябыт, калі спакваля зноў акрыйвае беларускае нацыянальнае жыццё, «Наша Ніва» выходзіць зноў. Як люстэрка дзён і жаданняў... Больш за 70 гадоў моўчнасці няхай стануць для нас не забыццём, а новым, добры забытым доведам, не гнілымі лаўжамі, а крэпкім сухім паленнем ў грубку аднаўленае «Нашай Нівы».

Працяг на старонцы 24.

# Віцэ-прэм'ер Русы ўзяў на будаўніцтва дома ў Драздах рублёвы крэдыт на $75 тысяч. Да дэвальвацыі

Ва ўмовах пастаяннага абясцэньвання беларускага рубля мара многіх — удала ўзяць крэдыт у рублях, бо вяртаць грошы будзеш па іншым курсе. Абвальная дэвальвацыя — і ты маеш звышдаходы.

Віцэ-прэм'ер Міхаіл Русы можа правесці майстар-клас, як атрымаць надзел у Драздах, а пасля яшчэ ўзяць у «Беларусбанку» на будаўніцтва дома $75 тысяч у рублях на 20 гадоў.

Больш за сотню чыноўнікаў і іншых прадстаўнікоў эліты атрымалі зямельныя надзелы ў «Драздах» і «Драздах-2» — прэстыжных катэджных пасёлках на ўскрайку Мінска.

Участкі, рынкавы кошт якіх сягае да $500 тысяч, выдзяляюцца прадстаўнікам наменклатуры на непразрыстых умовах. Ад чыноўніка патрабуецца толькі пабудаваць на пустой зямлі дом на свой густ.

Але дзе ўзяць грошы на такое будаўніцтва? Міністэрскага заробку на гэта можа і не хапіць.

Міхаіл Русы — віцэ-прэм'ер, які адказвае за сельскую гаспадарку, не самую багатую галіну эканомікі.

Сям'я чыноўніка — а гэта, паводле афіцыйнай біяграфіі, жонка і дзве дарослыя дачкі — жыве ў чатырохпакаёвай кватэры плошчай больш за 110 квадратных метраў.

У 2013 годзе Русаму выдзелілі ўчастак у «Драздах-2».



**Дом Русых у «Драздах-2».**

У адрозненне ад некаторых іншых суседзяў-чыноўнікаў, ён задумаў сціплы, невялікі дом, меншы за 300 квадратных метраў. Аднак каб дабудаваць яго, віцэ-прэм'ер неўзабаве вырашыў узяць крэдыт у банку.

Варта зрабіць адступленне і нагадаць, што гэта быў за час. Пасля фінансавага крызісу 2011 года амаль усе банкі спынілі жыллёвыя праграмы, атрымаць крэдыт на будаўніцтва жылля было маларэальна. Напрыклад, у «Беларусбанку» звычайным людзям грошы выдаваліся пад 35—40% гадавых. Для тых, хто не верыў у трываласць нацыянальнай валюты, гэта мог быць прымальны варыянт. Але для атрымання буйной сумы грошай трэба пацвердзіць сваю плацежаздольнасць касмічнымі заробкамі.

Да таго ж крэдыт у звычайнай сітуацыі пералічваецца на рахунак забудоўшчыка ці прадаўцу жылля. А віцэ-прэм'еру, які ўжо меў участак, грошы маглі быць патрэбныя толькі для бягучых будаўнічых выдаткаў.

Тым не менш Русаму ўдалося ўзяць у крэдыт 750 мільёнаў дадэнамінацыйных рублёў (75 тысяч рублёў пасля дэнамінацыі). Па тагачасным курсе гэта $75 тысяч.

Інфармацыі пра тое, пад які працэнт быў выдадзены гэты крэдыт, у адкрытых крыніцах няма.

Крэдытныя калькулятары банкаў паказваюць, што, каб атрымаць такія грошы па стаўках таго часу, трэба было прадэманстраваць больш за $10 тысяч штомесячнага даходу — у сябе і ў паручальнікаў.

Банкаўскія работнікі, апытаныя «Нашай Нівай», запэўнілі, што рашэнне аб выдачы такога крэдыту не магло быць прынята без узгаднення з кіраўніцтвам.

Узятыя ў дзяржаўным банку 75 тысяч рублёў Міхаіл Русы будзе аддаваць на працягу 20 гадоў.

Ужо за першыя два гады курс даляра падскочыў удвая. У выніку крэдыт абясцэніўся.

Цікавы факт: пры рэгістрацыі свайго дабудаванага катэджа Русы пакінуў для правяраючых органаў заяву, у якой запэўніў, што пабудаваўся за ўласныя грошы, без выкарыстання льготных крэдытаў.

**Ягор Марціновіч**

# Генадзь Сагановіч абараніў доктарскую

30 мая рада Гістарычнага інстытута Варшаўскага ўніверсітэта зацвердзіла Генадзю Сагановічу ступень доктара габілітаванага ў галіне гуманітарных навук па спецыяльнасці «гісторыя». Гэта аналаг ступені доктара гістарычных навук у беларускай сістэме.

Для гэтай ступені асобнай дысертацыі ў еўрапейскіх універсітэтах не патрабуецца. За падставу абароны бярэцца габілітацыйная манаграфія і ўвесь навуковы дарабак. У выпадку Генадзя Сагановіча манаграфіяй была яго ная кніга «Грунвальд у беларускай гісторыі. Спроба разбору палітычнага міфа».

57-гадовы ўраджэнец вёскі Турная пад Івацэвічамі Генадзь Сагановіч — выдатны беларускі гісторык. Ён аўтар папулярнай кнігі «Невядомая вайна» і суаўтар «Дзесяці вякоў беларускай гісторыі», заснавальнік альманаха «Беларускі гістарычны агляд». У 2005 годзе яго звольнілі з Акадэміі навук Беларусі нібыта за «парушэнне працоўнай дысцыпліны» ў часе чысткі навуковых апанентаў тагачаснай афіцыйнай ідэалогіі.

**Сяргей Гезгала**



# Выбітны педагог — выпускнікам: У рэальным свеце вашы школьныя дасягненні нічога не вартыя. А калі вам нехта скажа, што Беларусь — балота…

**Віктар Малышчыц** — выбітны педагог, унікальны настаўнік астраноміі. Ён працуе ў Ліцэі Белдзяржуніверсітэта і вядомы таксама сваімі фатаграфіямі краявідаў пад зорным небам. Вось як ён развітаўся са сваімі сёлетнімі выпускнікамі.

Дарагія ліцэісты-выпускнікі! Неяк на апошнім званку я размінуўся амаль з усімі вамі, нават не паспеўшы павіншаваць. Таму можна я зраблю гэта тут?

Там, на свяце, было праліта нямала слёз, на выпускным праліецца яшчэ крыху. Але спадзяюся, што гэта слёзы радасці, а не шкадавання. Вы пераступілі толькі праз адну прыступку, а наперадзе будуць новыя і новыя. І будзе яшчэ цікавей. Так, ліцэйскія канцэрты, конкурсы, алімпіяды і турніры застануцца ў мінулым, але, паверце, гэта таксама дробязь.

Ведаеце, калі я сам быў школьнікам, то актыўна ўдзельнічаў у розных спаборніцтвах. І гэта прыносіла мне поспех: мяне баяліся ўсе канкурэнты, а мае вынікі на рэспубліканскіх алімпіядах па астраноміі амаль ніхто так і не паўтарыў. Але, як толькі скончылася школа, я раптам зразумеў, што ў рэальным свеце ўсе мае школьныя дасягненні зусім нічога не вартыя. Мне спатрэбілася досыць шмат часу, каб скінуць з сябе гэтую пыху і ганарлівасць і зразумець, што я проста «звычайны чалавек плюс/мінус боль» (с).

Таму і вам я жадаю выйсці ў гэты свет звычайнымі людзьмі. Але я веру, што той унутраны боль, тое абвостранае пачуццё праўды і справядлівасці, якое ёсць у вас, зможа змяніць гэты свет.

Будзьце заўжды на баку праўды; калі ад кагосьці вы пачуеце «А можа, так яно і трэба?», ведайце — так не трэба. Вам не раз скажуць: «Ну, вы і самі ўсё цудоўна разумееце», — адмаўляйцеся разумець.

Вучыцеся і ніколі не перастаюйце вучыцца. Гэта адно з самых вялікіх задавальненняў, якога зусім не варта саромецца.

Мінулі часы, калі ў трэндзе былі крымінальныя браткі ці багатыя бізнэсоўцы на вялікіх машынах. Героі нашага часу — гэта тыя, хто стварае штучны інтэлект, лечыць рак і запускае ракеты на Марс. Каб дасягнуць гэтага, трэба быць на перадавым краі навукі.

Вандруйце. Адкрывайце для сябе іншыя культуры і сустракайце новых людзей. Катайцеся па Беларусі электрычкамі і аўтаспынам, вымярайце свае ўражанні не здымкамі з дарагіх кавярняў у інстаграме, а колькасцю ўбачаных світанкаў. І часцей любуйцеся зоркамі ўдалечыні ад гарадоў. Гэта не толькі фантастычна прыгожа і не толькі дазваляе ўспомніць нашы ўрокі астраноміі, але яшчэ і паказвае, наколькі мы мізэрныя і крохкія ў бяскрайніх маштабах космасу. Немагчыма множыць зло і нянавісць на Зямлі, разумеючы, што ўсе мы знаходзімся на «дробнай пылінцы, падвешанай на сонечным промні».

І заставайцеся аптымістамі.

Ігнаруйце тых, хто здольны толькі на ныццё, і рушце далей. Калі вам нехта будзе казаць, што Беларусь — гэта балота, успомніце, што нашы балоты — найлепшыя ў Еўропе, і проста пасмейцеся з гэтага эпітэта. Вы здольныя змяняць вакол сябе свет, вы зменіце і Беларусь.

І я ў вас веру.

**Віктар Малышчыц, facebook.com**

# Хто такі Сяргей Раўнейка, затрыманы на хабары ў 200 тысяч даляраў?

Камітэт дзяржаўнай бяспекі затрымаў пры вымагальніцтве і атрыманні хабару памерам $200 тысяч памочніка прэзідэнта па Гродзенскай вобласці Сяргея Раўнейку.

КДБ яшчэ год таму даведаўся, што Раўнейка атрымлівае хабары за вырашэнне тых ці іншых пытанняў. Гэтыя факты дакументаваліся, пакуль пры атрыманні чарговага хабару памочніка прэзідэнта не затрымалі з грашыма ў руках.

На чыноўніка заведзена крымінальная справа па частцы 3 артыкула 430 Крымінальнага кодэкса — атрыманне хабару ў асабліва буйным памеры асобай, якая займае адказную пасаду. Чыноўніку пагражае 15 гадоў зняволення.

Затрыманне чыноўніка такога высокага рангу — рэдкасць для Беларусі. А тут яшчэ і сума хабару ўражвае, аж 200 тысяч даляраў. Адна з найбольш гучных крымінальных справаў апошніх гадоў. Хто ж такі Сяргей Раўнейка?

Яшчэ ад 2000-х ён узначальваў гродзенскі Дзяржкантроль. У 2013 годзе Раўнейку перавялі ў Мінск. У цэнтральным апараце Дзяржкантролю ён курыраваў заходні рэгіён.

А ў 2015-м Лукашэнка прызначыў яго сваім памочнікам усё па той жа Гродзеншчыне.

У прыватнасці, Раўнейка кантраляваў будаўніцтва ў Астраўцы атамнай станцыі. У ягоную сферу таксама ўваходзіла дрэваапрацоўка — дастаткова важная галіна для нашай краіны і асабліва для кіраўніка дзяржавы.

«Каб не ўзнікала праблем, неабходна дакументальна афармляць адносіны і весці бізнэс празрыста», — цытата Раўнейкі з сёлетняга прыёму грамадзян у Ашмянах.




«Кожнаму неабходна памятаць пра свае карані, захаваць каштоўнасці, закладзеныя нашымі продкамі. Праз гэтыя каштоўнасці можна атрымаць здаровае грамадства», — яшчэ адна цытата Сяргея Раўнейкі.

«Абыякавасць чыноўніка любога ўзроўню да праблем людзей недапушчальна», — гэтыя словы Сяргеем Раўнейкам былі сказаныя падчас размовы з людзьмі ў Воранаўскім раёне.

«Народ зрабіў свядомы выбар за стабільную і квітнеючую Беларусь, за прагрэсіўнае, эвалюцыйнае развіццё краіны. Высокі працэнт даверу, які жыхары ўсіх рэгіёнаў аказалі кіраўніку краіны, пацвердзіў, што абраны ім палітычны курс правільны, што мы, беларусы, адзіныя ва ўсіх нашых памкненнях, у дасягненні мэты, і мы гэтую мэту бачым вельмі выразна», — словы памочнік прэзідэнта пасля выбараў 2015 года.

**Зміцер Панкавец**

## Зварот рэдактараў «Нашай Нівы» да абітурыентаў і дзесяцікласнікаў

Мы звяртаемся да выпускнікоў, але найперш да дзесяцікласнікаў, якія будуць выбіраць сабе мову ЦТ у наступным годзе.

Кожны з вас выбірае, якую мову здаваць на ЦТ: беларускую ці рускую. Падрыхтавацца да ЦТ аднолькава лёгка (ці цяжка).

Беларуская мова — гэта частка нашага я, наша саматоеснасць. Так, свет цяпер адкрыты, ніхто не прадкажа, з якімі мовамі нам давядзецца працаваць у будучым прафесійным жыцці. У перадавых краінах людзі выходзяць са школы, ведаючы адразу некалькі моў. Але вы не знойдзеце шведа, які б не ведаў шведскай, не знойдзеце нарвега, які б не гаварыў па-нарвежску, не пабачыце фіна, які б адрокся сваёй фінскай. Нацыянальная мова — яна як якар, які будзе трымаць вас, у які жыццёвы вір вас не закінула б жыццё.

Як і любую мову, беларускую мову будзеш ведаць, толькі калі яе добра вывучыш.

Калі ласка, свядома выбірайце сабе беларускую мову на ЦТ. Вы і здасцё на добры бал, і мову асвоіце раз і назаўсёды. Зрабіце выбар.

**Рэдактары «Нашай Нівы»**

## Юрый Зісер за дзень ахвяраваў 7500 рублёў — на мемарыял у Курапатах, прэмію Быкава, помнік Адамовічу

Уласнік партала *tut.by* Юрый Зісер адзначыўся вялікімі пераводамі грошай на краўдфандынгавыя праекты.

У прыватнасці, Зісер перавёў 3000 рублёў на ўсталяванне бюста пісьменніка Алеся Адамовіча ў вёсцы Глуша Бабруйскага раёна. 2000 рублёў былі пераведзеныя на прэмію імя Васіля Быкава «За свабоду думкі», якую ладзіць рух «За Свабоду».

1500 рублёў сышло на альбом палескіх народных песень, які запісаў гурт *Vuraj*. І яшчэ 1000 рублёў Зісер ахвяраваў на рэканструкцыю народнага мемарыялу ў Курапатах.

Мы спыталі ў бізнэсоўца: чым ён кіраваўся, робячы гэтыя пераводы? «Дабраліся рукі, знайшоў час дапамагчы гэтым праектам. Што да прэміі, то я кіраваўся імем Быкава. Гэтая прэмія патрэбная, і яе арганізавалі вельмі добрыя людзі», — адзначыў Зісер. Пры гэтым уласніка *tut.by* не запрашалі ў аргкамітэт прэміі.

«Помнік трэба прывесці ў парадак», — кажа Зісер пра Курапаты.

«За гуртом *Vuraj* я сачу даўно. Яны ездзяць па Палессі, запісваюць у старых людзей песні, апрацоўваюць іх і выконваюць так, што гэта мае не казённы выгляд, а жывы. Яны запальваюць! Гэта важна для захавання нацыянальнай спадчыны», — тлумачыць ён сваю матывацыю.




«Для мяне гэта не дабрачынная рэч, а сацыяльная. Гэта такое сацыяльнае прадпрымальніцтва. Кажуць, што трэба раздаваць вуды, а не рыбу. Я звычайна не даю грошы на дзіцячыя дамы, хоспісы — гэтым займаецца іншыя людзі. Мой профіль — дапамагаць тым, хто дапамагае. Ці нейкім важным для краіны сацыяльным праектам, як прэмія Быкава ці бюст Адамовіча, якія, безумоўна, мусяць быць», — сказаў бізнэсовец.

Сваімі крокамі Юрый Зісер дае добры прыклад для іншых прадпрымальнікаў у краіне.

**ЗП**

## Макей: Беларусь не выключае магчымасць размяшчэння расійскай вайсковай базы

Мінск пакуль не плануе прымаць новыя замежныя базы, але можа перагледзець рашэнне, піша «Голас Амерыкі» са спасылкай на *Reuters*.

Беларусь не плануе размяшчаць расійскія войскі на тэрыторыі краіны, аднак можа перагледзець сваю пазіцыю, калі, напрыклад, у Польшчы будзе пастаянна прысутнічаць амерыканскі кантынгент, заявіў беларускі міністр замежных справаў Уладзімір Макей.

Падчас візіту ў Брусэль, які ставіў за мэту развіццё супрацоўніцтва з ЕС, Макей сказаў журналістам, што Мінск хоча знізіць напружанасць у рэгіёне і падтрымліваць добрыя дачыненні як з Захадам, так і з Масквой.

Адказваючы на пытанне аб тым, ці можа прапанова Польшчы аб размяшчэнні амерыканскай базы прымусіць Беларусь перагледзець сваё рашэнне аб расійскай вайсковай прысутнасці, Макей сказаў: «Я думаю, будзе нейкая рэакцыя на гэты намер размясціць новую вайсковую авіябазу».

«На гэты момант мы не плануем размяшчаць на тэрыторыі Беларусі новыя замежныя вайсковыя базы, — працягнуў міністр. — Але, гледзячы ў будучыню, трэба ўлічваць крокі, якія будуць рабіць нашы суседзі».

## Памёр Арсень Ліс

Памёр беларускі літаратуразнаўца, фалькларыст, гісторык Арсень Ліс.

«Памёр выдатны гісторык, сімвал гуманнасці і дабрыні, цудоўны чалавек Арсень Ліс. З пачуццём глыбокага жалю пішу гэту навіну. Мае спачуванні родным», — напісала ў сваім фэйсбуку Ніна Стужынская.

Яму было 84 гады, апошнім часам моцна хварэў.



Арсень Сяргеевіч Ліс нарадзіўся 4 лютага 1934 года ў Вётхаве (сёння Смаргонскі раён). Працаваў у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Даследаваў традыцыйную культуру беларусаў, літаратуру, гісторыю і перыядычны друк Заходняй Беларусі, жыццё і дзейнасць дзеячаў беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, гісторыю культуры. Аўтар манаграфій «Браніслаў Тарашкевіч», «Мікола Шчакаціхін: харство непазнанай зямлі», «Пётра Сергіевіч», «Вечны вандроўнік: нарыс пра мастака Язэпа Драздовіча», «Пякучай маланкі след: эцюды да партрэта мастака Горыда».

У серыі ў гонар 100-годдзя «Нашай Нівы» мы выдалі збор яго твораў «Gloria victis!» (2010). Том «Арсень Ліс. Выбранае» (2014) выйшаў у серыі кніг «Беларускі кнігазбор».

Арсень Ліс дапамагаў «Нашай Ніве» ў часы ганенняў. Гэта быў крыштальна сумленны інтэлігент.

# «Я толькі нядаўна навучылася цаніць жыццё»:

## Святлане Алексіевіч — 70. Інтэрв'ю пра сэнсы, несмяротнасць і шчасце

Нобелеўскаму лаўрэату ў літаратуры **Святлане Алексіевіч** 31 мая споўнілася 70 гадоў. З гэтай нагоды мы задалі некалькі пытанняў юбіляру.



**«Наша Ніва»: Як вы збіраецеся адзначаць свой дзень нараджэння?**

**Святлана Алексіевіч:** У вёсцы. Спакойна. Увогуле не люблю ўсе гэтыя сімвалы, не люблю пра іх думаць. Што гаварыць, дата ж сумная.

**«НН»: Чаму сумная?**

**СА:** Яшчэ б 70 гадоў, што ж тут вясёлага?

**«НН»: Старасць вы ўжо адчуваеце?**

**СА:** Не, чаго няма, таго няма. Я ўчора гавару аднаму чалавеку, што не магу заўтра сустрэцца, бо такая дата, а ён мне: «Як? 70 гадоў? Ды не можа гэтага быць». Не ведаю, ці хітрыў мужчына, ці падыгрываў мне, але ўсё адно прыемна.

**«НН»: У нас у рэдакцыі таксама многія здзівіліся, што вам 70. Кажуць, выглядаеце нашмат маладзейшай.**

**СА:** Дзякуй (*смяецца*).

**«НН»: А які самы запамінальны дзень нараджэння быў у вашым жыцці?**

**СА:** Васямнаццаць гадоў. Нават не памятаю чаму. Мой тата вельмі любіў рэчку, навучыў мяне яе любіць. І вось у той дзень мы паехалі на Сож, злавілі нейкага вялікага сома, нарабілі катлет, я запрасіла сяброваk. Мы жылі на беразе рэчкі, і гэта ўсё было вельмі прыгожа.

Былі і потым запамінальныя даты. І трыццаць гадоў было цікава, і пяцьдзясят. Я памятаю аграмаднае вядро ружаў, якія атрымала, было прыемна. А вось рэчы, якія мне дорацьь, я не запамінаю. Я вельмі абыякавая да рэчаў.

**«НН»: Зайздрасці да маладых не адчуваеце?**

**СА:** Не, зусім не. Вось побач са мной унучка цяпер. Прыйшла ў госці мая сяброўка-цырульнік — ці цырульніца? — я не ведаю, як цяпер правільна казаць. І мы з такой радасцю размаўлялі, што Янка вырасла, стала такой вялікай дзяўчынкай. Не-не, што вы, ніякай зайздрасці, толькі інтарэс. Я ж цяпер у такіх гадах, калі разумею, што гэта такая біялагічная хваля. Цяпер на піку, потым пойдзе ўніз. Я ведаю, як усё гэта адбываецца. І якое маленькае жыццё.

**«НН»: Усё ж маленькае?**

**СА:** Ну канечне, маленькае. Вось цяпер кажуць, што людзі могуць жыць сто гадоў. А што гэта такое тыя сто гадоў? Уявіць, што я буду жыць яшчэ дзесяць, дваццаць гадоў. Ой... (*смяецца*). Самога жыцця не хапіла. Спачатку ж у цябе ні досведу, ні чаго іншага няма. І я навучылася цаніць жыццё, само быццё, працаканне жыцця, — слухаць раніцу, глядзець на лес, на дрэвы, — толькі цяпер. Бо раней гэта была такая гонка, кудысьці бег, да нейкай мэты. Я не кажу, што цяпер не іду да мэты, але гэта ўжо робіцца спакойна.

**«НН»: Што вы лічыце самай важнай справай у сваім жыцці?**

**СА:** Я радая, што змагла зрабіць тую работу, якую даўно задумала [5-кніжжа «Галасы Утопіі» — **НН**]. У мяне хапіла і сілаў, і цярпення. Можа быць, можна было і лепш зрабіць гэтую «энцыклапедыю», як я яе называю. Але я радая. Гэта быў нялёгкі шлях. Шмат разоў я была ў адчаі і хацела ўсё гэта кінуць. Паколькі чалавек дастаткова страшная істота, то мне давялося шмат усяго страшнага выслухаць. Шмат было страшнага.

**«НН»: Вы лічыце сябе шчаслівым чалавекам?**

**СА:** Я займалася тым, чым хацела. У гэтым, вышэйшым, плане я шчаслівы чалавек. Але які ідыёт можа сказаць, што ён шчаслівы канчаткова? Гэты чалавек ці сабе хлусіць, ці стаіць у нейкай позе.

**«НН»: Цяпер вы працуеце над кнігамі пра каханне і пра старасць. Гэтыя тэмы неяк судакранаюцца?**

**СА:** Канечне. Абедзве тэмы аб галоўным у жыцці чалавека: у імя чаго ўсё гэта? Гэта ж усё не толькі для таго, каб ты купіў «Бэнтлі» ці жыў у шыкоўнай кватэры. Гэта аб найвышэйшым сэнсе. Такія пошукі шчасця. Любоў — гэта такое ўпрыгожванне жыцця, каб не было страшна паміраць. А смерць агаляе ўсё. Ты ж не будзеш узгадваць прэміі з-пад века труны, а нейкія больш інтымныя рэчы.

У нямецкага філосафа Герберта Маркузэ ёсць фраза, што «цывілізацыя рухаецца энергіяй, якая адабраная ў Эраса». Любоў дае сілы, гэта вельмі важнае пачуццё. Адна мая гераіня, акушэрка, кажа: «Я магу пазнаць, ад кахання нарадзілася дзіця ці не. Магу бачыць, любіў чалавек ці не». Людзі часта ўспрымаюць за каханне нейкія падменныя пачуцці: звычку, сэкс, біялагічную такую палоннасць.

**«НН»: Вы верыце ў несмяротнасць?**

**СА:** Не, не веру. Калі я была ў Японіі і Кітаі, то я задумвалася аб будызме, аб перасяленні душаў. Мне вось зараз згадаўся Алесь Адамовіч, мы неяк сядзелі з ім і ягонай жонкай у Маскве. У іх быў сабака, і той увесь час нешта прасіў са стала. І жонка яго ўвесь час праганяла, а Алесь кажа: «Калі ты будзеш сабакам, то ён табе ўсё прыпомніць».

Усе мы пра гэта думаем. Помню апошнія словы Адамовіча, якія я пачула. Гэта было ля Акадэміі навук, ён спускаўся ў метро, я ішла на працу ў «Сельскую газету», мы размаўлялі аб зусім іншых рэчах, і тут ён раптоўна пытаецца: «Святлана, а што там? Як вы думаеце?»

Ведаеце, ёсць такі анекдот, калі дзеці сядзяць у пузе ў мамы і размаўляюць: «Як думаеш, ёсць жыццё па той бок?» — «Не ведаю, ніхто адтуль не вяртаўся» (*смяецца*).

Людзі ведаюць такую маленькую частку аб свеце. Але цяжка паверыць, што гэта ўсё дарма, нашы пакуты, наша энергія, што яна ўся знікае. Я шмат чытала Вернадскага на гэтую тэму, і думаю, што недзе ўсё ж збіраецца ўся гэтая энергія. І любоў, і іншыя рэчы.

**«НН»: Каго вы згадваеце перад юбілеем?**

**СА:** Бацькоў. Вельмі шкадую, што яны не дажылі. Калі я атрымала Нобелеўскую прэмію, то найперш падумала: «Як бы яны былі шчаслівыя за мяне». Тата пару гадоў не дажыў.

Бабулю, дзядулю. Мне нядаўна адзін пошукавік дапамог знайсці сведчанні пра дзеда. Мая бедная бабуля, яна ўсё жыццё лічыла, што ён прапаў без вестак, а гэта зусім не так. Ведаеце, як на вайне. Калі ў адной бойцы вельмі шмат ахвяр, то іх штучна заніжалі, пісалі, што прапалі без вестак. А цяпер дзеда знайшлі, ён пахаваны ў Славакіі. І гэта найлепшы падарунак да маёго дня нараджэння. Гэта мой украінскі дзядуля.

**«НН»: Што вас радуе сёння?**

**СА:** Само жыццё. Я дастаткова незалежны чалавек ва ўсіх сэнсах. Магу рабіць тое, што хачу. Я раўнадушная да рэчаў. У мяне шмат каштоўнасцяў. Едзеш некуды і забываешся іх зноў надзець. Нядаўна памяняла кватэру. У мяне цяпер вялікая, прасторная, добрая кватэра. І што? Гэта ўсё фармальнае, не гэта робіць нас шчаслівымі.

**«НН»: Але падчас адной з сустрэч у Мінску вы казалі, што адкрылі для сябе і радасць ад простых бытавых рэчаў.**

**СА:** Я вельмі доўга жыла працай. І ў такім рытме жыцця ад многага трэба адмовіцца. І адмовіцца не таму, што ты гвалтуеш сябе, а таму, што іншае ў такія моманты не існуе. Калі сястра памерла, то я ўпершыню спынілася на бягу і ўпершыню ўбачыла свет і неба. Бо не было ўжо болей з кім размаўляць. Я цяпер імкнуся болей разглядаць свет. Мяне сяброўка падчас адной нядаўняй паездкі ўсё цягнула ў музей, я ж столькі ўжо музеяў пабачыла за жыццё, столькі грудаў золата, іншых рэчаў. Кажу: «Я хачу проста сядзець на вуліцы, піць каву, разглядаць людзей».

У мяне цудоўныя суседзі. Вось кажуць, што прадпрымальнікі такія людзі, што ў іх галаве толькі грошы-грошы, а гэта не так. Яны любяць на горных лыжах катацца і кругасветнае падарожжа. Вось яна — жыццёвая філасофія. Атрымліваць асалоду ад жыцця.

**«НН»: Вы за сваё жыццё праслухалі гісторыі тысяч людзей. Яны вам па-ранейшаму цікавыя?**

**СА:** Канечне. Чалавек бясконцы. З аднаго боку, чалавек не змяняецца. Людзі ў Старажытнай Грэцыі былі тымі ж людзьмі. Вось кніга Ювала Харары «Гісторыя чалавецтва», якой зачытваецца ўвесь свет. Ён кажа, што чалавек даўно стаў тым чалавекам, якім ёсць цяпер. Але ў той жа час мяняюцца пачуцці, зброя, рэчы, машыны. Нават цяпер, працуючы над кнігай пра каханне і старасць, я адчуваю, што разуменне гэтых з'яваў у людзей зусім іншае, чым было ў савецкі час, калі свет быў плоскі.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

### «Пяць разоў мянялі вокладку». Чаму пяцітомнік Алексіевіч не выйшаў да яе юбілею

Арганізатары збору сродкаў на выданне пяцітомніка Святланы Алексіевіч «Галасы Утопіі» паведамілі, што не паспяваюць укласціся ў абяцаныя тэрміны і прывезці кнігі ў маі, піша Еўрарадыё:

«Узнікла невялікая затрымка, у сувязі з чым кнігі прыедуць у Мінск у дзясятых днях чэрвеня. Прэзентацыя ў Мінску запланаваная на 25 чэрвеня і пройдзе ў ОК16».

Выдавец пяцітомніка Ігар Логвінаў тлумачыць Еўрарадыё, што затрымка адбылася праз складаную вокладку, якую давялося змяняць пяць разоў:

«З вокладкай шмат праблем у друкарні. Ужо пяць разоў мянялі яе. Вось літаральна на днях адправілі канчатковы варыянт. Спадзяёмся, што кнігі прыедуць у Беларусь у пачатку чэрвеня».

Праблема заключаецца яшчэ і ў тым, што тыпаграфія, якая друкуе беларускія пераклады асноўных твораў нобелеўскай лаўрэаткі, знаходзіцца ў Цверы, што за 725 кіламетраў ад Мінска.

З'яўленне беларускіх перакладаў Святланы Алексіевіч было б выдатным падарункам да 70-гадовага юбілею, які пісьменніца адзначыла 31 траўня. Але, на жаль, атрымалася так, як атрымалася.

**Еўрарадыё**

# Дзясяткі тысяч дрэў і кустоў, высаджаных уздоўж трас увосені, загінулі

Увосені 2017 года Наталля Качанава на нарадзе ў Мінгарвыканкаме дала каманду заняцца «эстэтызацыяй гарадскога асяроддзя» сталіцы. У прыватнасці, чыноўніца запатрабавала, каб азеляніді Мінскую кальцавую аўтадарогу.

Сказалі — зрабілі. Ужо 9 лістапада мінскія дзяржаўныя СМІ рапартавалі, што ўздоўж МКАДа высадзілі 14,6 тысячы дрэваў і 95 тысяч кустарнікаў і пасадкі працягваюцца. Сапраўды, праца ішла нон-стоп да самых маразоў, пакуль не замерзла зямля.

«Спецыялісты высаджвалі ўстойлівыя да антрапагенных нагрузак пароды дрэў, у прыватнасці ясень. Што тычыцца кустоў, то, па назіраннях навукоўцаў, яны ў цэлым валодаюць добрай жыццеўстойлівасцю. Усё гэта дазваляе спадзявацца на тое, што наступнай вясной зялёнае ўбранне МКАДа будзе багацейшым і ярчэйшым», — пісалі «Мінск-Новости».

Няглядзячы на халады, на суботнікі павыганялі дэпутатаў і чыноўнікаў. У дождж яны ўкопвалі саджанцы на МКАДзе. Саджалі той жа ясень і шарападобныя вербы.

Аднак зімы саджанцы, асабліва хваёвыя, не перажылі. Так выглядаюць дрэвы ўздоўж МКАДа ў маі 2018 года.

Убранства сапраўды ўражвае. Вось толькі не так, як планавалася.

«Там саджалі той восенню ўсе і ўсё запар, бо зверху далі каманду», — расказаў «Нашай Ніве» суразмоўца, які працуе ў гадавальніку «Мінскзялёнбуда».

Па словах работніка, калі закупляць у іх гадавальніку, то для «Мінскзялёнбуда» існуе невялікая зніжка. Такім чынам, кошт аднаго саджанца ясеня выходзіць каля 13 рублёў. Саджанец шарападобнай вярбы — тыя ж 13. Адзін куст каштуе ў раёне 3 рублёў.

Такім чынам, можна падлічыць, колькі грошай у літаральным сэнсе выкінулі на дарогу.

Дакладная колькасць саджанцаў невядомая. Але саджанцы тых 15 тысяч дрэваў і 100 тысяч кустоў, якія былі высаджаны толькі ў Мінску да 9 лістапада, каштавалі не менш за 495 тысяч рублёў адпаведна. Плюс расходы на аплату працы рабочых. Агульная ж колькасць пасаджаных дрэў была нашмат большая.

Чаму так сталася? Спецыялісты сказалі «Нашай Ніве», што прычыны маглі быць розныя. Па-першае, умовы надвор'я гэтай зімы не спрыялі ўкараненню: быў бясснежны перыяд з моцнымі маразамі. Па-другое, многія дрэвы кепска пераносяць уздзеянне солі, якой пасыпаюць дарогі і якая разлятаецца і расцякаецца на ўзбочыны. Але галоўнае, што, імаверна, была парушаная і тэхналогія пасадкі: кусты і дрэвы садзілі запозна і няправільна.



На фотах відаць, што многія дрэвы садзілі ў ямкі, абы-як выкапаныя экскаватарам, у гліну, без падсыпкі ўрадлівай глебы.

За высадку адказвалі зялёнгасы адпаведных раёнаў, на тэрыторыі якіх знаходзяцца дадзеныя ўчасткі дарог.

Атрымаць каментар у «Мінскзялёнбудзе» не атрымалася. Па словах сакратаркі, «цяпер гарачы час, усё начальства на пасадках».

**Улад Швядовіч, фота Волі Афіцэравай**

## Жанчына памерла пасля ўколу антыбіётыку

45-гадовая Сняжана Шпакоўская лягла 18 мая на гінекалагічную аперацыю ў Столінскую раённую бальніцу. Аперацыя прайшла паспяхова. Але потым здарылася бяда.

«Там нічога сур'ёзнага не было. Маленькая аперацыя — выдалілі паліп, і ўсё, — кажуць сваякі Сняжаны. — Пасля таксама ўсё было добра. У пятніцу ўвечары яна пазваніла дачцэ ў Маскву, сказала, што ідзе на ўкол. І ўсё».

Пасля ўколу жанчыне стала кепска, расказваюць сваякі. Яна пайшла ў прыбіральню, думала, што ванітуе. Аднак там пачала задыхацца, закрычала, пачала клікаць на дапамогу. Прыбег персанал бальніцы, Сняжану павезлі ў рэанімацыю.

Затым яна трапіла ў кому, з якой так і не выйшла, кажуць сваякі. Дактары ратавалі Сняжану ўсю ноч, некалькі разоў у жанчыны спынялася сэрца, яго заводзілі ізноў. Але раніцай 19 мая, у суботу, Шпакоўская памерла.



Па інфармацыі «Нашай Нівы», жанчыне калолі цэфтрыяксон — антыбіётык. Ён нярэдка выкарыстоўваецца пасля аперацый для прафілактыкі інфекцый.

«Сняжана была жанчына-жывчык. Поўная энергіі і вельмі здаровая. Акрамя стаматолагаў, да дактароў не хадзіла, ніколі ні на што не хварэла, — расказваюць сваякі Шпакоўскай. — Але яна была вельмі праблемным алергікам. Пра тое і яна ўсім казала пастаянна, і ў медкартцы ў яе быў запіс. Дактары пра алергіі мусілі ведаць».

Дарэчы, у рэакцыях, якія можа выклікаць цэфтрыяксон, — якраз анафілактычны шок.

Але Пятро Пашкевіч, галоўны доктар столінскай бальніцы, запэўнівае: у медыцынскіх дакументах Шпакоўскай не было інфармацыі, што ў жанчыны алергія на якія-небудзь лекі.

«Пакуль высновы рабіць рана. У нас увесь дзень 19 мая была камісія Міністэрства аховы здароўя. Пытанне будзе яшчэ разглядацца, хутчэй за ўсё, нават у міністра. Але ў медыцынскай дакументацыі Шпакоўскай пра алергію на медпрэпараты нічога не было, — распавёў «Нашай Ніве» Пашкевіч. — У прынцыпе, любы прэпарат можа выклікаць алергічную рэакцыю, але гэта хутчэй залежыць ад асаблівасцей арганізма, чым ад прэпарата».

У сваю чаргу Аляксей, муж Шпакоўскай, кажа, што калісьці Сняжана ставіла ўнуку ўкол цэфтрыяксону. І ад кантакту скуры з прэпаратам у яе адразу пачалася рэакцыя — твар пайшоў чырвонымі плямамі.

«Невядома, ці спыталі ў яе пра алергіі і праблемы з медыкаментамі. Ці папярэдзілі дактары, што ёй будуць калоць той цэфтрыяксон? Бо яна б абавязкова сказала, што могуць быць праблемы», — упэўнены Аляксей.

«Адзінае, што пакуль магу шчыра заявіць, — гэта тое, што доктар намагаўся якасна аказаць медыцынскую дапамогу», — кажа Пётр Пашкевіч.

Далейшыя высновы мусяць зрабіць камісіі, экспертызы і следчыя. Муж Сняжаны ўжо напісаў заяву ў Следчы камітэт, у бальніцы забралі дакументацыю.

«Але я не хачу, каб кагосьці пасадзілі. Хачу, каб у будучыні такога больш не здаралася. Хай глядзяць і думаюць пра наступствы, — кажа Аляксей. — Хачу, каб трохі мазгамі думалі».

Сняжану Шпакоўскую пахавалі днём 21 мая. У яе засталося трое дарослых дзяцей і шасцёра ўнукаў.

**УШ**

## Гей-скандал у Следчым камітэце? Пасады страцілі некалькі супрацоўнікаў

Незвычайная гісторыя адбылася ў адным з раённых аддзяленняў Следчага камітэта па Гродзенскай вобласці. Як стала вядома «Нашай Ніве» з крыніц у сілавых органах, некалькі аднаполых супрацоўнікаў СК мелі адзін да аднаго амурныя пачуцці. Характарам адносін афіцэраў зацікавілася ўпраўленне ўласнай бяспекі Следчага камітэта, і ў пачатку мая аператыўнікі заспелі іх у атмасферы жарсці проста ў працоўным кабінеце.

Прынамсі, так сцвярджаюць крыніцы.

Як было насамрэч?

Афіцыйна пацверджана, што некалькі следчых і кіраўнік таго раённага ўпраўлення звольнены.

«Ва [...] упраўленні самастойна прынялі рашэнне і разарвалі адносіны па згодзе бакоў: начальнік і некалькі следчых.

Усе пастаўленыя задачы раённае аддзяленне выконвае ў поўнай меры. Гэта ўсё, я максімальна ясна кажу: супрацоўнікі звольніліся па сваім жаданні», — сказаў «Нашай Ніве» прэс-афіцэр гродзенскага Следчага камітэта Сяргей Шаршаневіч.

На пытанне, ці былі ў гэтай сітуацыі элементы скандалу, Шаршаневіч адказваць не стаў, паўтарыўшы, што «ўсё сказана».

Крыніцы ў ведамстве тлумачаць, што фармальна інтым на працоўным месцы трактаваўся як парушэнне працоўнай этыкі, кодэкса гонару афіцэраў Следчага камітэта.

Былы начальнік раённага СК не стаў адказваць на пытанне аб прычынах звальнення — кінуў трубку.

Адзначым, што ў мінулым месяцы ўказам прэзідэнта знянаку быў зняты начальнік Следчага камітэта па Гродзенскай вобласці, генерал-маёр Іосіф Леанко.

**АЯ**

## У Расіі зрабілі фота машыны з беларускім нумарам з «9» на канцы. Што гэта такое?

Здымак з аўтамабілем, які мае рэгістрацыйны нумар неіснуючага беларускага рэгіёна, актыўна распаўсюджваецца ў сацыяльных сетках.

Фота парушальніка паркоўкі было зроблена ў Расіі. Найхутчэй, «9» у канцы нумара і выкарыстоўваецца, каб пазбегнуць штрафаў, што выпісваецца ў аўтаматычным рэжыме.

Пазіцыя ДАІ Беларусі застаецца няззменнай: у нумарах аўтамабіляў выкарыстоўваецца нумарацыя ад 1 да 7, яны абазначаюць прыналежнасць да пэўнага рэгіёна — ад Брэстчыны да Мінска.

З «0» ездзяць аўтамабілі ўнутраных войскаў. Нумары з лічбай «8» выкарыстоўвае спецтранспарт на закрытых тэрыторыях.

Выкарыстанне самаробнага нумара з «9» на канцы караецца законам. Уладальнік такога нумара можа атрымаць штраф (ад 10 да 20 базавых) ці ўвогуле 2 гады хіміі.

**БЮ**

# Зяць расійскага міністра Лаўрова стаў мільярдэрам

Расійскі банк ВТБ спачатку паўгода таму выкупіў 29 працэнтаў акцый рытэйлавай сеткі «Магніт», а цяпер прадаў палову свайго пакета. Акцыі на 62,5 млрд расійскіх рублёў ($1,02 млрд) дасталіся кампаніі *Marathon Group*, заснаванай былым кіраўніком інвесткампаніі А1 (падраздзяленне «Альфа-груп») Аляксандрам Вінакуравым і яго партнёрам Сяргеем Захаравым, піша расійскі «Форбс».

ВТБ — камерцыйны банк, кантрольны пакет акцый у ім належыць расійскай дзяржаве. Прэзідэнт ВТБ Андрэй Косцін — блізкі да Пуціна чалавек і лічыцца адным з самых уплывовых у Расіі.



ФОТА З ВІКІПЕДЫІ

Аперацыя з акцыямі «Магніта» прыцягнула ўвагу да асобы Аляксандра Вінакурава. Гэта зяць міністра замежных спраў Расіі Сяргея Лаўрова. Ён пазнаёміўся з дачкой Лаўрова ў Брытаніі, калі вучыўся ў Кембрыджы. Па вяртанні Вінакураў стаў адным з самых высокааплатных менеджараў Расіі і паступова развіў уласны бізнэс.

**Сяргей Гезгала**

# Польшча прапанавала ЗША ўкласці $2 мільярды ў пабудову вайсковай базы на сваёй тэрыторыі

Варшава выступіла з ініцыятывай аб размяшчэнні на тэрыторыі Польшчы пастаяннай вайсковай базы ЗША, дзеля гэтага польскія ўлады гатовыя інвеставаць у агульны праект $1,5—2 млрд. Пра гэта паведамляе польскі партал *Onet* са спасылкай на дакумент польскага Мінабароны.

У польскім ваенным ведамстве сапраўднасць дакумента пацвердзілі. У прэс-службе ведамства дадалі, што дакумент з назвай «Прапанова аб пастаяннай прысутнасці ЗША ў Польшчы» быў распрацаваны «ў рамках мерапрыемстваў, накіраваных на паглыбленне абароннага супрацоўніцтва з ЗША, уключаючы павелічэнне прысутнасці амерыканскіх войскаў у Польшчы» ў 2018 годзе. Ён быў накіраваны ў Кангрэс ЗША, шэраг урадавых структур і аналітычных цэнтраў, у тым ліку прадстаўнікам Атлантычнай рады (*Atlantic council*). Прадстаўнік Атлантычнай рады атрыманне дакумента пацвердзіў.

У дакуменце адзначаецца, што пастаянная прысутнасць у Польшчы дывізіі войскаў ЗША з'яўляецца «неабходнай для стрымлівання ўзмацнелай і небяспечнай пазіцыі Расіі, што пагражае Еўропе». У Варшаве падкрэсліваюць, што стварэнне пастаяннай вайсковай базы ЗША ў Польшчы адпавядае інтарэсам не толькі польскага боку, але і адпавядае Нацыянальнай абароннай дактрыне ЗША, якая «вызначае агрэсію Расіі як галоўную пагрозу Злучаным Штатам і глабальнай стабільнасці».

Адстойваючы неабходнасць стварэння вайсковай базы ў Польшчы, аўтары дакумента ўказваюць на ўсебаковую адпаведнасць краіны стандартам НАТА. Сярод іншага ў дакументе адзначаецца, што Польшча — адна з нямногіх краін, якія выдзяляюць на абаронныя патрэбы ў адпаведнасці з нормамі НАТА 2% ВУП. «З дапамогай пастаяннай прысутнасці [амерыканскіх войскаў] ЗША і Польшча могуць стварыць больш моцны, устойлівы альянс», — падкрэсліваецца ў паведамленні.

У сувязі з гэтым польскі бок прапануе інвеставаць ад $1,5 млрд да $2 млрд у праект размяшчэння ў краіне бранятанкавай дывізіі ЗША. Гэтая сума павінна пакрыць значную частку сродкаў на стварэнне адпаведнай інфраструктуры і падтрыманне боегатоўнасці злучэнняў. Акрамя таго, у карыстанне амерыканскім вайскоўцам можа быць перададзена частка інфраструктуры, якая ўжо знаходзіцца ў распараджэнні Міністэрства абароны Польшчы.

У дадатку да дакумента размешчаны карты Польшчы з указаннем магчымых месцаў размяшчэння базы, транспартных вузлоў і ўжо існуючых ваенных аб'ектаў.

**РБК**



**Кіраўнік Беларусі Аляксандр Лукашэнка і яго сын Коля апрануліся ў традыцыйнае мужчынскае таджыкскае адзенне — чапан. Гэта халат без гузікаў і каўняра. Справа — прэзідэнт Таджыкістана Эмамалі Рахмон. Крыніца: старонка Эмамалі Рахмона ў фэйсбуку.**

# Трагічна загінула місіс свету — 2018

У ноч на 3 чэрвеня загінула ў ДТЗ мадэль з Кыргызстана Санія Шакірава, уладальніца тытула *Missis World* міжнароднага конкурсу прыгажосці *Miss Universe Beauty — 2018*. Прычынай смерці сталі траўмы, атрыманыя ў выніку ДТЗ, паведамляе *K-News*.

Адзначаецца, што жанчына сядзела на пасажырскім сядзенні ў таксі. Вадзіцель не справіўся з кіраваннем, Санія Шакірава загінула на месцы, яшчэ адзін пасажыр шпіталізаваны ў цяжкім стане.

Вядома, што ў Саніі Шакіравай засталіся трое дзяцей.



# Новы прэм'ер Іспаніі папрасіў прыбраць крыж і Біблію падчас прысягання



У Іспаніі з'явіўся новы прэм'ер-міністр. Ім стаў сацыяліст і перакананы атэіст Пэдра Санчэс. Санчэс стаў першым атэістам у гісторыі Іспаніі, які заняў пасаду прэм'ер-міністра. Прысягаючы, ён папрасіў, каб на гэтай цырымоніі не было традыцыйных у такіх выпадках крыжа і Бібліі.

Санчэс мае намер кіраваць урадам па меншай меры два гады, што засталіся да наступных парламенцкіх выбараў.

46-гадовы лідар сацыялістаў атрымаў падтрымку шасці іншых іспанскіх партый і заняў месца Марыяна Рахоя, які пайшоў з прэм'ерскага паста пасля карупцыйнага скандалу.

Партыя Санчэса мае толькі чвэрць месцаў у парламенце, і перад яе лідарам будзе няпростая задача фарміравання новага кабінета міністраў, які, як чакаюць, будзе абвешчаны на наступным тыдні.

**BBC**

# Біл Клінтан заявіў, што не жадае выбачацца перад Монікай Левінскі

Былы прэзідэнт ЗША Біл Клінтан заявіў, што не збіраецца асабіста прасіць прабачэння ў Монікі Левінскі, праз сувязь з якой у 1998 годзе яму ледзь не абвясцілі імпічмент. Пра гэта ён сказаў у інтэрв'ю тэлеканалу *NBC News*.

Клінтан нагадаў, што публічна папрасіў прабачэння ў Левінскі і «перад усім светам». «Я не раз публічна гаварыў, што мне шкада», — сказаў ён. На пытанне вядучага, ці лічыць Клінтан, што павінен асабіста папрасіць прабачэння перад Левінскі ў святле актывізацыі ў ЗША руху *#MeToo* («Я таксама») супраць сэксуальных дамаганняў, ён адказаў: «Не».

На думку былога амерыканскага прэзідэнта, журналісты пры асвятленні скандалу з Левінскі праяўляюць небесстароннасць, бо мэтанакіравана «грэбуюць фактамі».

# Пад Лунінцам масавая бойка з бітамі «вясковых» з «гарадскімі» скончылася смерцю расіяніна

На беразе Цны ў Лунінецкім раёне адбылася вялікая бойка паміж гарадскімі і вясковымі. На наступны дзень было знойдзена цела 32-гадовага мужчыны.

Зараз Следчы камітэт высвятляе прычыну смерці, па факце бойкі распачатая крымінальная справа па ч. 3 арт. 339 КК (Хуліганства, здзейсненае з прымяненнем зброі, іншых прадметаў, якія выкарыстоўваюцца ў якасці зброі для прычынення цялесных пашкоджанняў).

— Усё здарылася ў суботу ў вёсцы Дрэбск, два мясцовыя хлопцы ішлі на дзень нараджэння, а ў адным з дамоў адпачывалі гарадскія. Не ведаю, праз што, але паміж імі здарылася бойка, — распавядае *TUT.BY* Мікалай Васільевіч, бацька 23-гадовага пацярпелага Рамана. — Як распавядаў сын, вясковыя хлопцы пайшлі на рэчку, гарадскія выклікалі сваіх сяброў. Прыехалі ў 23.00 з бітамі на пяці легкавых аўтамабілях і адным мікрааўтобусе. Паводле яго слоў, білі ўсіх запар: і хлопцаў, і дзяўчат. У Рамы невялікія гематомы на галаве, раны на нагах, білі па рэбрах.

23-гадовага Рамана адразу даставілі ў бальніцу, на наступны дзень выпісалі. Цяпер ён дае паказанні ў Следчым камітэце.

У нядзелю на месцы здарэння ў вёсцы Дрэбск працавала аператыўна-следчая група.

— У гэты ж дзень у 14.45 міліцыянерам-кіроўцам за 200 метраў ад берага ракі Цны быў знойдзены труп мужчыны без бачных прыкмет гвалтоўнай смерці. Па факце смерці мужчыны праводзіцца праверка, прызначана судова-медыцынская экспертыза, — каментуе *TUT.BY* Дзмітрый Іванюк, афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта па Брэсцкай вобласці.

Загінуламу 32 гады, ён прыехаў у Беларусь з Мурманска разам з сябрам, каб адпачыць. У СК адзначаюць, што выявлена: жыхар РФ вечарам у суботу разам з кампаніяй адпачываў на беразе Цны, а затым здарылася бойка, у якой яны, па папярэдняй інфармацыі, таксама ўдзельнічалі.

**Кацярына Барысевіч, Tut.by**

# Шуневіч выказаўся пра збіццё Чалага

Сяргей Чалы пацярпеў у выніку «банальнай п'янай бойкі». Аб гэтым кіраўнік МУС Ігар Шуневіч заявіў у эфіры тэлеканала «Беларусь 1».

— Спяшаюся расчараваць усіх тых, хто спрабаваў падвесці подбіўку пад шараговае злачынства, у тым ліку і самога пацярпелага, — адзначыў Шуневіч і заявіў, што Сяргей Чалы пацярпеў у выніку п'янай бойкі.

Хто быў яе ініцыятарам, заявіў Шуневіч, высветліць следства. Ён не выключыў, што распачатая крымінальная справа скончыцца судом.

— Факт застаецца фактам — банальная п'яная бойка дзвюх кампаній, — яшчэ раз паўтарыў Шуневіч.

Ён распавёў, што злачынства ўдалося раскрыць па гарачых слядах дзякуючы запісам з камер відэаназірання. Усе ўдзельнікі канфлікту былі высветленыя і затрыманыя.

**Tut.by**



# 15-гадовая маладая мама з-пад Драгічына дабілася, каб ёй аддалі на выхаванне дзіця. І зноў збегла з дому

Брэсцкая міліцыя аб'явіла ў вышук 15-гадовую Дзіяну Марозаву з драгічынскай вёскі Старамлыны. Яна рэкардсменка краіны ў сумнай намінацыі — уцякала з дому ўжо каля дзесяці разоў.

Дзяржаўныя СМІ пераказвалі словы дзяўчыны, што яна зарабляла прастытуцыяй: «Да мяне падсеў 25-гадовы хлопец. Разгаварыліся. Ён піў гарэлку і пачаў частаваць мяне. А пасля паехалі ў гасцініцу... Ён даў мне 100 рублёў. Увогуле, я лічу, што за такое — гэта вельмі мала».

Асаблівасць сітуацыі ў тым, што Дзіяна цяпер — маладая мама.

Яна зацяжарыла ў 14 гадоў. Дарэчы, хто бацька маленькага Мікалая, — невядома.

Непаўналетняй маці не маглі даверыць дзіця, таму яго спачатку забралі ў Дом дзіцяці. У такой сітуацыі апякунства звычайна афармляюць на сваякоў, аднак да Марозавых у чыноўнікаў былі прэтэнзіі праз антысанітарыю ў доме. Усемярых яны жывуць у двухпакаёвай хаце на хутары.

Урэшце ўлады пайшлі насустрач Марозавым і афармілі апякунства на бабулю — маці Дзіяны — і яе мужа.

У Хомскай сярэдняй школе адзначаюць, што Дзіяна знікла за некалькі дзён да апошняга званка. Як яна будзе здаваць экзамены, пакуль невядома, піша *Sb.by*.

Па інфармацыі «НН», Дзіяна знікла ў чацвер, 24 мая. Яна пайшла ў школу і не вярнулася. Мабільны тэлефон з сабой не ўзяла. Дзіця знаходзіцца ў бяспецы, з бабуляй.

**БЮ**

# «За гадзіну брала 20 даляраў»: у Мінску затрымалі 16-гадовую прастытутку

Падчас правядзення аператыўна-прафілактычных мерапрыемстваў супрацоўнікі міліцыі ўстанавілі, што 16-гадовая мінчанка аказвае інтымныя паслугі за ўзнагароджанне, піша *sb.by*.

«Патэнцыйных кліентаў дзяўчына знаходзіла ў сацсетках і на сайтах знаёмстваў. Сустракалася з кліентамі на здымных кватэрах. За гадзіну брала 20–25 даляраў. Пры гэтым бацькам распавядала, што знаходзіцца на вучобе ў каледжы. А ў навучальнай установе падавала падробленыя даведкі аб тым, што хварэе», — распавяла падразбязнасці справы афіцыйны прадстаўнік Кастрычніцкага РУУС Мінска Эвеліна Дручыніна.

Супрацоўнікам затрыманая расказала, што займаецца падобным «бізнэсам» прыкладна паўгода. Прычым, па яе словах, робіць гэта яна таму, што ёй гэта падабаецца.

У дачыненні да дзяўчыны складзены адміністрацыйны пратакол за заняткі прастытуцыяй. Матэрыялы накіраваныя ў камісію па справах непаўналетніх.

## Зноў маскітная сетка: двухгадовы хлопчык выпаў з акна ў Пружанах

У Пружанах з акна выпала двухгадовае дзіця, паведаміў БелТА афіцыйны прадстаўнік УСК па Брэсцкай вобласці Дзмітрый Іванюк.

Няшчасны выпадак адбыўся 3 чэрвеня прыкладна ў 11.25. Дзіця ў кватэры, размешчанай на першым паверсе, забралася на падаконнік і, націснуўшы на маскітную сетку, выпала на вуліцу. Вышыня падзення склала 2,5 м.

У выніку хлопчык атрымаў цялесныя пашкоджанні. Ён шпіталізаваны.

Па дадзеных следства, маці ў момант здарэння была ў кватэры яшчэ з трыма дзецьмі.

# У Мінску нехта кінуў 500 еўра ў скрыню для ахвяраванняў, але…




Наш чытач Сяргей заўважыў у адным з гандлёвых цэнтраў у скарбонцы для ахвяраванняў 500 еўра.

Але калі прыгледзецца, банкнота з'яўляецца сувенірнай. На жаль, хтосьці падобным чынам вырашыў пажартаваць.

Будзьце ўважлівымі і заўсёды звяртайце ўвагу на дэталі!

**nn.by**

# На мінскіх вуліцах высыхаюць каштаны

Не паспеў яшчэ скончыцца май, а лісце каштанаў уздоўж вуліц часткова афарбавалася ў іржавы колер, а дзе-ніdзе і зусім засохла і скруцілася ў трубачку. Агенцтва «Мінск-Навіны» разбіралася, чаму дрэвы выглядаюць такімі хворымі.

Па словах кіраўніка службы па добраўпарадкаванні і ўтрыманні аб'ектаў зялёнай гаспадаркі УП «Мінскзялёнбуд» Анжалікі Пузанковай, апёк лісця каштанаў — вынік выкарыстання солі для процігалалёднай апрацоўкі вуліц. Нягледзячы на памыўку крон і ствалоў, праліўы глебы, падкормкі і іншыя захады, якія азеляніцелі выконваюць пасля кожнай зімы, хларыд натрыю ўсё адно ўплывае на фізіялогію раслін. Уздзейнічаюць на зеляніну і выхлапныя газы.

Дык чаму ж уздоўж адной вуліцы ў адным шэрагу дрэвы прыкладна аднолькавай вышыні, а значыць, і ўзросту выглядаюць па-рознаму: адны каштаны з пышнай кронай, іншыя практычна лысыя?

Па словах Пузанковай, у кожнага дрэва, як і ў чалавека, свой імунітэт. Некаторыя пераносяць негатыўныя ўздзеянні горада горш за астатніх. Аднак выдаляць каштаны, на якіх лісце трымаецца толькі каля месяца, каб пасадзіць на іх месцы новыя дрэвы, азеляніцелі не плануюць.

Яна таксама дадала, што ў некаторых месяцах на гэтыя дрэвы нападае каштанавая моль, лічынкі якой сілкуюцца лісцем расліны, што прыводзіць да страты дэкаратыўнасці крон.

# Рэпартаж з вёскі Муравейніца, дзе жывуць самыя працавітыя людзі Беларусі

**У конкурсе «Навучы бабулю рабіць сэлфі!», што «Наша Ніва» зладзіла разам з Samsung Galaxy A8|A8+, перамаглі ўсмешлівая Марыя Азбука і яе ўнучка Наталля. За іх галасавалі ўсе сваякі, знаёмыя і знаёмыя знаёмых з Гомельшчыны. Сёння мы расказваем падрабязней пра дружную сям'ю і вёску Муравейніца, дзе нарадзіліся і выраслі тыя, хто носіць прозвішча Азбука.**



Марыя Фёдараўна з унучкай Наталляй як найлепшыя сяброўкі.

Калі адмотваць усё назад, то, каб угаварыць бабулю Марыю ўзяць удзел у конкурсе, унучцы прыйшлося змарнаваць два дні. Марыя Фёдараўна адпіралася, спасылаючыся на непублічнасць і тое, што дрэнна атрымліваецца на фота. Але пасля здалася: адзіная і любімая ўнучка Наталля ўпэўніла ў тым, што яна дужа абаяльная, таму заслугоўвае, каб пра яе даведалася як мага больш людзей. Дзяўчына хоць і жыве ў Гомелі, прыязджае да бабулі вельмі часта — у іх вельмі моцная сувязь.

Вось і сёння Наталля адпрасілася з працы (займаецца бізнэсам, звязаным з касметычнымі паслугамі), каб раздзяліць радасць перамогі са сваёй любай МС Азбукай.

### Людзі-мурашы

Мясцовыя сцвярджаюць, што вёску Муравейніца назвалі так таму, што тут жылі самыя працавітыя людзі. Як мурашы. Праўда, сёння ў ваколіцах «і п'яніц, і дармаедаў таксама хапае», расказвае бабуля.

Нейкі час вёску атакавалі цыганы. Аднойчы праз іх хітрыкі Марыя Фёдараўна страціла ўсе сямейныя каштоўнасці: цыганка зайшла ў хату папіць вады, а ўвечары высветлілася, што яна завітвала не толькі праз смагу. У пачатку нулявых хату зноў спрабавалі абрабаваць: пакуль гаспадары капалі бульбу, 17-гадовы падлетак нейкім чынам уціснуўся ў фортку і вынес шмат рэчаў.

Праўда, іх разам са злачынцам, у адрозненне ад цыганкі, хутка знайшлі. На шчасце, апошнія гадоў дзесяць такіх непрыемнасцей у гэтых краях не здаралася.

Кажуць, злачынцаў прываблівала тое, што дом сям'і Азбукаў адзін з найпрыгажэйшых у вёсцы: у свой час ён атрымаў таблічку са званнем «узорны». Хоць будаваўся ў 1960-я, але і цяпер стаіць на падмурку трывала: усё рабілася сваімі рукамі, таму на стагоддзі. «Толькі дах у нас непрыгожы, трэба новы зрабіць», — дзеліцца гаспадарчымі планамі спадарыня Азбука.

Насамрэч, сям'я жыла даволі сціпла. Працуючы ў гаспадарчай краме, жанчына атрымлівала каля 70 рублёў. А «дзед» (менавіта так Марыя Фёдараўна называе мужа) пастаянна эканоміў.

«Ён у мяне ні капейчыны не прапіваў, але вечна адкладаў на кніжку. Памятаю, у вясковую краму неяк завезлі прыгожыя паўкажушкі. Дай, думаю, набудзем дочкам. Адзін ён купіў, разарыўся. А другі — не. А грошы хутка «згарэлі». Я тады яму сказала: «Гэта цябе Бог так пакараў, бо ты ўсё грошай шкадаваў», — усміхаецца жанчына.

### Каханне на ўсё жыццё

Муж Марыі Фёдараўны быў трактарыстам-перадавіком, меў шмат працоўных медалёў, яго партрэт пастаянна вісеў на дошцы гонару.

У 2005-м, на 67-м годзе жыцця, Васіль, які на рэтрафотаздымках нагадвае маладога Шварцнэгера, памёр. «У яго крэпка круціла ногі. Думаем, што вінаватая чарнобыльская радыяцыя. Усе мужчыны-трактарысты, што з ім у саўгасе рабілі, рана сышлі з жыцця», — выказвае здагадкі бабуля. Марыя размаўляе па-беларуску, толькі там-сям у гаворцы праскоквае рускае слоўца ці чуецца ўкраінскі акцэнт.

Незвычайнае прозвішча Марыі перайшло ад мужа. Як і жонка, Васіль нарадзіўся ў Муравейніцы і тут пражыў усё жыццё. Знаёмыя яны былі з самага маленства. «Гулялі разам, ён мяне і біў нават малую, — смяецца Марыя Фёдараўна. — Пасля хадзілі за кіламетр у школу ў Дудзічах. А ўжо дарослымі ўзяліся за рукі і пайшлі ў сельсавет распісвацца». Здарылася гэта 29 лютага, таму афіцыйныя гадавіны муж і жонка святкавалі рэдка, але так, як трэба. Як і само вяселле: на свята сабралася ўся вялікая вуліца Чырвонакастрычніцкая. Строі — як мае быць: пашытая вясельная сукенка з вянком і вэлюмам у нявесты, гарнітур — у жаніха. Каля бацькоўскага дома спецыяльна пабудавалі шалаш пад брызентам, бо ў саму хату ўсе не змяшчаліся. Так і «гасцявалі» на вуліцы. «Гэта цяпер людзі нейкія іншыя сталі, заціснутыя, а тады ўсе былі адзін за аднаго» — дзеліцца думкамі гаспадыня.

Муж Марыі Фёдараўны Васіль Васілевіч з дочкамі.

Жанчына кажа, што кахае мужа і сёння: «Ён у мяне адзін на ўсё жыццё». Таму астатнія кавалеры, якія сваталіся да яе пасля смерці Васіля, атрымалі адмовы.

### Не адмаўляць сабе ні ў чым

Пра ваенны перыяд жанчына нічога не памятае. Кажа, тыя першыя гады жыцця, якія і прыйшліся на вайну, — як белы ліст. Толькі па расповедах сваякоў ведае, што іх вёска была акупаваная немцамі, але яны тут асабліва не лютавалі. Суседнім мястэчкам пашанцавала куды менш: Шалыпы, што непадалёк, немцы спалілі амаль дашчэнту.

Сёння, калі дзве дачкі і ўнучка ўжо дарослыя, жанчына займаецца кветкамі, агародам, «парадкам». «Я люблю, калі не завалена нічога ў шафах. Таму старыя рэчы то бедным раздаю, то на смецце выношу», — тлумачыць спадарыня Марыя.

На дні народзінаў Марыі Фёдараўны вуліца поўніцца спевамі «Ці вінаватая я», «Ля царквы стаяла карэта», «Пад акном шырокім»... Іх любіць зацягнуць як і сама гаспадыня, так і абедзве старэйшыя сястры, што прыязджаюць гасцяваць.

Калі застаецца адна і няма спраў па гаспадарцы, то Марыя Азбука сядае за кніжкі. Іх у доме — цэлая бібліятэка. «Кніжкі я запоем чытаю. Акрамя сваіх, мне з калінкавіцкай бібліятэкі дачка шмат чаго прывозіць. А нядаўна парадавала ўнучка: я вельмі хацела перачытаць раманы «Белая бяроза» Міхаіла Бубенава і «Сям'я Раманюк» Яўгенія Папоўкіна. Упершыню я пазнаёмілася з імі ў год 18, і вельмі даспадобы напісанае прыйшлося. У бібліятэках шукалі іх — няма. Тады мая Ната знайшла іх у кагосьці дома і мне зрабіла сюрпрыз».

Марыя Азбука кажа, што трэба браць ад жыцця ўсё. Вось ёй, напрыклад, як бы нельга есці цукеркі, але як можна адмаўляць сабе ў тым, чаго душа патрабуе? І сэлфі яна асвоіла. І яшчэ шмат чаго наперадзе.

З найбліжэйшых планаў — адрамантаваць дах над галавой. І, як амаль любая бабуля, Марыя Фёдараўна хоча дачакацца праўнукаў. Астатняе ў яе ёсць.

**Кацярына Карпіцкая,**
**фота Волі Афіцэравай**



Кошка Ліза выдатна абараняе дом ад мышэй. Пасля яе з'яўлення яны ў доме папросту зніклі.

# Сетка: як Расія стварае ў Беларусі рэгіянальныя сайты на базе аўтараў з «Румола» і НОДа

Мы заўважылі, што адначасова ў некалькіх абласных гарадах з'явіліся сайты, якія мімікруюць пад лакальныя навінавыя рэсурсы. Усе яны не маюць уласных інфармацыйных матэрыялаў, а толькі перастаўляюць навінавы кантэнт іншых СМІ. Пры гэтым ува ўсіх іх чужы кантэнт у пэўнай прапорцыі разбаўляецца «аналітыкай» антыбеларускага ды антызаходняга зместу.

Мы сталі шукаць, хто выдае гэтыя рэсурсы. Аказалася, усіх іх аб'ядноўвае і тое, што ніякіх канктактаў і персаналізацыі ўласніка сайта няма. Пры спробе праверыць даменнае імя сайта высвятляецца, што яно зарэгістравана ў Расіі праз сэрвіс, які за грошы дазваляе хаваць імя ўладальніка.

Ёсць і яшчэ некалькі супальных рысаў. Усе яны актыўна праводзяць рэкрутынг падпісантаў у сацыяльных сетках у пэўным рэгіёне. Аналітыку для іх пішуць актывісты «Румола» і НОДа («Национально-освободительного движения»). З паглыбленага аналізу вынікае, што за ўсімі гэтымі сайтамі стаяць сродкі з расійскіх фондаў.

Першым сярод іх утварыўся рэсурс з красамоўнай назвай «Наш Гомель», які знаходзіцца па адрасе *sozh.info*.

Праверка адраса паказвае, што рэгістрант сайта знаходзіцца ў Расіі і не хоча афішаваць сваё імя.

Наведвальнасць рэсурсу можна ацаніць праз параўнанне з іншымі гульцамі на рынку, якіх у Гомелі некалькі:

— прыватны беларускі рэсурс «Моцныя навіны» — 3,2 млн праглядаў старонак сайта за красавік 2018 года паводле *SimilarWeb*;

— сайт дзяржаўнай газеты «Гомельская праўда» — 269 тысяч праглядаў старонак;

— сайт дзяржаўнай газеты «Гомельскія ведамасці» 106 тысяч праглядаў старонак;

— сайт «Наш Гомель» — 346 тысяч праглядаў старонак. Больш, чым дзяржаўныя рэсурсы, але менш, чым «Моцныя навіны».

(Адзначым таксама сайт «Пра-Гомель», які мае мінімальную долю ўласных матэрыялаў. Але ягоны ўладальнік Максім Шалянок запэўніў нас, што пакуль сайт працуе ў тэставым рэжыме, бо чакае афіцыйнай рэгістрацыі.)

Такім чынам, мы бачым, што рэсурс невядомай прыналежнасці хаця і не выглядае канкурэнтам незалежнаму сайту, але ўжо мае наведвальнасць, сувымерную з двума дзяржаўнымі сайтамі разам узятымі, і па папулярнасці займае другое месца ў рэгіёне.

Каля паловы трафіку ідзе на сайт з сацыяльных сетак — суполкі «УКантакце» (5800 удзельнікаў), «Аднакласнікаў» (5000 удзельнікаў), «Фэйсбука» (2 тысячы ўдзельнікаў).

Дзённая наведвальнасць — каля 6 тысяч «унікальных», паводле *Google Analitycs*.

Сайт пачаў працаваць у сакавіку 2016 года.

Сайты «Віцьбіч» і «Берасце *News*», якія працуюць на Віцебск

sozh.info — Updated 120 days

**DOMAIN INFORMATION**

| | |
|---|---|
| Domain: | sozh.info |
| Registrar: | Regional Network Information Center, JSC dba RU-CENTER |
| Registration Date: | 2016-02-28 |
| Expiration Date: | 2018-02-28 |
| Updated Date: | 2017-08-13 |
| Status: | clientTransferProhibited |
| Name Servers: | ns1.hosting.reg.ru<br>ns2.hosting.reg.ru |

**REGISTRANT CONTACT**

| | |
|---|---|
| Name: | Privacy protection service - whoisproxy.ru |
| Organization: | Privacy protection service - whoisproxy.ru |
| Street: | PO box 99, whoisproxy.ru |
| City: | Moscow |
| State: | Moscow |
| Postal Code: | 123308 |
| Country: | RU |
| Phone: | +7.4957856536 |
| Email: | **sozh.info**@whoisproxy.ru |

**ADMINISTRATIVE CONTACT**

| | |
|---|---|
| Name: | Privacy protection service - whoisproxy.ru |
| Organization: | Privacy protection service - whoisproxy.ru |
| Street: | PO box 99, whoisproxy.ru |
| City: | Moscow |
| State: | Moscow |
| Postal Code: | 123308 |
| Country: | RU |
| Phone: | +7.4957856536 |
| Email: | **sozh.info**@whoisproxy.ru |

**Рэгістрант сайта sozh.info знаходзіцца ў Расіі і не хоча афішаваць сваё імя.**

і Брэст адпаведна, але створаны яны значна пазней (2018 год) і пакуль іх папулярнасць у зоне пагрэшнасці.

Асабняком у гэтым шэрагу стаіць Магілёў, дзе прарасійскім сайтам з'яўляецца «Магілёў.бай».

«Нягледзячы на забарону ўладаў, у Мінску адбыўся «Несмяротны полк», «Як правільна насіць георгіеўскую стужку», «Беларускія карнікі на Данбасе даўно не памiралі», «Нацыяналісты ва ўгары» — тыповыя публікацыі на згаданых рэсурсах, якія разбаўляюць нейтральныя інфармацыйныя матэрыялы. Імёны іх аўтараў лёгка гугляцца. Юлія Чырва ўсплывала як прэс-сакратарка «Национально-освободительного движения» і аўтарка партала *sobor.by*. Дзмітрый Перс — не толькі аўтар *Politring.com* і *Mogilev.by*, *Imhoclub.by*, *Belvpo.com*, але і намеснік кіраўніка «Румола». Дзмітрый Ісаёнак — аўтар таксама на *Sonar2050.org* і *Teleskop-by.org* — іншых сайтаў, што выдаюць сябе за беларускія, але існуюць у расійскіх ланцужках. І гэтак далей.

### Адкуль ногі растуць?

Імпульсы, у выніку якіх ствараюцца такія мясцовыя сайты, не заўсёды лёгка адсачыць.

У 2015 годзе ў Смаленску прайшла непрыкметная канферэнцыя беларускіх і расійскіх дзеячаў, на якой упершыню прагучала думка аб «неабходнасці стварэння стратэгіі інфармацыйнай бяспекі «Саюзнай дзяржавы», у падмурак чаго мусяць легчы традыцыйныя каштоўнасці і супольныя культурныя звычаі».

Арганізатарамі тады выступілі «Агенцтва аналізу інтэграцыйных ініцыятыў», Аналітычная асацыяцыя Арганізацыі Дамовы аб калектыўнай бяспецы і мясцовыя ўлады Смаленска.

З беларускага боку ўдзел бралі збольшага навукоўцы.

У прыватнасці, прарэктар на навуковай рабоце Магілёўскага дзяржуніверсітэта Аляксей Іваноў тады прапаноўваў сінхранізаваць універсітэцкія праграмы краін, бо «трэба арыентавацца на фарміраванне супольнага культурнага поля Расіі і Беларусі, адзінай базы даных, вобразаў і сімвалаў, якія выклікаюць у расіян і беларусаў падобныя інтэлектуальныя і эмацыйныя рэакцыі».

Лейтматывам стала думка, што «Захад атакуе каштоўнасці Расіі і Беларусі», а ў выніковай рэзалюцыі круглага стала прапаноўвалася «развіваць даследаванні формаў міжкультурнай камунікацыі прыгранічных рэгіёнаў РБ і РФ, ства-



**Смаленская канферэнцыя 2015 года.**

раць інфармацыйныя парталы, ролікі і фільмы, якія транслююць агульныя падыходы ў культурна-гістарычнай сферы і супрацьдзейнічаюць распаўсюду нацыяналістычных настрояў сярод моладзі».

У 2016-м годзе на базе таго ж СмалДУ быў створаны цэнтр вывучэння беларуска-расійскага памежжа, запрацавала праграма «Рэалізацыя трансгранічнай інфармацыйнай палітыкі», у рамках якой пры падтрымцы смаленскіх уладаў запрацаваў сайт «Расійска-беларускае інфармацыйнае агенцтва», які пераважна піша пра тры ўсходнія вобласці Беларусі і дзве заходнія вобласці Расіі.

Піша ў даволі тэндэнцыйным прарасійскім ключы, але ў выніку ад актыўнага прасоўвання гэтага агенцтва стваральнікі адмовіліся, абраўшы іншы кірунак.

У красавіку 2017 года спачатку ў Гомелі, а потым у Смаленску прайшоў моладзевы форум «Беларусь і Расія: супольная культурная спадчына», дзе сярод спікераў быў, у прыватнасці, Кірыл Авяр'янаў — дзеяч шавіністычнага толку, якому забаронены ўезд у Беларусь.

Ён даволі шчыра і з мінімальнымі ўтойваннямі прадэклараваў намеры арганізатараў: «Апроч фонду «Народнай дыпламатыі» ў Беларусі, па сутнасці, ніхто не працуе ў кірунку прасоўвання расійскай «мяккай сілы». Мы сканцэнтраваныя на культурна-асветніцкай дзейнасці, выдаём кнігі і працуем з экспертнай супольнасцю. Мы сфарміравалі клуб беларускарасійскіх экспертаў, якія ствараюць станоўчы інфармацыйны парадак, адстойваюць інтарэсы інтэграцыі дзвюх краін, выступаюць у СМІ. Асноўная мэта моладзевага форуму — прыцягнуць аўдыторыю да сюзнага будаўніцтва», — сказаў Авер'янаў таму самаму «Расійска-беларускаму інфармацыйнаму агенцтву».

У хуткім часе смаленскі «Цэнтр інтэграцыйных ініцыятыў» атрымаў грант прэзідэнцкага фонду Расіі, каб працаваць мэтава з прадстаўнікамі беларускіх СМІ, блогерамі і бізнэсам.

Гэтую задачу на сябе ўзяў «Смаленскі цэнтр развіцця журналістыкі», у 2018 годзе ўзнік яшчэ адзін праект для блогераў — «Медыяплатформа».



**Яўген Валодчанка на альтэрнатыўным маршы «Несмяротны полк» у Мінску.**

Глянем на іх актыўнасць. На пачатку 2018 года ў Смаленску арганізаваны «Клуб маладых экспертаў па памежжы», куды былі запрошаныя шэраг беларусаў, у асноўным — студэнтаў з усходу Беларусі.

Сімвалічна, што на першую сустрэчу з лекцыяй прыехаў расійскі прапагандыст Уладзімір Ляпёхін — сябра Зіноўеўскага клуба «Расія сёння», вядомы сваімі матэрыяламі пра «герояў Данбаса».

Лекцыю ён чытаў адпаведную — пра інфармацыйныя войны, а таксама «раскрываў таямніцы сусветнай геапалітыкі».

На аналагічныя лекцыі ў Смаленск масава пачалі запрашаць супрацоўнікаў дзяржаўных газет Оршы, Гомеля, Магілёва і драбнейшых гарадоў рэгіёна. Запрашаліся і дробныя чыноўнікі. А ў Віцебску мясцовая газета з «Агенцтвам інтэграцыйных ініцыятыў» увогуле падпісала «дамову аб супрацоўніцтве».

Уплыў такіх семінараў на мазгі ўдзельнікаў дазваляе ацаніць эвалюцыя асобна ўзятага гомельскага блогера Яўгена Валодчанкі.

Малады чалавек, адчуваючы прагу дзяліцца з гэтым светам уражаннямі, у 2016 годзе пачаў весці ютуб-канал, куды заліваў нейтральныя відэа, кшталту справаздач з добрушскага святкавання Дня моладзі, дабрачынных акцый і азотных шоу.

Пасля таго, як блогера заўважалі са Смаленска і сталі туды запрашаць, ягонае светаўспрыманне рэзка мяняецца.

У сваіх відэа ён пачынае супрацьпастаўляць беларускую мову рускай, факусуе ўвагу на вайне ў Сірыі, а таксама абвінавачвае іншых гомельскіх блогераў.

Валодчанка ўступае ў «Румол» — арганізацыю рускіх нацыяналістаў у Беларусі, якой кіруе Сяргей Лушч.

Цяпер Валодчанка здымае відэаапытанкі для таго самага сайта «Наш Гомель».

Цікава, што пачатак работы гомельскага хлопца на расійскі праект супаў па часе са стартам работы брэсцкага сайта «Берасце *News*» — супадзенне ці павелічэнне фінансавання «з цэнтра»?

Хто ж кіруе «Нашым Гомелем»?

З дапамогай спецыяльных інструментаў мы выявілі адміністрацыю прынамсі суполкі сайта «УКантакце» — кіраўніком аказалася Таццяна Сыч.

Высветлілася, што яна — актыўная ўдзельніца семінараў па лініі «Цэнтра інтэграцыйных ініцыятыў» для журналістаў.

Яе муж Андрэй Сыч — таксама актывіст «Румола».

Выглядае, што асноўная работа «інтэгратараў» са смаленскага цэнтра вядзецца праз грамадскія аб'яднанні. У прыватнасці, пагадненне аб супрацы з «Цэнтрам інтэграцыйных ініцыятыў» мае магілёўскае сацыяльна-культурнае таварыства «Наследие».

«Наследием» кіруюць супрацоўнікі магілёўскага Беларуска-расійскага ўніверсітэта — Ірына Хадкевіч і Віталь Арцёмчык.

Расійская сімволіка ўвогуле суправаджае дзейнасць «Наследия» паўсюль. Так было, напрыклад, на сёлетнім святкаванні Дня Перамогі ў горадзе — дзе б яны ні з'яўляліся, тут жа ў руках людзей з'яўлялася сімволіка суседняй дзяржавы.




Кіруе «Румолам» Сяргей Лушч.



Андрэй Сыч справа, цяпер ён «намеснік кіраўніка» «Румола» ў Гомелі. На фота: раздача георгіеўскіх стужак.

Афіцыйныя СМІ рэгіёна пасля актывізацыі дзейнасці расійскіх структур павялічылі інфармацыйнае суправаджэнне падобных «міжнародных» мерапрыемстваў.

Цікавай таксама выглядае методыка наладжвання кантактаў расійскіх фондаў з беларускім бізнэсам.

Як прыклад — спроба знаёмства з кіраўніцтвам «Вітэкса» пад выглядам «узнагароджвання за годнае месца па выніках апытання».

Аналагічным чынам Расія дзейнічала ў Крыме і Данбасе, ствараючы і прасоўваючы арганізацыі, скіраваныя на размыванне нацыянальнай ідэнтычнасці.

### Юрыдычны аспект

Сыходзячы з існага заканадаўства, работа ананімных сайтаў у Беларусі не забароненая.

Як патлумачылі «Нашай Ніве» у Міністэрстве інфармацыі, такая сітуацыя захаваецца нядоўга.

«Калі рэдакцыя зменаў у Закон (у патрэбнай частцы) будзе прынятая без зменаў, то там будзе такі пункт аб неабходнасці ўладальнікаў інфармацыйных рэсурсаў пакідаць свае дадзеныя, нават калі яны знаходзяцца не ў даменнай зоне *.by*. І будзе так, што калі ананімны сайт, які размяшчае інфармацыю пра Беларусь, не апублікуе звестак аб уладальніках, то мы зможам абмяжоўваць да яго доступ», — сказалі нам у міністэрстве.

### Часнок у тэлескопе

Гаворачы пра сайты, якія кіруюцца людзьмі, што сябе хаваюць, і фінансуюцца з няясных крыніц, варта згадаць яшчэ некалькі.

Мяркуючы па ўсім, грошы на іх работу выдаюцца «па іншай лініі», але з той жа самай скарбонкі.

Напрыклад, «Часнок.бай» — рэсурс трымае ў фокусе Беларусь і піша толькі пра яе. Гэты сайт вядомы метадычным ачарненнем беларускай інтэлігенцыі — ад Глеба Лабадзенкі да Святланы Алексіевіч. Рэсурс даволі спецыфічны, з выразным непрыманнем усяго беларускага, які, аднак, мімікруе пад беларускі сайт.

Хто ж яго вядзе?

Хаця сайт знаходзіцца ў даменнай зоне *.by*, уласнік сябе не афішуе. Праўда, яго асобу мы ўсё адно высветлілі — гэта расіянін Глеб Дзееў.

Чалавек заблытанага лёсу, які прыканцы 90-х паспеў папрацаваць на шэрагу маскоўскіх радыёстанцый, быў вядучым «Рускага радыё».

Потым захапіўся клубнай музыкай і стаў дыджэем, але пасля пажару, у якім загінуў яго сябар, сышоў у манастыр.

З манастыра, аднак, ён выйшаў хутка і падаўся... у Адэсу працаваць там настаўнікам рускай мовы і літаратуры.

Дзееў захапляецца шызоіднымі ідэямі «КОБ» — «Канцэпцыі грамадскай бяспекі». (Некалі мы ўжо пісалі пра прыхільнікаў «КОБа» — яны вераць у рэптылоідаў і «глабальны надыудзейскі прэдыктар», асобныя нават чытаюць лекцыі беларускім ідэолагам.

Далей Дзееў вярнуўся ў Расію, стварыў сайт «Часнок.бай» пра Беларусь — хаця ў Беларусі быў усяго пару разоў, дый і тое па клубнай лініі, яшчэ дыджэем.

Якая яму справа да нашай краіны?

На гэтае пытанне «Нашай Нівы» Дзееў адказаў расплывіста: «Перад намі стаяць аднолькавыя выклікі», сваё кіраванне сайтам пацвердзіў.

За вярбоўку журналістаў унутры краіны, якія згодныя пісаць на «Часнок» у патрэбным духу, адказвае шэраг апалагетаў «КОБа» ў Беларусі.

Фінансавая дзейнасць пры гэтым вядзецца даволі няззграбна — як расказала «Нашай Ніве» адна студэнтка журфака, якая ў маладосці напісала пару артыкулаў на «Часнок», ганарар пералічваецца наўпрост на карту без якой-колечы дамовы.

Яшчэ адзін сайт з гэтага ж шэрагу — «Тэлескоп». Пра гэты сайт можна расказаць у адным сказе: яго рэдагуе той самы згаданы вышэй Кірыл Авяр'янаў.

Авяр'янаў адмовіўся ад беларускага грамадзянства і прыняў расійскае, што яскрава характарызуе і ідэалогію гэтага рэсурсу. Да рэдагавання ён прыцягнуў заходнерусіста-ветэрана Льва Крыштаповіча.

Наведвальнасць «Тэлескопа» знаходзіцца ў зоне пагрэшнасці, але ўласнікі маюць грошы, каб праплочваць рэкламу ў сацыяльных сетках.

Варта адзначыць, што беларускіх патрыятычных арганізацый, кшталту ўмоўнай «Арт-сядзібы», у рэгіёнах Беларусі мала, сістэмнай дапамогі ім з боку дзяржавы няма.

Часам здаецца, што дзейнасць арганізацый тыпу «Румола» зводзіцца да раздачы георгіеўскіх стужак, а Цэнтры расійскай культуры і навукі абмяжоўваюцца прывозам расійскіх лектараў. Узнікненне ўсё новых інтэрнэт-сайтаў пэўнай скіраванасці паказвае, што не ўсё так ціха.

**Арцём Гарбацэвіч**



Расіянін Глеб Дзееў вядзе сайт «Часнок.бай».

# Паром праз Мора Герадота

## Ад Лунінца да Петрыкава: рэпартаж з неймавернага Палесся

Пра тое, што на Палессі было мора, сведчыў яшчэ самы першы ў свеце гісторык Герадот. Ён, праўда, пісаў і пра гіганцкіх мурашоў, што здабываюць золата, і пра людзей, якія раз на год у ваўкоў ператвараюцца. Крыніца так сабе, іншымі словамі. Але дыму без агню не бывае. Нездарма ж этнографы-рамантыкі XIX стагоддзя «пасялілі» пад Пінскам рымскага паэта Авідыя, які нібыта тым морам прыплыў. Хоць і Авідзій той насамрэч быў высланы з Рыма за дрэнныя паводзіны ў румынскую Канстанцу (а дарма, Пінск далейшы). Але як быць з выявай марскіх хваляў на ліштвах Століншчыны?

Гэтым разам мы выправіліся з *Volkswagen* у Беларусі пагледзець, як працуе ў Беларусі самы старажытны ў свеце транспарт — паромы. А заадно пабачыць, як жывуць людзі на берагах найвялікшых беларускіх рэк.


Паром на Прыпяці пад Лунінцам.

**Паромы**

Першымі ў гісторыі паромамі былі плыты і проста ствалы дрэваў, на якіх старажытны чалавек пераплываў рэкі і перавозіў сваю няхітрую маёмасць. Цяпер ёсць паромы нават акіянскія, што злучаюць берагі вялікіх заліваў. Падзяляюцца на самаходныя (з рухавіком) і несамаходныя (рухаюцца па канатах між берагамі).

І першы кірунак — Прыпяць. Менавіта тут мінулы год паказаў, што, нягледзячы на ўсе тэхналогіі і інфраструктурныя здабыткі XXI стагоддзя, хаваць паромы яшчэ рана.

**Прыпяць**

Рака, якая пачынаецца і сканчаецца (упадае ў Дняпро) ва Украіне. Але цячэ ў асноўным па Беларусі (500 км з 775), Палескай нізінай. Шырыня поймы дасягае 70 км! У Прыпяць упадаюць Стыр, Ясельда, Гарынь, Убарць, Лань і Пціч. Найбольшыя гарады на Прыпяці — Мазыр і Пінск.

Сітуацыя з паромамі на Прыпяці выйшла за музейна-гістарычныя рамкі ў мінулым снежні. Тады каля вёскі Чэрнічы, між Жыткавічамі і Туравам, прасела частка моста. Бліжэйшыя масты, каб вы ведалі, у Лунінцы і Мазыры. Пакуль наладзілі пераправу, берагі на адлегласці 191 км апынуліся без сувязі.

На такую далёкую дарогу *Volkswagen* у Беларусі даў нам дызельны ўседарожнік *Volkswagen Tiguan*. Мы стартавалі з цэнтра Мінска а 5-й, а ўжо а 9-й былі за Лунінцам. Нібы на іншай планеце.

### Квецень

Пакуль Мінск хутаўся ў халаднаватае паветра канца красавіка, Палессе закіпела. Бурапенныя вішні і чаромха, ружовыя яблынісакуры, неабсяжны рапс.

І вялізныя статкі радаснай худобы на пасавісках-тарфяніках.

Па дарозе да Лунінца падвозім дзвюх кабет. Жвавую 80-гадовую бабулю і маладзейшую, што робіць на ферме. Яна мілым палескім дыялектам наракае на розныя новаўвядзенні, якія спускаюць ім зверху. «Начальство лепей за нас знае, чым карміць, як глядзець. Сядзяць у кабінетах — стала душна — камандуюць: і цялят праветрываць».



**Якуб Колас**

Мясціны гэтыя слаўныя. У Лунінцы ў 1912-м, пасля трохгадовай адседкі ў турме, працаваў тады «народны вучыцель», а пасля – класік нашай літаратуры Якуб Колас. Цяпер у школу наўрад ці ўзялі б настаўніка пасля турмы, а пры цары гэта пракатвала. Пра Палессе — толькі ўсходняе, петрыкаўскае — і аповесць Якуба Коласа «Дрыгва», у якой фігуруе культавы беларускі партызан дзед Талаш. Але пра яго трохі пазней.

Зарабляе даярка ў месяц рублёў 400, а вартаўнікі ўвогуле маюць мінімалку. «А за гэту мінімалку трэба ўмець, калі што, і карову прырэзаць, целіцца — памагчы, і цяля напаіць».

За Лунінцам, строга на поўдзень, праз дзесяць кіламетраў, чакае Прыпяць і першая на нашым шляху паромная пераправа. Скончыўся горад — і як не было тут людзей. Апошнімі прыкметамі чалавечай прысутнасці сярод вады і кустоў засталіся насыпная дарога, якой мы едзем, і чыгунка побач.

Вады вакол дарогі ўсё больш, і нарэшце мы выязджаем на бераг Прыпяці. Паром ходзіць па раскладзе, мы спазняемся на тры хвіліны. Шлагбаум зачынены. Але месца на пароме ёсць, і паромнік у аранжавай камізэльцы запрашальна махае рукой. Тут усё папростаму: выходзім, адчыняем самі шлагбаум, заязджаем. Дзякуем, што пачакалі.

Паром адшвартоўваецца. Гэта металічны плыт з парэнчамі, месцамі для машын і схованкай для пасажыраў, накшталт прыпынка транспарту. Цераз Прыпяць яго вядзе невялікі катар, прышвартаваны носам, насустрач плыні.



Праз пару хвілін мы заходзім у порт вёскі Кораб'е і прышвартоўваемся.

Катарам кіруе суровы капітан Мікалай Пятровіч. Ён не дазваляе нават ступіць у сваё надраенае царства: фатаграфуйце з парома. Мікалай жыў ва Уладзівастоку, хадзіў у гандлёвым флоце СССР па ўсходніх морах: Японія, Кітай, В'етнам. Хоць бацька яго родам з Маладзечна. «Калі Саюз развальіўся, я ў Расіі быў. Там і пашпарт атрымаў. Дык выйшла, што мой брат беларус, а я — рускі».

Прыпяць тут не дужа шырокая, на катары ўсталяваны трактарны дызельны рухавік магутнасцю 150 конскіх сілаў. Гэта значыць, што паром мог бы пацягнуць і наш *Tiguan*, які мае пад капотам столькі ж.

Апроч капітана, тут працуюць двое памагатых — яны швартуюць паром да прыпаромкаў — прычалаў на абодвух берагах ракі. Прыпаромкі таксама плывучыя, прымацаваныя трасамі лябёдак да берага. Чаму не зрабіць іх трывалымі, бетоннымі? А летам вада спадае, і трэба рэгуляваць, каб яны былі з паромам на адным узроўні, інакш цяжка будзе заязджаць-выязджаць.

І глыбіня тут не такая, як у Японскім моры. Улетку Прыпяць трохі ніжэй, за пераправай, можна перайсці ўброд. Але асадка катара — 60 см, а парома — усяго 15 см — хапае.

Хоць разводдзі тут помняць, як «у Лунінец плавалі на чоўне ў магазін». Гэта адметнасць палешукоў — ёмка расказваць пра вялікія паводкі: у 1979-м вада вунь там стаяла, у канцы вуліцы, грузавік не мог прайсці, а вось пазнака на плоце, да яе ў 2013-м падымалася... і г.д.

На пераправе мы даведаліся, што паром паводле заканадаўства лічыцца не транспартным сродкам, а часткай дарогі. «Калі што здарэцца, ДАІ разбіраецца, а мы нават не адказваем», — кажуць паромнікі. А ДТП на пароме бывалі — хтосьці не паспяваў затармазіць ды біў пярэднюю машыну. Праўда, такога, каб падалі за борт людзі ці аўто, не прыпамінаюць.




**Старыя борці на дрэвах, пазначаных нямецкімі транзітнымі нумарамі.**


Качановічы. Паром на ручной цязе.

З парома відаць чыгуначны мост. Па ім ідзе цягнік, поўны людзей. «Танныя тавары ва Украіне!» — каментуе гаваркі паромнік. Ад яго ж мы дазнаемся, што вышэй па цячэнні быў ручны паром: заходзіш і сам сябе цягнеш тросам на другі бераг. Кіруемся туды.

### Захаванае ў торфе

Жыццё на Палессі спецыфічнае. Адразу за вясковымі гародамі пачынаецца балота. Альшэўнік па калена ў вадзе выглядае як мангравыя зараснікі якой-небудзь Амазоніі. Торф нібы кансервуе тэхналогіі, час, і цалкам натуральна выглядаюць побач стагадовая пчаліная калода на дубе ў вёсцы Стахава і досыць свежыя транзітныя нумары, набітыя тут жа на дрэвы ўздоўж дарогі ў якасці святлоадбівальных элементаў.

У Плотніцы і Сіціцку трапляюцца саламяныя стрэхі — старыя, счарнелыя. Там жа сустракаем і вясковую брукаванку — гэта была тэрыторыя Заходняй Беларусі да вайны. Колькі па гэтых брукаванках паездзілі летась!

А ў Паросцах нам трапляецца адрына, так якасна крытая саломай, што здаецца новай. Ходзім вакол, раты разявіўшы ад захаплення. «Чаго тут путаецеся? Ідзіце хлебаробаў фатаграфіруйце!» — вяртае да рэальнасці мясцовая прыхільніца традыцыйных падыходаў да журналістыкі.

І тут жа — шчыты хат са стылізаванай выявай сонца, і тут жа — ліштвы з малюнкам марской хвалі, нібы на грэчаскіх мармуровых калонах. Міжволі паверыш у Авідзія.

### Качановічы

Нас дэзарыентавалі. Каб пабачыць качановіцкі паром на ручной цязе, мы задалі жару «Тыгуану»: ён і праз ямы скакаў, і між гор высыпанай на дарогу зямлі манеўраваў, і нават праехаў па бетоннай пліце, мала шырэйшай за яго колы. І аказалася, што паром той затануў яшчэ на пачатку 90-х. «Вадалазы ныралі, рэзалі яго на кавалкі», — расказалі нам мясцовыя жыхары.

У Качановічах ёсць толькі здымная пляцоўка, якая ставіцца на час спаду вады, і тады па ёй можна перайсці на другі бок Прыпяці.

Пакуль жа, калі вельмі трэба, на чаўне перавязуць. Але машыну давядзецца пакінуць.

Яшчэ адна адметнасць Палесся: у кожнай вёсцы, дзе царквы няма, стаяць капліцы. Недзе старыя — 1930-х, недзе зусім свежыя і акуратныя, як у Качановічах. Муравалі яе самі мясцовыя людзі, распісваў таксама мастак з тутэйшых.

Святыя, трохі ў наіўнай манеры Алены Кіш, кантрастуюць з парай старых выяў, што засталіся ад царквы, разбуранай у 1960-я. На яе месцы стаіць аброчны крыж і камень, на якім можна расчытаць «Іванъ» — надмагілле аднаго са святароў.

Царква была бліжэйшай да берага, і вясной паводка падыходзіла да самых сцен. «На Вялікдзень чаўноў дзвесце-трыста прыплывала», — успамінаюць качаноўцы.

Перад капліцай укапаны камень з мармуровай таблічкай. На ім — інфармацыя пра тое, што Качановічы ўпершыню згадваюцца ў 1522 годзе. Прыемна, што людзі ініцыявалі і паставілі яго самі для сябе.

Але ад пабытавых трагедый не ратуе нават такая цудоўная самаарганізацыя. За дзень да нашага прыезду ў Качановічах згарэлі ва ўласнай хаце два чалавекі, пенсіянерка і яе 40-годовы сын. Ён яшчэ прыбег да суседзяў сказаць, што хата гарыць, а потым скокнуў у агонь ратаваць маці. «Быў выпіўшы», — рэзюмавалі нашы суразмоўцы.

А малы ручны паром, дазналіся мы, працуе заходней, на рацэ Піне. Мы ж мусім павяртаць у бок старажытнага Турава.


Адметнасць Палесся: у кожнай вёсцы, дзе царквы няма, стаяць капліцы.


Драўляная царква. Іх на Палессі традыцыйна малявалі ў колер неба — глыбокі сіні.

### Беларускія эміраты

У Відзібары спыняемся агледзець асартымент мясцовай крамы. Цікава, што агуркі прадаюцца ждановіцкія, з Мінска. Відаць, усе мясцовыя, да апошняга бараля, ідуць на экспарт.

Праз Відзібар мы едзем у Дубай — паглядзець, як жыве вёска-цёзка найбуйнейшага горада і марскога порта Арабскіх Эміратаў. Трэба сказаць, амаль усё тое самае. Толькі націск у назве — на першы склад. І замест нафтавых палёў вакол — палі з расадай, накрытыя спанбондам.

Увогуле, гэтыя мясціны проста сочацца сімволікай багацця. Наступная за Дубаем вёска, напрыклад, завецца Рубель. Каб у яе трапіць, трэба пераадолець раку Гарынь па пантонным мосце.

Гэта дыхтоўная плавучая і трохі грымучая канструкцыя, накшталт доўгага стацыянарнага парома. Зімой яго прыцягваюць да берага лябёдкамі, каб не панесла з ледаходам. За парадкам тут сочыць дзяжурны, жыхар таго самага Рубля.

**Першы пантонны мост**

у беларускай гісторыі, пра які захаваліся звесткі, быў збудаваны ў 1409-м. Па ім праз Віслу перайшлі польскія войскі караля Ягайлы, каб злучыцца з беларускалітоўскім войскам Вітаўта і разам выправіцца пад Грунвальд. Той мост быў драўляны, стаяў на 150 чаўнах і меў даўжыню 500 метраў. Яго сабралі за паўдня і пераправілі па ім 18-тысячнае войска, 300 гармат і некалькі тысяч вазоў абозу.

Пісьменнік Уладзімір Караткевіч называў Рубель «Беларускім Шанхаем», найбольшай вёскай у краіне. Праўда, за паўстагоддзя Рубель абагналі Альшаны. «Цяпер у Рублі, — прымружвае вока дзяжурны на пантоне, — 1380 дамоў па газе. А Альшаны на дзясятую тысячу чалавек пайшлі».

**Палескія падарожжы Караткевіча**

Паўстагоддзя таму, у 1969-м, культавы пісьменнік з фатографам Валянцінам Ждановічам ды мастацтвазнаўцам Зянонам Пазняком праехаў Палессем ад Гомеля да Пінска. Эсэ «Званы ў прадоннях азёр», апавяданне «Краіна Цыганія» — з тае вандроўкі.

Парнікі, парнікі, парнікі — гэта першае, што кідаецца ў вочы ў Рублі. Парнікі сотак на дзесяць, якія накрываюць цэлы прысядзібны ўчастак, пакідаючы месца толькі для жытла і праходу. Парнікі з комінамі для ацяплення, з печкамі-буржуйкамі з 200-літровых металічных бочак. З вентылятарамі, каб ганяць гарачае паветра... Парнікі з горамі дроў каля іх — печкі раскачагарваюць яшчэ ў сакавіку, каб нагрэць парнік для расады. Таму дровы рублёўцы, хоць у вёску і падведзены газ, спажываюць кубаметрамі.

Агуркі, што растуць у парніках, прадаюць фурамі ў Расію праз перакупаў. Занятак гэты нятанны: матэрыялы, дровы, насенне, хімікаты, якімі трэба «пакрапіць» агуркі, — усё каштуе. Але, каб не было выгадна, хіба стаялі б гэтыя поліэтыленавыя спаруды ў кожным двары?

### Цыганскі барон Базылевіч

У Давыд-Гарадку пераставілі помнік Леніну. Сінхранізавалі з помнікам князю Давыду, заснавальніку горада. Цяпер яны паказваюць прыкладна адзін кірунак: Давыд дзідай — на рэстаран «Палессе», Ільіч рукой — на замкавую гару. Спачатку ідзём вернай дарогай у рэстаран. Караткевіч апісваў давыд-гарадоцкую чайную: жанчыны ў традыцыйных хустках, каларытныя дзядзькі з півам, цыганяты... У рэстаране нікога. Комплекс з трох страваў каштуе 3,50 руб.

Адміністратарка аказваецца родам з Альшан.

— Як жа вы пакінулі свае такія багатыя Альшаны, пра якія легенды ходзяць?

— Працаваць хочацца.

— А хіба ж там работы няма?

— Дзе, у парніку? З раніцы да ночы?

На замкавай гары апошнім збудаваннем была старажытная

Працяг на старонцы 14.


Магіла цыганскага суддзі Гарасіма Базылевіча на могілках у Давыд-Гарадку.

# Паром праз Мора Герадота

## Ад Лунінца да Петрыкава: рэпартаж з неймавернага Палесся




**Адна з самых запатрабаваных прапаноў на мясцовым рынку паслуг.**



Працяг са старонкі 13.

царква Уваскрасення Хрыстовага, якая згарэла ў 1936-м. Разбіраючы завалы пасля пажару, людзі адкрылі сярэднявечныя княскія магілы ў дубовых дамавінах. Аглядаць іх прыязджаў з Вільні Антон Луцкевіч, заснавальнік «Нашай Нівы» і адзін з аўтараў беларускай незалежнасці. У віленскі Беларускі музей старажытнасцяў ён павёз з Давыд-Гарадка старажытныя княскія абутак з ласінай скуры.

Памятаеце апавяданне Караткевіча «Краіна Цыганія»? Яно пра Давыд-Гарадок. Цыганскі вярхоўны суддзя, які патануў, ратуючы беларускую дзяўчыну, таксама існаваў у рэальнасці. Праўда, Караткевіч, відаць, не мог у 1969-м назваць Гарасіма Базылевіча, пахаванага на давыд-гарадоцкіх могілках, «цыганскім баронам» — цэнзура б не дазволіла. Які барон у БССР? Давялося пісаць «суддзя».

Караткевіч апісваў гадавую па Базылевічу, а нам пашчасціла гаварыць са сведкамі самога пахавання. «Цыганоў сабралася — падвод трыста, тады ж машын не было. Хавалі на трэці дзень, на заходзе сонца — звычай такі ў іх. Магілу з цэглы вымуравалі, кілімамі заслалі, грошы кідалі туды...»

Яшчэ мясцовыя людзі сцвярджаюць, што ратаваў барон усё ж цыганку. Яе пахавалі ў суседнім Хорску.

Ці ёсць у давыд-гарадоцкіх цыганоў барон цяпер? «Ёсць, таксама Базылевіч прозвішча». Цыганы складаюць істотную частку давыд-гарадоцкага соцыуму. Так, у мясцовай школе №2 з 370 вучняў вучацца 35 прадстаўнікоў цыганскай дыяспары, расказалі нам педагогі.

### Альшаны

У Альшаны, сталіцу беларускіх агурковых эміратаў, мы заязджаем з некаторым трымценнем. Мроіліся палацы з золата, падлеткі без правоў на супердарагіх аўто, якія парушаюць усе правілы. Пабачылі ж шматлюдную працоўную вёску з неабсяжнымі парнікамі, ангарамі-складамі для гародніны. Калі што і выглядае яўна багата, дык гэта храмы: грунтоўны малельны дом евангелістаў і царква, купалы якой не саступаюць пецярбургскаму Спасу-на-Крыві.

### Тураўскі жыллёвы калапс

Кіруемся ў Тураў і ўсё вытэлефаноўваем гаспадароў здымных кватэр ды пакояў, каб хоць куды ўбіцца на начлег. Гэта аказалася праблемай: усё занята. У будні дзень. У гарадку на тры тысячы чалавек. Няўжо пяцідзённы бязвіз выклікаў такі наплыў турыстаў?

Аказалася, большасць арэнднага жытла і месцы ў гатэлі выкупіў мясцовы малочны камбінат — той самы, што робіць слаўныя на ўсю краіну мяккія сыры. Пасяліў будаўнікоў, што ўзводзяць новыя цэхі. Здымаць жытло ў Тураве даводзілася і звычайным работнікам. Бо шмат хто з іх ездзіць на працу з другога боку Прыпяці, з Жыткавіч. Калі абрынуўся мост, даводзілася рабіць кола ў 280 кіламетраў — праз Лунінец ці праз Мазыр. «Людзі а 4-й раніцы з дому выязджалі і ў гадзіну ночы вярталіся», — расказалі нам. Урэшце знаходзім жытло ў сімпатычнай хатцы ў самым цэнтры Турава. Каштуе 20 рублёў з чалавека, афармляецца ўсё афіцыйна, праз дамову.



**Для рамонту моста Прыпяць скіравалі па абводным рэчышчы.**



**Пантонны мост перыядычна здымаюць, каб прапусціць баржы.**

### Амазонія

Спакойныя за найбліжэйшую будучыню, кіруемся да моста праз Прыпяць. Той мост быў да аварыі (і, спадзяюся, зноў будзе пасля рамонту) унікальнай турыстычнай атракцыяй. Уз'язджаеш на яго, з вышыні можаш аглядаць пойму беларускай Амазонкі з яе старарэччамі, паплавамі, дубровамі. Заўжды хацелася запаволіць аўто

і на мінімальнай хуткасці праязджаць гэтыя 900 метраў.

Цяпер мост зеўрае пустым пралётам, а пад'езд да яго з тураўскага боку перакапаны. Для Прыпяці зрабілі абваднoе рэчышча, па якім з шалёнай хуткасцю ляціць вада. Калі спадзе паводка, старое рэчышча зусім перакрыюць, каб проста пад мост, на сухое, загнаць будаўнічую тэхніку ды аднавіць абвалены кавалак. Мост, дарэчы, так і будаваўся — на сухім.

А Прыпяць можна цяпер пераехаць двума спосабамі: часовым пантонным мостам і паромам. Да месца пераправы некалькі кіламетраў круціць зігзагі насыпаная дарога — проста праз пойму з усімі яе цудамі і прыгажосцю.

Прыпяцкі пантонны мост не параўнаеш з тым, што на Гарыні пад Рублём. Святлафоры з абодвух бакоў, якары, учэпленыя ў дно, два катары колеру хакі, якія раз на дзень адпіхваюць мост да берага — Прыпяць жа суднаходная рака. Кожны такі катар з'ядае 48 літраў паліва за гадзіну, сказаў нам начальнік Жыткавіцкага МНС, які некалькі раз на дзень бывае ў гэтым «гарачым пункце».

Назіраем, як здымаюць мост, каб прапусціць баржы з грузам да Лунінца і Піска. Хлопцы з МНС падымаюць цяжкія металічныя лісты, якімі пантон трымаецца за берагі. З аднаго берага чапляюць да моста тросам цяжкі вайсковы КРАЗ, падклаўшы яму пад колы металічныя стопары. Каля другога берага ў мост упіраюцца катары і пачынаюць яго штурхаць супраць цячэння. Адначасова ратаўнікі выбіраюць тросы якароў, дапамагаючы катарам.

МНС робіць смс-рассылку ўсім жыхарам рэгіёна, папярэджваючы, калі пантон не будзе працаваць. Але не ўсе ж мясцовыя. Таму ўвечары, на зваротным шляху ў Тураў, мы трапляем у лакальны транспартны калапс.

Справа ў тым, што парам, які працуе побач, — 80-метровая баржа-рудавоз з магутным катарам — бярэ толькі цяжкія фуры, дый тых можа змясціць пяць штук. Увесь лягчэйшы транспарт ідзе пантонным мостам. А яго трэба часам здымаць, а тут яшчэ падае вада, мост асядае, і трэба час ад часу падкопваць берагі, каб выезд з моста быў не занадта круты... Пакуль працавалі бульдозеры, падкопваючы берагі, на дамбе перад пантонам сабралася семдзесят машын.

Каля гадзіны чакалі, услухоўваючыся ў грукат тэхнікі і ўглядаючыся ў агні далёкага парома. Калі мост адкрылі, хапіла хвілін дваццаці, каб заторы на абодвух берагах раз'ехаліся. Беларусы — арганізаваны народ.

**Дзед Талаш**

нарадзіўся аж у 1844-м, і меў 75 гадоў, калі ступіў на партызанскую сцежку ў 1919-м. І пасля скандаліў з Коласам: тых польскіх жаўнераў, якіх ён адным махам раскідаў, было не шасцёра, як напісана ў «Дрыгве», а пятнаццаць. Таксама няўрымслівы Талаш дабіваўся ад Коласа паловы ганарару за аповесць і даносіў на суседзяў у ЧК. Калі пачалася Другая сусветная, Талаша вывезлі ў Маскву. Там ён затроліў самога Сталіна: пабачыў у міліцыянта-рэгуліроўшчыка каля гатэля доўгі скураны плашч і выпрасіў такі самы ў кіраўніка СССР. Калі ў яго спыталі – навошта, адказаў: полы можна адрэзаць і халявы для ботаў пашыць. З астатняга добрая куртка выйдзе…
Пражыў Талаш 102 гады.



**Адаптыўны круіз-кантроль (ACC)**
Функцыю аўтаматычнага кіравання хуткасцю аўто мы вельмі ацанілі ў гэтым падарожжы. Каб хутчэй трапіць на Палессе, мы выбіралі малазагружаныя трасы, дзе можна трымаць пастаянную хуткасць (напрыклад, ад Слуцка да Жыткавіч можна ехаць праз Любань і Урэчча).
З дапамогай кнопак на рулі можна адным пальцам задаць Volkswagen Tiguan патрэбную хуткасць, якую ён будзе трымаць без удзелу педалі газу. Гэта дае кіроўцу магчымасць трохі адпачыць.
Адаптыўны круіз-кантроль адрозніваецца ад проста круіз-кантролю наяўнасцю датчыка адлегласці. Фактычна гэта міні-радар, які выпраменьвае электрамагнітныя хвалі на 150 метраў уперад. Калі ў межах іх дасягальнасці на дарозе з'яўляецца аўто, інфармацыя перадаецца на электронны блок кіравання, дзе апрацоўваюцца звесткі пра адлегласць да перашкоды і хуткасць яе руху. Блок кіравання перадае каманды выканаўчым прыстасаванням – у выпадку Volkswagen гэта дросельная засланка і аўтаматычная каробка перадач. Калі машына спераду ідзе павольна, наша хуткасць таксама аўтаматычна запаволіцца, каб не адбылося сутыкнення. (Калі зніжэнне хуткасці малаістотнае – проста змяншэнне падачы паліва. Калі мы змяняем паласу і перашкода спераду знікае, аўто аўтаматычна вяртаецца ў ранейшы хуткасны рэжым. Адключыць ACC можна лёгкім націскам на педаль тормазу.)

**Жыткавіцкі парам**

Даўжыня: 80,2 м
Шырыня: 10,18 м
Вышыня борта: 8,3 м
Асадка (парожні): 0,44 м
Асадка (загружаны): 0,78 м
Колькасць пасажыраў: 39 чалавек
Грузападымальнасць: 204 т

### Стыхія

Міншчына ўжо і забылася пра веснавыя воды. А на Палессі ад тураўскай паромна-пантоннай пераправы да самага Мазырскага моста — 150 кіламетраў — Прыпяць не дае ніводнага шанцу пераехаць яе. Дадае вады Убарць, што пачынаецца аж на карпацкіх паланінах. І тамтэйшыя дажджы-снягі адбіваюцца на паводкавым стане Прыпяці. Прырода ігнаруе дзяржаўныя межы.

Парома між вёскамі Вышалаў і Снядзін нават не відаць ад края вады, што стаіць пры самай вышалаўскай вуліцы — да яго яшчэ кіламетры тры. Мясцовыя паказалі нам машыну капітана парома: кінуў яе ля вады, абуў рыбацкія боты і пайшоў уброд пільнаваць сваю гаспадарку. ратавальнікі спрабавалі на «Ніве» даехаць да парома — вярнуліся з паўдарогі. Наш *Tiguan* таксама паспрабаваў сябе ў ролі левіяфана — мы ехалі па насыпной дарозе колькі метраў, пакуль вада не пачала даходзіць да днішча.

Гэтыя мясціны, па якіх Прыпяць распускае рукавы-затокі, належаць Нацыянальнаму парку «Прыпяцкі». Яго цэнтральная сядзіба — у Ляскавічах, аграгарадку са скандынаўскага дызайну царквой і густоўнымі катэджамі, музеем прыроды і круізным катарам «Кірыла Тураўскі», пpышвартаваным да плывучага рэстарана. Тут нават дыназаўры ёсць — стаяць каля гатэля, дарма, што пластыкавыя: трыцэратопс памерам з добрую карову і тыраназаўр.

За Вышалавам левы бераг Прыпяці робіцца высокі. І от каго ніколі не залівае — дык гэта вёску Турок, якая на ім стаіць. Вуліца ідзе ўздоўж ракі, стаяць каля платоў лавы — можна сесці побач са старымі людзьмі і медытаваць на ваду ледзь не да гарызонту, слухаючы іх адвечнае — пра сенакосы і статак у трыста кароў, што раней тут былі, пра тое, што ўсё цяпер не тое і не так, і лазой зарасло, і працаваць моладзь развучылася.

### Дзед Талаш

Адметнасць петрыкаўскага наваколля — брамы з вострраканечнымі макавінамі на слупах — накшталт мінарэтаў. Гаспадарчая логіка ў такім дызайне ёсць: з вострага дождж сцякае, снег не кладзецца — слуп не так скора згніе.

У падобнай стылістыцы аформленая брама, што ўпрыгожвае домузей культавага беларускага партызана дзеда Талаша ў вёсцы Навасёлкі пад Петрыкавам. Культавым Васіль Талаш стаў дзякуючы сваёй харызме, доўгажыхарству, дзяржаўнай прапагандзе, а найперш — Якубу Коласу, які напісаў пра яго аповесць «Дрыгва».

«Я гэтую гісторыю слаба ведаю, калі чэсна», — кажа каржакаваты навасёлкавец, антрапалагічна падобны да легендарнага дзеда. Падабенства дадае і сякера, якой ён рамантуе стары плот. Музеем Талаша турыстычная інфраструктура Навасёлак не абмяжоўваецца. Далей па вуліцы — дзве маштабныя аграсядзібы. Не дажыў Талаш, каб пусціць гаспадароў у расход.



Дом-музей Дзеда Талаша ў Навасёлках пад Петрыкавам.

### Яхта «Настальгія»

Петрыкаў стаіць высока над Прыпяццю. Вуліца да былога рачнога вакзала нагадвае спуск па горным серпанціне. Даводзіцца ўжываць тармажэнне рухавіком.

Драўляны блакітны вакзальчык, ад якога калісь адплывалі «ракеты» на падводных крылах, цяпер забіты дошкамі. Побач сумуе на сушы яхта «Настальгія», ляжаць перакуленыя чаўны. «Цяпер народ грошы лічыць, болей ездзіць цягнікам», — ацэньвае прычыны запусцення шляхетны спадар у белым капелюшы і касцюме. На выгляд — дырэктар музея, не меней. Ніколі не скажаш, што заўзяты рыбак, якому не шкада плаціць 70 рублёў за ліцэнзію.

Цікава петрыкаўскія рыбакі паказваюць памеры здабычы: гэта не адлегласць між расстаўленымі далонямі, а адлегласць ад зямлі да ўзнятай над галавой рукі. Часам нават даводзіцца на дыбачкі прыўстаць: от такі сом — 51 кілаграм.

Да петрыкаўскага парома, сказаў наш суразмоўца, дарогі пакуль няма. Але мы ўсё ж спрабуем. І тармозім перад воднай перашкодай. Шырока разлілося беларускае мора, ні берагоў, ні нават парома не відаць. Хіба што бусел, які ходзіць тут жа побач, можа яе пераляцець. Стаіш перад гэтай бяскрайняй вадой, і паглынае яна мітусню і трывогі. Краявід, які супакойвае.

**Андрэй Скурко,**
**фоты Сяргея Гудзіліна**

У мультымедыйнай форме гэты рэпартаж можна прачытаць на NN.BY.

Замоўца: Сумеснае таварыства з абмежаванай адказнасцю «Атлант-М Фарцойгхандэль». УНП 600548443

# Алаіза: феміністка, масажыстка і cor ardens беларускай гісторыі

**Фемінізм Алаізы Пашкевіч (Цёткі) палягаў не ў тым, каб пагарджаць мужчынамі, а ў тым, каб быць мацнейшай за іх.**

«Некалькі дзясяткаў вершаў, лічаныя апавяданні, падручнік-хрэстаматыя для пачатковага навучання і шэраг публіцыстычных і навукова-папулярных артыкулаў», — так ацаніў некалі даробак Цёткі адзін з найярчэйшых беларускіх гісторыкаў XX стагоддзя Мікола Ермаловіч. Але двух зборнічкаў па дваццаць старонак, выдадзеных пры жыцці, ёй хапіла, каб стаць нароўні з волатамі Купалам і Коласам.

Так развіваюцца расліны ў тундры: за кароткае, пару тыдняў, лета распускаюцца, адцвітаюць і даюць насенне наступных пакаленняў. У вечнай мерзлаце чынавенскага і паліцэйскага ўціску, выгнанняў, ваенных жахаў агністая натура Алаізы Пашкевіч паспела раскрыцца.

## Аратарка

Пікам яе жыццёвага лета быў 1905 год — час вялікага народнага абуджэння ў Расійскай імперыі. Тады яе паэзія пашыралася, як мы сёння сказалі б, праз сацыяльныя сеткі.

Калі пастамі тых сацсетак пачатку XX стагоддзя лічыць папяровыя ўлёткі, якія друкаваліся сотнямі і раскідаліся па вуліцах, па бурлівых мітынгах 1905-га. Вуліцы слухалі яе і ўжывую, ловячы кожнае слова.

Ёсць легенда, што псеўданім Алаізе даў невядомы рабацяга. Уражаны яе агнявым выступам на мітынгу, ён захоплена, на ўвесь прыцілы натоўп, выгукнуў: «Ну і гаворыць цётка!»

Яна пераўвасаблялася на трыбуне. Яе не маглі пазнаць тыя, хто памятаў негаваркую замкнёную віленскую гімназістку.

Паводле іншай версіі, Цёткай Алаізу назваў Вацлаў Іваноўскі — яе супольнік ад дзіцячых гульняў да беларускай работы ў Пецярбургу. Іх сем'і былі суседзямі: Іваноўскія жылі ў фальварку Лябёдка, а Пашкевічы — у Старым Двары Лідскага павета.

## Вучоба да непрытомнасці

З усіх сваіх шматлікіх братоў і сясцёр Алаіза вылучала Юзіка. Магчыма, тут блізкасць ад дзяцінства: бацькі, каб было лягчэй глядзець гаспадарку і сям'ю, аддалі Алаізу і Юзіка бабулі Югасі на выхаванне, у суседні фальварак. Ад бабы зусім малая Алаіза навучылася чытаць.

Хатняя мова ў сям'і была польская «таго своеасаблівага характару, які яна мела ў дробнай шляхты Літвы і Беларусі». Сёння мы б назвалі гэта трасянкай.

Сям'я бедная не была — 100 гектараў бацька апрацоўваў, яшчэ 200 здаваў у арэнду мужыкам-суседзям. Але разумення, што дочкам таксама трэба даць якасную адукацыю, паводле ўспамінаў сучаснікаў, у Пашкевічаў не было. А вучыцца Алаіза хацела.

Спачатку гэта былі хатнія настаўнікі, пасля — прыватная вучэльня Веры Прозаравай у Вільні. Алаіза паступіла экстэрнам, адразу ў 4-ы клас. Пераросткам, 18-гадовай дзяўчынай. Вучэльня была платная, але ёй за выдатныя поспехі далі стыпендыю.



Грошай усё адно не ставала, Алаіза зарабляла прыватнымі ўрокамі. А раз напалохала ўсю гімназію: звалілася непрытомная падчас урока. Аказалася — ад голаду...

Юльяна Мэнке, нявеста Івана Луцкевіча, якая таксама вучылася ў Прозаравай, успамінала, як яны пасля таго выпадку таемна падкладалі Алаізе булкі ў стол. Калі тая спрабавала высветліць, чыё гэта, увесь клас дружна казаў, што, мусіць, гэта падарунак.

## Масажыстка

Дыплома хатняй настаўніцы арыфметыкі, які даваўся пасля вучэльні, Алаізе было недастаткова. Яна паступае на курсы Лесгафта пры санкт-пецярбургскай біялагічнай лабараторыі. Курсы былі бясплатныя, на іх кожны ахвотны мог займацца прыродазнаўчымі навукамі.

Слова «курсы» абясцэнілася за сто гадоў. Цяпер яны ўспрымаюцца як штосьці факультатыўнае, малазначнае. У пачатку XX стагоддзя курсы былі аналагам вышэйшай адукацыі. На агульнаадукацыйных курсах Чарняева ў Пецярбургу, напрыклад, вучыўся Купала. Адзінае, што фармальнай «корачкі» якогасьці ўніверсітэта наш народны паэт не меў.

У Лесгафта Алаіза атрымала грунтоўную базу прыродазнаўчых ведаў, а таксама... стала прафесійнай масажысткай. Гэта ратавала фінансава ў цяжкія моманты ў выгнанні.

Пасля быў кракаўскі Ягелонскі ўніверсітэт, Львоўскі ўніверсітэт у тагачаснай Аўстра-Венгрыі. Пра атрыманыя дыпломы нічога невядома. З усіх сваіх універсітэтаў яна брала толькі патрэбныя ёй веды, пагарджаючы фармальнасцямі.

## Час вялікіх магчымасцяў

У Пецярбургу Алаіза сустракае даўняга сябра па дзіцячых гульнях — Вацюка Іваноўскага, студэнта Тэхналагічнага інстытута. Сярод беларусаў-дзеячаў той пары было многа тэхнароў, інжынераў. Разам з іншымі землякамі — Франуком Умястоўскім, Антонам Трэпкам — Ігнатоўскі і Алаіза ствараюць «Круг беларускай народнай прасветы і культуры».

У альманахах-«пісанках» за 1903 і 1904 год, якія прымітыўным спосабам выдаваў «Круг», былі апублікаваныя першыя вершы Алаізы.

«Круг» дзейнічаў падпольна, беларуская мова і назва «Беларусь» была тады пад забаронай. Даходзіла да смешнага: каб выдаць зборнік вершаў мінскага паэта Янкі Лучыны, мову яго для цэнзуры назвалі «балгарскай»...

У Пецярбургу Алаіза спаткала і будучага мужа, літоўца, студэнта-інжынера Сцяпонаса Кайрыса. «Незвычайна жывога характару, нештодзённая, яна выразнялася нават у шматколерным студэнцкім асяроддзі ды адразу зрабіла на мяне ўражанне чалавека з жывой душой», — успамінаў ён.

«Круг» сфармаваў кола аднадумцаў, перад якімі паўсталі маштабныя праекты.

Пачатак XX стагоддзя быў часам вялікіх магчымасцяў і росту. Архаічныя самадзяржаўныя рэжымы хісталіся, як гнілыя зубы. Здавалася, гісторыя ў дзясяткі разоў паскорыла сваю хаду, даючы народам шанец зажыць нарэшце без імперскага кантролю.

Алаіза і яе сябры задумалі стварыць першую беларускую палітычную партыю — Беларускую сацыялістычную грамаду, вакол якой расла і беларуская прэса, і літаратура, і сама дзяржава Беларусь. Першая канферэнцыя БСГ прайшла, дарэчы, на віленскай кватэры ў Алаізы, якую здымалі яе браты Язэп і Вацлаў — афіцэры Маладзечанскага пяхотнага палка, у добранадзейнасці якіх паліцыя не магла сумнявацца.

## «Не ведаю, чаму я так люблю гэтага Купалку»

Так сказала некалі Цётка Уладзіславе Станкевіч, будучай Купалавай жонцы. Паміж трохі старэйшай Цёткай і Купалам была шчырая прыязнасць, аж да таго, што Купала пасылаў Цётцы з Пецярбурга ў Львоў свае новыя вершы.

Гэй, песнярка, болей, болей
Нам на скрыпцы сваёй грай!
Прывітаем хлебам-соляй,
Дзякуй скажа родны край.

Гэта верш Купалы «Аўтарцы «Скрыпкі беларускай». Хоць кніжка выйшла ва ўкраінскай Жоўкве, у друкарні ўніяцкага базыльянскага манастыра, пад псеўданімам «Гаўрыла з Полацка», Купала добра ведаў, хто за ім хаваецца. Увогуле, з мала не трыццаці псеўданімаў Алаізы большасць — мужчынскія.

Яе «Скрыпка беларуская» была нібыта працягам «Дудкі беларускай» і «Смыка беларускага» — пераходным мастком ад Францішка Багушэвіча да Янкі Купалы.

## Феміністка

«Першая беларуская феміністка» — так назваў Цётку Антон Луцкевіч. Прычым да тагачасных феміністычных арганізацый яна не належала. А выступаючы раз у Лізе раўнапраўя жанчын, яна пагардліва назвала яе ўдзельніц «капялюшніцамі».

Цікава, як свае падарожныя нататкі з Фінляндыі, напісаныя пра зусім побытавыя рэчы — як жыве, чым харчуецца, як вядзе гаспадарку звычайная фінская сям'я, — Цётка завяршае раптам акцэнтам: фінскі народ першы ў Еўропе прызнаў роўныя правы кабет.

## Абстынентка

Алкаголю яна не прымала і да тых, хто яго ўжываў, ставілася сурова. Гэта добра апісана ва ўспамінах Умястоўскага, з якім разам Алаіза выпускала першы нумар газеты «Наша доля». Нумар быў аддрукаваны. Хлопцы-разносчыкі штораз вярталіся ў рэдакцыю з вуліц па новую порцыю — аж пакуль не прадалі ўсю тысячу асобнікаў.

Шчаслівыя і стомленыя ствральнікі здымалі стрэс. «Не ведаю, скуль узялася гарэлка і закуска, наліўшы чаркі, нягледзячы на касыя погляды Цёткі, якая не цярпела пітушчай кампаніі, мы духам асушылі іх за будучыню Бацькаўшчыны».

## Фіктыўны шлюб?

Так мяркуе частка даследчыкаў. Выйсці замуж і змяніць прозвішча Алаізе трэба было, каб вярнуцца на радзіму. Надакучылі, відаць, прыезды пад чужым пашпартам. За мяжой яна жыла ад 1905 года, калі ёй, актыўнай удзельніцы рэвалюцыі і сацыял-дэмакратычнага руху, зацікавілася паліцыя.

Хоць Сцяпонас Кайрыс меркаваў, што прычынай выезду ў Кракаў быў не столькі паліцэйскі пераслед, колькі песімізм пасля паразы рэвалюцыі, які Цётка «з ейным выбуховым характарам і балючай пачуццёвасцю глыбей за іншых перажыла».

Кайрыс пакінуў пра жонку кароткія ўспаміны. Калі чытаеш



Сямейнае фота. Сцяпан і Ганна Пашкевічы з дзецьмі.

іх, дзівіць, наколькі адстаронена яны напісаныя.

Як пра чалавека досыць сімпатычнага, але чужога, у характары якога бачыш толькі вонкавыя бакі. Аж да таго, што почасту ён называе яе «Цётка».

Хоць Алаіза і гасціла ў будучага мужа пад Самарай, дзе ён працаваў інжынерам на пабудове чыгуначных мастоў улетку 1909-га, прыязджала да яго на Куршчыну ў 1911. Ці была ў іх адносінах якая лірыка, ці толькі сяброўская сімпатыя ды сацыял-дэмакратычная ўзаемадапамога? Няма адказу.

У лютым 1912-га яны ўзялі шлюб і пасяліліся ў Вільні. Наняслі, кажучы сённяшнімі словамі, двухпакаёўку ў не самым прэстыжным раёне Звярынец. («Дом стаяў у лесе, навокал яго шумелі сосны», згадвала Уладзіслава Станкевіч.)

Заробку Кайрыса хапіла б і на большы камфорт, але Цётка «не цярпела мяшчанскага спосабу жыцця».

Рэдкі прыватны момант ва ўспамінах Кайрыса: ён згадвае, як Цётка за працаю літаральна забывалася харчавацца, а таксама асабліва не рупілася пра адзежу — «Ёй усё ішло».



Вацлаў Іваноўскі — сябра Алаізы па дзіцячых гульнях і калега па беларускай працы.



Брат Алаізы Язэп Пашкевіч, які загінуў на фронце пад Гроднам.

### «Не ўмела сцерагчы здароўя»

Магчыма, Цётка кіравалася пашыранай логікай сухотнікаў, сёння забытай разам з сухотамі: які сэнс заводзіць сям'ю, калі маеш невылечную хваробу?

Як Максім Багдановіч, які імкнуўся нават не набліжацца да сяброў і раз, падчас паездкі ў дзіцячы прытулак у Ратамку, усю ноч прамерз у халодным класе, бо баяўся сваім дыханнем заразіць настаўніц, якія сабраліся ў суседнім цёплым пакоі...

«Вясной 1907 па дарозе з Лондана я завярнуў у Закапанае. У гуральскай хаціне знайшоў хворую на лёгкія Цётку, — успамінаў Кайрыс. — Працэс у лёгкіх толькі пачынаўся, трэба былі сонца, паветра, ежа, але «пра гэта Цётка наймене рупілася».

«Благім надвор'ем моцна кашляла, не магла выходзіць з дому», — згадвала Юльяна Мэнке.

І разам з тым — абыходзіла раёны Вільні, агітуючы бацькоў аддаваць дзяцей у беларускую школу. «Гарэла як ахвярная свяча і свяціла свайму народу да апошняга дня свайго жыцця», — пісаў пра яе Луцкевіч.

### «Лучынка»

«Цётка — чалавек хоць і культурны, але анархістка», — такую характарыстыку дала Алаізе княгіня Магдалена Радзівіл. Хоць прыхільніцай Бакуніна марксістка ну ніяк не магла быць. Уладзіслава Станкевіч успамінала, што з вядомай мецэнаткай Алаіза кантактавала ў справе стварэння беларускага дзіцячага дома.

Такія моманты дапамагаюць ясней уявіць сабе беларускую супольнасць у пачатку XX стагоддзя.

Мільянер і дэпутат Думы Вайніловіч, абшарніца княгіня Радзівіл, найбагацейшы землеўласнік і дэпутат Думы Скірмунт, інтэлектуалы Луцкевічы і Ластоўскі, грамадская актывістка Цётка — розныя палітычныя погляды, але ёсць разуменне супольных інтарэсаў і Беларусі, якая аб'ядноўвае.

Наконт будучыні: Цётка была першай паэткай, якая многа пісала па-беларуску для дзяцей. Яна нават выдавала ў Мінску дзіцячы часопіс «Лучынка». І прагна патрабавала тэкстаў, торгаючы без канца сяброў. Прычым разумела, што звыклы для многіх паэтаў «слёзны» стыль пісання дзеці не ўспрымуць: «Трэба больш агню ад маладых сіл. Дровы, з каторых цяпер шчапаецца «Лучынка», залішне слязьмі-доляй нацягнула, дык слаба гарасць».

«Лучынка» была дзіцячай энцыклапедыяй. Сама Алаіза пісала туды тэксты вікіпедыйнага фармату. Пра здабычу нафты, напрыклад.

Цётка называла яе «газа» і апісвала, як дзяўбуць зямлю вялізным долатам на ланцугу, а пасля вычэрпваюць нафту бочкай. Тэхналогіі за сто год пайшлі наперад, канечне, але вось пытанне пра тое, як нафта ўтварылася, дагэтуль турбуе вучоных. І абедзве асноўныя да гэтай пары версіі Алаіза выклала ў сваім артыкуле.



Алаіза з малодшай сястрой.

### Акцёрка

Сёння мы слаба ўяўляем сабе, якой сілай у датэлевізійную эпоху быў тэатр. Ён дароўніваў школе і прэсе.

Часта светапогляд і нацыянальная прыналежнасць цэлых вёсак і памежных тэрыторый залежала ад таго, чыя тэатральная трупа мела там гастролі.

Алаіза бачыла гэта і не хацела заставацца ўбаку. Тым больш, што ў Беларусі ўжо гастралявала трупа Ігната Буйніцкага. У Кракаве, у Ягелонскім універсітэце, даследуючы беларускую батлейку, яна адначасова і сама брала ўрокі дэкламацыі і ігры на сцэне ў вядомай польскай артысткі Нуны Млэдзяёўскай.

Па вяртанні ў Беларусь гэта прыдалося: пад псеўданімам Крапівіха яна іграла ў спектаклях Буйніцкага.

### Падарожніца

Асобную старонку ў яе жыцці займалі вандроўкі. Яны былі вымушаныя — паездкі на лячэнне. Але і ахвота да падарожжаў у Алаізы была.

Італія, Францыя, Фінляндыя, Швецыя, Германія — няпоўны пералік месцаў, дзе ёй удалося пабываць. Прычым па Скандынавіі яна вандравала пешкі.

Захавалася некалькі вясёлых шведскіх лістоў да пецярбургскага прафесара Браніслава Эпімаха-Шыпілы.

«7 ліпеня 1914. ...Я ўжо 70 кіламетраў адпаўзла ад *Stokholma*, начую сёння ў сяле *Wangnhorad* у жалезнадарожным *hotel'i*... Ураджаяў я яшчэ нідзе такіх не бачыла, як у Швецыі. Крыху ўжо знаёмімся з людзьмі, вучымся іхняй мовы. ...Лес, возеры, багатыя нівы, надзіў пекныя будынкі, кожны дамок немаль мае свой тэлефон.

...канец ліпеня 1914. Усяго найлепшага пасылаю з *Goteborga*. У дарозе вельмі дрэнна вядзецца: маю бабу-таварку муж адзывае дахаты, зьмаркоціўся, каб яго маланка. Мусіць, адна пайду па Нарвегіі. Як згіну — не шкадуйце...»

У Фінляндыі, на чыгуначнай станцыі, Цётка ўпершыню пабачыла і апісала для беларускага чытача такую істотную ў наш час з'яву, як шведскі стол: «Два сталы пекна накрыты, застаўлены ядой, якую толькі здумаць: там і мяса, і рыба, яйкі, сыры розных гатункаў, малако, гарбата, квас, піва. Як толькі падыходзіш да стала, маеш заплаціць марку, фінскую манету вартасці 38 капеек. Пасля, калі хочаш, еш, колькі душа прымае, а не — крошку палажы на зуб — плата аднолькава: там жыватоў людскіх не мераюць: такі звычай укараніўся, пэўна, дзеля таго, што ніхто з фінаў не мае ў натуры сваёй, каб карыстаць болей за тое, чым плаце. Фіна не трэба пільнаваць, ён сам у сябе стаіць на стражы».

Не абмінала вандроўніца і культурныя помнікі, славутыя музеі. Вуснамі гераіні свайго апавядання «З дарогі» яна апісвае Сікстынскую мадонну, пабачаную ў Дрэздэнскай галерэі: «Малюнак — абраз сусветнай славы — для маёй душы не мае чароўнага слова. Ячэ калісь, як была ў Рыме, каля твораў Рафаэля прайшла з сэрцам спакойным, затое перад Анджэла Буанароці і Леанарда да Вінчы анямела ўсімі сваімі чуццямі, думкамі склеілася і стаяла гадзінамі, акамянелая з задзіву».

«З дарогі» напісанае ў форме лістоў дзяўчыны-сухотніцы, якая выправілася за мяжу на лячэнне, да старэнькай маці: «Кашляць перастала, гарачка меншая, сілы больш. Цэлыя дні ляжу на скале над морам. Цёпла, сонечна».

### Cor ardens — палымянае сэрца

Выбухнула сусветная вайна, прыфрантавыя гарады навадзілі бежанцы, шпіталі — параненыя. Ад скупленасці людзей пачаліся эпідэміі. Цётка ж, як адзначаў назіральны Кайрыс, «не ўмела быць абыякавай».

Маючы досвед фельчаркі, Алаіза ўладкавалася сястрой міласэрнасці ў тыфозны барак. Пісьменнік Максім Гарэцкі ўспамінаў, як падкладала яна салдатам-беларусам «Нашу Ніву» пад падушку.

А па-за баракам Цётка выкладала на беларускіх настаўніцкіх курсах, адчыніла ў пачатку 1915-га ў Вільні першую беларускую школу, спрабавала арганізаваць сетку сталовак для галадаючых...

У працоўным чадзе заспела яе вестка пра гібель любімага брата Юзіка. Ён быў забіты пад Гроднам, калі ішоў у атаку наперадзе сваёй роты. Разам з другім братам Вацлавам, таксама афіцэрам, які лячыўся ў Вільні ад ранення, Алаіза выправілася пад Гродна. Салдаты дапамаглі ім знайсці магілу свайго добрага камандзіра.

Следам памірае бацька. Алаіза едзе дахаты, у Стары Двор, адкуль ужо не вернецца. Землякоў касіла эпідэмія тыфу, Цётка ўзялася ратаваць іх, але заразілася сама. Арганізм падточаны сухотамі. Зіма. Нямецкі доктар, спешна прывезены з-за фронту, не мае досведу. Яе не стала ў лютым 1916-га.

«Беларуская справа згубіла ў ёй *cor ardens* — палымянае сэрца», — пісаў Антон Луцкевіч. Гэта найлепшая характарыстыка таго, кім была Алаіза Пашкевіч і якой яна засталася ў памяці.

Сяргей Мікулевіч

# Ласункі 80-х: забытыя смакі

Піша **Таццяна Барысік**.

«28 капеек — тот самый вкус!» — рэклама марозіва чарговы раз абяцае мне дзіцячае шчасце, яскравае, як тады. Але я, насуперак абяцанкам, пачуваюся зусім не радасным дзіцём, што капеек з бацькавай кішэні натрэсла і ляціць у краму па ўлюбёны ласунак. Хутчэй, цёткай, ашуканай махлярамі на кірмашы: смак та мо і той самы, а вага меншая і каштуе ўтрая даражэй!



ФОТА ДЗЯНІСА РАМАНЮКА

## Сасіскі

Са светлымі згадкамі мясных смакавых сімвалаў савецкага часу — яшчэ горш. Назвы — каўбаса «Доктарская ГОСТ», сасіскі «Малочныя» — светлага суму не выклікаюць. Я не памятаю іх смаку. Яны для мяне на той час былі ласункамі, якія паспытаць давялося ўсяго некалькі разоў за жыццё ў садку і школе і, мусіць, ці не аднойчы дома. У краме такога ў вольным продажы не было, хоць мясакамбінат напоўніцу працаваў. У нашым доме тады жыло багата наменклатурных супрацоўнікаў і іншых адказных таварышаў, за што дом меў, апроч распаўсюджаных — «Кітайская сцяна», «Маскоўскія вароты», — яшчэ і выбітную мянушку «Дваранскае гняздо». Аднойчы ехалі ў ліфце з цётачкай, а ў той — поўная торба сасісак. Мы з сястрой давай бацьку прасіць:

— Купі і нам такіх сасісак!

— Дзеткі, яны ж не прадаюцца.

— А дзе ж тады цёця ўзяла?

— Украла! — адказаў бацька, ён заўжды называў рэчы сваімі імёнамі.

Цёцю аж перасмыкнула. Варыянты — дастала, вынесла, — па сутнасці, тым самым крадзяжом і былі. А бацька паехаў у Маскву на цягніку і накупіў поўныя сумкі мандарынаў, «Фанты», сасісак, «Доктарскай» і нейкай дзівоснай каўбасы з кітовага мяса, якой больш ніколі пакаштаваць не давялося.

Тата з сябрам ужо пасля адзначалі ўдалыя закупы. Здаецца, дасюль чую іхнюю гаману за сталом: «А яна мне: «Мяшочнікі, панаехалі!» А я ёй: «А ты, дзевачка, думаеш, хлеб на Краснай плошчы расце? Бога за бараду ўзяла, раз у Маскве жывеш?»

Памятаю, я тады зрабіла нечаканае для сябе адкрыццё: сасіскі бываюць не толькі цёплыя, вараныя, але і халодныя сырыя, і яны значна смачнейшыя. Памятаю таксама дзіцячую эйфарыю ад магчымасці есці іх колькі хочаш! Радасць, успамін пра якую выклікае, апроч удзячнасці бацьку, абурэнне. Нешта не хочацца паўтору таго самага шчасця і « таго самага смаку», хай дзеці цешацца іншымі рэчамі.

Так што з афіцыйна ўхвальнымі сімваламі настальгіі неяк не задалося. А вось туга па тых амаль зніклых з жыцця ласунках, што дазваляюць адчуваць напоўніцу стракатасць навакольля, дазваляюць глядзець на свет дзіцячымі вачыма. Прысмаках, што год ад году сапраўды застаюцца тымі самымі, даступнымі без усялякіх прывілеяў.

## Бярозавік

Не, не той, са скарбонкі ў зялёны лісцік, што ў «Тройцы» на скідках. Не падсалоджаны, з апельсінам, цяперашнім светам закатаны ў дваццаць трохлітровых слоікаў узорнымі для ўсіх гаспадынямі.

З бярозавіку для мяне калісці пачыналася вясна, ім жа і сканчалася.

На поплаўчыку ў канцы агароду штогод дзядуля падпускаў спярша клён, а пасля — бярозу. Саладкаваты бярозавік бруіўся па драўляным латку ў вядро. У халаднаватае надвор'е сок ледзьве крапаў ці супыняўся, уночы падмарожвала — дрэва падмярзала, у вядры плавалі колкія халодныя льдзінкі. А калі была пагода — струменіўся маленькім раўчуком. Нахілішся папіць, станеш каленам на лугавіну — і адразу мокрая пляма на спарціўках. Але ж хіба на вясновых канікулах мокрыя нагавіцы — гора? Калі, напіўшыся бярозавіку, можна кідаць каменьчыкі ў копанку, засланую леташнім чорным лісцем, вадзіць дубцом па вадзе, слухаць, як звіняць жаўрукі ў нябесным блакіце. Калі сонейка па поплаве скача зайчыкамі, вялізныя чыстыя лужыны з выжарынамі чаргуюцца, а па ўсім лузе цвіце кураслеп!

Бярозавік збіралі ў бочку і бак, ставілі ў варыўню, кладоўку.

Ён падкісаў, рабіўся квасам. На пачатку траўня, як садзілі бульбу, а яблынькі ў садзе нагадвалі вялізныя букеты, бярозавік аказваўся вельмі дарэчы. Раніцай на поле ўся гаманкая чарада сваякоў ды суседзяў ідзе ў гумовіках, але апоўдні ралля награецца, хоць басанож бяжы, а жоўтая штапельная хустка звальваецца на плечы. Араты і той, хто каня вадзіў і насенку ў кашы насыпаў, і тыя, што гной уграбалі ці за бабу былі, — усе замарыліся, адпачыць на разору прыселі. Тады бяжыш у халаднаватую камору, наліваеш трохлітровы слоік падкіслага, асвяжальнага бярозавіку. Яго гаючы смак наталяе смагу і дадае моцы. І ўжо потым, калі ідуць піць магарыч за стол, прыгатаваны з усяго найлепшага, што толькі ёсць у хаце, бярозавік таксама там. Ім частуюцца і малыя, і старыя. Ён гоніць прэч стому, цудоўна дапаўняючы смак самагону дваццацігадовай вытрымкі, вэнджаных паляндвіц ды пер'я цыбулі, у соль памачанага. Выйдзеш на ганак, ад бяседнай гаманы адпачыць — салаўіны спеў чутны, і табе здаецца, што то не салоўка ў сліўняку пяе, а душа твая.

З надыходам летняй гарачыні бярозавік рабіўся сапраўдным кіслоццем, ажно сківіцы зводзіла — з пітва ператвараўся ў ежу. «Ну што на абед: кашу забелім ці халаднічку?» — яшчэ зранку пытала бабуля. Часцей за сечку і макароны, залітыя халодным малаком, абіралі халаднічок. У кіслы бярозавік крышылі зеляніну, вараныя яйкі, гурок, калі быў, дадавалі смятаны. І халаднік разам з прычыненымі аканіцамі ратаваў ад летняй спякоты.

## Яблыкі

Бадай, ніводная садавіна не магла пахваліцца гэткай колькасцю гатункаў і смакаў. Хоць старадаўнія гатункі сліў і груш таксама былі кожны па-свойму смачныя, а словы «цукроўкі», «венгеркі», «чарнасліў», «скарапелкі» для мяне як песня гучаць. Але да разнастайнасці і паўсюднай прысутнасці яблычнага смаку ў жыцці астатняй садавіне ўсё ж далёка.

Яблыкі — гэта белы наліў. Першыя зеленаватыя кіслыя паданкі ўжо ў ліпені ўшчэнт збівалі ячмень пад яблыняю, пасля рабіліся белымі духмянымі, а калі пабіць яго аб плот — яшчэ больш сакавітымі, а ў сярэдзіне жніўня — сопкімі, наліўнымі: паглядзіш — ледзь не наскрозь свецяцца, семкі бачныя.

Яблыкі — гэта штрыфель, буйны і чырванабокі — хоць на выставу, дробненькія пепінкі далікатнага, вытанчанага кісла-салодкага смаку, барвовыя цыганкі — увосень не ўгрызці, вісяць у варыўні ў кашы падвешаныя ўсю зіму, а напрадвесні хоць ужо пахнуць зямлёй і варыўнёю больш, як садавіной, але не псуюцца.

Раннія жаўтлявыя, з выгляду несамавітыя, а на смак — саладзейшыя за мёд яблычкі з-пад старой разлапістай яблыні, пра каторую бабуля некалі з гонарам казала: «Мой бацька садзіў!» Пачула ўчора пра сучасны гатунак яблыні — растуць у рост чалавека і толькі пяць гадоў родзяць — сумна зрабілася.

Дзед даглядаў сад, прышчэпліваў яблынькі, падпіраў голле і гаварыў пра дрэвы з такой пяшчотай, бы пра дзяцей родных. Аднак бывала: у чужым садзе духмяных антонавак болей, крамяныя пуцімкі буйнейшыя, а хочацца болей соку на «Журавінцы» націснуць, або недзе па суседстве спеюць такія яблыкі, якіх у нас няма.

Сады пакінутых сядзіб у выміраючых вёсках! Ураджай належыць таму, хто першы агледзіць. З-за торбы яблык нашчадкі памерлых гаспадароў за паўтары сотні кіламетраў наўрад ці паедуць, а калі б і прыехалі, дык хапіла б і ім — яблыкі мостам ляжалі. Дый, пабачыўшы, што хата на месцы стаіць нерабаваная, — ніхто той знесенай садавіны не шукаў. Лазілі па кінутых садах ўпотайкі — хутчэй з прычыны падлеткавай прагі да прыгодаў або каб яшчэ нехта не агледзеў і ўслед за табой з кашом не прыперся. Здаралася, дарослыя, каб самім пасля сабраць ураджай, маглі канечне, паўшчуваць чужых унукаў, але аргумент — «Гэта нашая радня, яны нам напісалі...» — абяззбройваў гэткіх хітрых праведнікаў канчаткова. Найчасцей жа гаспадары самі прасілі напрамілы бог сабраць паданкі тых, хто меў у іх патрэбу. Паход па яблыкі здзічэлага саду ў дарослым узросце нагадваў паляванне. Трэба было, прадраўшыся праз лоўж і плантацыі дзядоўніку, апярэдзіць усіх ахвочых. Неяк восенню, ужо маючы малую дачку, выбралася я ў такі сад, дзе і хаты ўжо не было, па сакавітыя пуцімкі. Паданак на зямлі аказалася мала — я ўзлезла на дрэва і пачала яго трэсці. Пачуўшы, што нехта калоціць яблыні побач, з суседняй хаты высунуўся аднавясковец і з ходу пачаў сварыцца. Але, пабачыўшы мяне, надта здзівіўся: «А, гэта вы? А я ж думаў, якія блатныя хлопцы з Гарохаўкі!» — прабачыўся і пайшоў дахаты. Неспакой старога меў падставы: унадзіўшыся ў сад, чужыя падлеткі маглі і па хатах лазіць, цягнучы ўсё што даспадобы. Я тады прыперла яблыкаў заплечнік і вазок — і гэта была мая здабыча! Па дарозе сустрэлася жвавая суседка гадоў пад восемдзесят, з тае кагорты, што свайго нідзе не ўпусціць. Яе ўзяла зайздрасць: «Пабягу ж і я!» Я не стала зараней расчароўваць, толькі цётцы з кашом услед паглядзела, — шанцаў няма — на дрэва яна не залезе!

Яблыкі — гэта антонаўкі, каштоўныя смакам і непаўторным водарам. Менавіта іх замочвалі ў дзежках і бочках, папярэдне саломы падклаўшы. Калі разам з антонаўкамі трапляліся іншыя яблыкі — розніца адразу адчувалася: яны не мелі таго смаку, былі мяккія і разлезлыя, як мялле. Антонаўкі — іншая справа: зімою ўсадзіш руку ў бочку, яна шчыпіць, аж заходзіцца ад халаднага кіслага расолу, дастанеш колькі мочаных антонавак. Кра-

мяныя, жоўценькія, смак рэзкі — аж вочы на лоб. Паржаш лустачкай — хочаш так пад гарэлачку еш, хочаш цукрам пасып — дзецям ласунак будзе!

Яблыкі — гэта яшчэ і сушкі. Сушкі — бо сушаныя, на сонцы і ў печы. Кіслыя — святлейшыя, салодкія — цямнейшыя. Можна ўзвар з іх гатаваць, можна — як тыя семкі ўзімку сухімі есці. Слівы і грушы сушылі радзей — больш дроваў спаліш, на сонцы яны наогул не высахнуць. Сушак заўжды было шмат, імі нават яйкі ўкручаныя папярэдне ў паперу перасыпалі, каб не пабіліся ў сумцы, пакуль давязеш.

### Кісель у брыкетах і смародзіны

Паўфабрыкаты гэтага кісялю і сёння можна адшукаць у краме. Сёння з яго па-ранейшаму вараць кісель у сталоўках, але выкарыстоўваць яго не па прызначэнні нікому не прыходзіць у галаву. А некалі ў кожнай хаце па дзясятку пачак ляжала.

Колішняе стаўленне чалавека да гэтага прадукту сведчыць пра яго біялагічны ўзрост лепш за пашпарт. Калі гадоў дваццаць пяць — трыццаць таму ён быў для вас ласункам, значыць, вы сярэдняга веку. Калі сыравінай для брагі — вы ўжо не першы год як пенсіянер!

Перад вачыма — яскравы ўспамін, пэўна, такое бачыў кожны, хто праязджаў праз вёску цёплым летнім адвячоркам. Гарачыня ўжо спала, па вуліцы ідуць каровы з пашы, абціраючы свае наетыя бокі аб пыльны бэз. Пыл залоцішча ў вечаровых промнях сонца. На лаўцы сядзяць старыя, а побач стаіць малое дзіця ў адных майтках, з галавы да ног спрэс выкачанае ў вулічным пяску, такое мурзатае, што здаецца, з самага нараджэння не мыў


ФОТА ДЗЯНІСА РАМАНЮКА

ФОТА ДЗЯНІСА РАМАНЮКА

ніхто. Адною рукой яно трымаецца за маленькі трохколавы ровар, а ў другой — паспрабуй адбяры — заціснула пачак кісялю і з асалодаю грызе яго.

Вядома, не ўсе бацькі і бабулі лічылі падсалоджаны сухі крухмал карысным ласункам для дзіцяці. Але забароненае — заўжды самае смачнае! Нягледзячы на наяўнасць кукурузных палачак, цвердаватых пернікаў і ірысак з вясковай крамы, кісельныя паўфабрыкаты, набытыя з іншаю мэтаю і схаваныя ў далёкім куце буфета, былі жаданымі прысмакамі.

Кісель дзеля закускі дзецям ці на бяседу звычайна варылі са смародзінавага варэння. Ён быў самым папулярным вясковым дэсертам. Разлівалі па вялікіх талерках, накрывалі газетаю, каб мухі не ўляцелі, а калі застываў, дык яго можна было толькі лыжкамі есці. Густы, халодны, салодкі.

Бадай, са смародзінаў варэнне толькі і варылі. Смародзіны ў нас калісь былі як гуркі ў Шклове. Парэчак жа чырвоных і белых было ўсяго якія тры кусты. У смародніках улетку абіралі ягады па два тыдні ўсёй сям'ёй. Яны былі выдатным гасцінцам для гарадской радні, у горадзе памагалі з ходу вырашыць любое пытанне: ад лячэння зубоў у паліклініцы да выпісвання торфу на зіму. Смародзіны таксама пэўны час былі дадатковай крыніцай заробку. Раней кошыкамі вазілі ў Бабруйск на продаж: «Усё прадала, а гэтую не бярэ ніхто! Жыды ходзяць, насамі круцяць — дробная. Дык я кажу — то ж лясная! Як бачыш — прадала». Пазней здавалі перакупшчыкам на месцы. «Абірай смародзіны — здасі, усе грошы тваё будуць», — аднойчы паабяцала бабуля. Мне было гадоў дзевяць-дзесяць, я наабірала вядро і зарабіла першыя ў сваім жыцці тры рублі. З тае пары смародзіны для мяне — успамін, што лашчыць смак і кішэню.

### Слівавы клей

Калі б у мяне запыталі пра колер майго дзяцінства, дык я адказала, што яно, мабыць, гэткае, як вясёлка над лугам. А калі б пра смак — дык на смак маё дзяцінства дакладна было не такім суцэльна святочным, як рэклама марозіва «28 капеек», і не такім спрэс саладжавым, як колішні зефір з глушанскае крамы, чамусьці заўжды чэрствы — хоць цвікі забівай. Што зробіш: уражанні і ўспаміны ад найлепшай пары не заўжды салодкія — у мяне добрая памяць! Ды і ці ідзе на карысць зашмат цукру?

Дзяцінства маё, хутчэй, мела смак смалы вішнёвай ці слівовай, або клею, як мы яго тады клікалі. Лагодны саладкавата-вязкі смак з ледзь улоўным гаркавым адценнем і садавінным водарам. Ласунак, які бывае розным: цёмна-барвовым, чырвоным, жаўтлявым, мяккім, як воск, або застылым, як палены цукар — гэта ўжо як пашчасціць. А ў роце, як пажуеш, усё адно распадаецца на крупіны! Экалагічна чыстая жуйка — нібыта і ежай не назавеш — спажывы з яго няма, але і шкоды таксама. Яго не купіш нідзе, не згатуеш, не папросіш у дарослых, а можна толькі знайсці і здабыць — на каравым тонкім слівавым камлі ці ўскараскаўшыся на тоўстую галіну старой вішні. Нават зараз, ідучы паўз сліўняк, пільна прыглядаюся да гэтых колкіх вольных дрэваў. І ніколі не ляную- ся руку працягнуць ці падскочыць — вось ён, слівавы клей, бурштынам свеціцца на сонейку. Азіраючыся на пражытае і перажытае, сведчу — насамрэч той самы смак!

# У спёку ратаўнік: найсмачнейшы халаднік

Нашы продкі пакінулі нам прыўкрасны спосаб пераждаць спёку: халодныя супы! Калі нічога іншага есці не хочацца, а падсілкавацца трэба, яны зойдуць за мілую душу.

Колькі сябе памятаю, як толькі тэмпература падымалася вышэй за 20 градусаў, у нашай сям'і гатаваліся халаднікі: з бураком, з бацвіння, са шчаўя і крапівы. Але самы мой улюблёны варыянт — халаднік з бураком і кефірам. Гатуецца вельмі проста, насычае і ахаладжвае!

**Складнікі на 4 порцыі:**

500 гр. бурака;
4 шклянкі кефіру (не вельмі тлустага);
1 шклянка вады;
4 яйкі;
1 агурок;
зялёная цыбуля;
кроп;
4 ст. л. смятаны;
соль;
воцат.

Буракі зварыць ці запячы. Асабіста я больш люблю запякаць: падаецца, што бурак тады мае больш насычаны смак і колер. Для запякання дастаткова капнуць алеем на бурак, загарнуць яго ў фольгу і пакінуць у духоўцы на гадзіну пры тэмпературы ў 180 градусаў (можна пакласці скруткі з бураком у духоўку, пакуль там выпякаецца нешта іншае, каб ашчадзіць час).

Гатовыя ахаладжаныя буракі трэба пацерці на тарцы. Заліваем іх кефірам і вадой (можаце дадаць больш вады, але мне падабаецца менавіта густы, кефірны халаднік). Солім, дадаём воцат на смак.

У талерку крышым агурок, зялёную цыбулю, кроп (калі ёсць жаданне, можна пакрышыць радыску), кладзём яйка. Заліваем буракам з кефірам, запраўляем смятанай. Прыўкрасна ідзе і з запечанай бульбай, і з чорным хлебам.

Смачна есці!

**Вольга Чарнова**



# Ці можна адбяліць зубы танна, што рабіць з «канаўкамі» ўздоўж дзяснаў, ці набываць пасту з фторам — папулярна тлумачыць стаматолаг

Мы далі магчымасць кожнаму праз каментары задаць любое пытанне, звязанае са здароўем поласці рота. Сёння на іх адказвае доктар-стаматолаг, кандыдат медыцынскіх навук, дырэктар клінікі «Інтэлектуальная стаматалогія» Марына Цімашэнка.

Зазначым, што падобныя і блізкія па тэматыцы пытанні мы аб'ядналі.



Дырэктар «Інтэлектуальнай стаматалогіі» Марына Цімашэнка

**breakidz: У мяне павышаная адчувальнасць зубоў. На некаторых зубах нават ёсць «канаўкі» ўздоўж дзяснаў. Што з гэтым рабіць?**

**Марына Цімашэнка:** Прычына — частае кіслае асяроддзе ў роце (фрэшы, сокі, садавіна і чыстка зубоў пасля гэтага, асабліва гарызантальныя рухі). Выйсце — запіваць сокі глытком вады ці прапалосквать рот, не чысціць зубы адразу пасля прыняцця такіх прадуктаў, прыйсці да стаматолага і закрыць канаўкі, якія з'явіліся, адмысловым лакам або пломбай. Варта паспрабаваць пасты для адчувальных зубоў і ні ў якім разе не выкарыстоўваць пасты для адбельвання.

**Вось: Калі зуб разбураны, але не баліць, ці варта яго выдаляць?**

**МЦ:** Неабходна ацаніць ступень разбурэння і магчымасці палячыць ачаг інфекцыі ў косці, пасля гэтага прымаць рашэнне аб выдаленні. Існуюць спосабы захаваць праблемны зуб, хірургічным шляхам выдаліўшы праблемную зону, то бок высечы корань, які не паддаецца лячэнню. Такія аперацыі называюцца зубазахавальнымі, прымяняюцца неапраўдана рэдка. Мой клінічны досвед паказвае высокую эфектыўнасць пратэзавання такіх зубоў.

**Аматар бландынак: Гадоў 30 таму быў шырокі анонс лазернай стаматалагічнай бормашыны: лячэнне зубоў без болю, без пахаў, без вібрацый. Аднак у Беларусі я так і не ўбачыў лазера ў кабінетах, у тым ліку і ў платных. Чаму так? Няўжо лазер аказаўся шкодным ці ў нас стаматолагі проста не ўмеюць працаваць на такім абсталяванні?**

**МЦ:** Лазер для прэпаравання (свідравання) зубоў не можа забяспечыць дастаткова вялікі аб'ём умяшання, удаецца працаваць толькі з маленькімі поласцямі. Лазер знайшоў прымяненне ў іншых галінах стаматалогіі: з яго дапамогай праводзяць дэзынфекцыю ў канале кораня зуба, працуюць са слізістай, ужываюць для лячэння захворванняў перыядонту і, вядома, актыўна адбельваюць зубы. Не апошняй з прычын рэдкага выкарыстання лазера з'яўляецца грашовае пытанне. Абсталяванне вельмі дарагое, гэта адбіваецца на цане паслугі, а фактычна якасна і бязбольна прэпараваць зуб можна пры дапамозе сучасных высакахуткасных стаматалагічных наканечнікаў з астуджэннем і падсветкай.

**Валер: У мяне зламаныя два пярэднія зубы, і на іх стаяць пломбы. Яны трохі стачыліся з часам. Ці мае сэнс іх мяняць? Ці шкодныя для зубоў пломбы, якія стачыліся, але не цалкам?**

**МЦ:** Звычайна ў падобнай сітуацыі пацыентаў турбуе пытанне эстэтыкі. Аднак, акрамя прыгажосці, у такой сітуацыі можа пацярпець і функцыя адкусвання: зубы горш змыкаюцца, пачынаецца сустрэчнае перасоўванне процілеглых зубоў, змяняецца характар змыкання сківіц. Вядома, арганізм кампенсуе гэта, і пацыент прывыкае да зменаў у прыкусе. Такая сітуацыя можа адбівацца на ніжнясківічным суставе, можа з'явіцца зрушэнне ніжняй сківіцы, шчаўчок пры адкрыванні рота. Варта, на мой погляд, ацаніць сур'ёзнасць канкрэтнай сітуацыі і прыняць рашэнне аб замене пломбаў.

**Valle: Мне 37 гадоў. Стаматолаг сказаў, што ў мяне ёсць малочны зуб. Ці можа такое быць і што з ім у такім выпадку рабіць?**

**МЦ:** Так, такое здараецца, і нярэдка. Як правіла, малочныя зубы не выпадаюць, калі ў сківіцы няма закладкі пастаяннага зуба, альбо зародак зуба дыстапіраваны (знаходзіцца ў іншым участку сківіцы). Пры гэтым не адбываецца рассмоктванне каранёў малочнага зуба і ён не выпадае. Сам факт наяўнасці малочнага зуба ў пастаянным прыкусе лячэння не патрабуе, аднак, калі ўзнікаюць эстэтычныя пажаданні, магчымыя розныя спосабы выпраўлення: ад карэкцыі пры дапамозе фотапалімерных вініраў да хірургічнага ўмяшання і артадантычнага выцяжэння непрарэзанага зуба.

**Васіль Астрэйка: Як праверыць, ці сапраўды трэба мяняць пломбу, як кажа доктар? Помніцца журналісцкі матэрыял, дзе сем розных стаматолагаў рэкамендавалі лячыць розную колькасць зубоў.**

**МЦ:** Самастойна пацыент не зможа ацаніць цалкам якасць пломбы, паколькі бачыць не ўсю яе паверхню. Самому складана ацаніць і наяўнасць краявых шчылін, дэфектаў, якасць аклюзіённых кантактаў.

Аднак будзе карысна ведаць шэраг параметраў, якім павінны адпавядаць пломбы, і мець магчымасць задаць адпаведныя пытанні доктару.

Добрая пломба павінна цалкам аднаўляць форму і колер зуба, не мець паверхневых дэфектаў і прафарбоўвання па краях прылягання да тканак зуба. Краёвыя дэфекты — галоўная прыкмета негерметычнасці пломбы, гэта значыць, што карыесагенныя мікробы могуць пракрадацца па краёвай шчыліне і далей незаўважна разбураць зуб. Неадпаведнасць анатамічнай форме — галоўны вінаваты захрасання ежы паміж зубамі, а значыць — развіцця карыесу ў вобласці кантактаў суседніх зубоў і запалення дзясны. Калі такія дэфекты выяўляюцца, пломба лічыцца нядобрай, і лекар мае права рэкамендаваць яе замену. Пераканаўчым доказам замены пломбы павінен стаць факт захрасання ежы, абрыву зубной ніткі, з'яўленне непрыемнага паху.

Што тычыцца адрозненняў у дыягностыцы карыесу рознымі дактарамі, то карыёзны працэс — гэта паступовая дэмінералізацыя эмалі і дэнціну, фактычна — растварэнне мінеральнай асновы зуба, якое мае шэраг стадый. Асноўны метад дыягностыкі карыесу — візуальны агляд, пры якім лекар абапіраецца на ўласны клінічны досвед і робіць уласны клінічны прагноз для спрэчнага зуба. Аднак існуюць і дадатковыя метады дыягностыкі (прыкусная рэнтгенаграфія, люмінесцэнцыя і лазерная флюарэсцэнцыя), якія дазваляюць дакладней ацэньваць стан зуба ў спрэчных выпадках.

Задача лекара пры дыягностыцы — вызначыць ступень паражэння ў гэты момант і спрагназаваць развіццё працэсу для канкрэтнага пацыента ў залежнасці ад узроўню гігіены і колькасці ўжо лечаных зубоў. На падставе гэтых дадзеных пацыент сам мае права пагадзіцца ці адмовіцца ад лячэння. А наогул, мы гаворым пра давер да лекара. Нават у стагоддзе «лічбы» поспех лячэння па-ранейшаму шмат у чым залежыць ад даверу пацыента. Выберыце доктара, якому давяраеце, і дазвольце яму паклапаціцца пра ваша здароўе.

**Мікола: Ці шкодзіць эмалі зуба ультрагукавое выдаленне камянёў. Ці ёсць якія-небудзь парады па харчаванні для ўмацавання эмалі?**

**МЦ:** На эмаль сфармаваных і прарэзаных зубоў аказваюць уплыў толькі фактары, якія дзейнічаюць з боку паражніны рота. Пранікненне кальцыю ў тканку зуба са з'едзенага дарослым тварагу ў літаратуры не апісана. А вось негатыўных уплываў на эмаль з боку прадуктаў хоць адбаўляй: гэта лёгказасваяльныя вугляводы, прыліплыя да паверхні зуба, газаваныя салодкія напоі, якія растваряюць эмаль, і, вядома, фарбавальнікі, асабліва тытунёвы дым і вейпінг. Ультрагукавая апрацоўка праводзіцца для выдалення зубнога каменю і бяспечная для эмалі, безумоўна, пры правільным ужыванні.

**Беларус: Яшчэ падчас школьных гадоў сын адбіў сабе кавалак пярэдняга зуба. З цягам часу траўмаваны зуб пацямнеў. Цяпер сыну 21 год. Што рабіць, каб пазбавіцца ад такой непрывабнасці? Якая найбольш сучасная і надзейная методыка нарошчвання адколатага жывога зуба даступная сёння ў Беларусі?**

**МЦ:** На жаль, калі зуб пацямнеў, то казаць пра жывы зуб ужо не выпадае. Безумоўна, спатрэбіцца рэнтген, і добра было б правесці электраадонтадыягностыку для вызначэння жыццяздольнасці зуба. Ёсць некалькі спосабаў аднаўлення. Першы, самы хуткі і цалкам эстэтычны, — гэта пломбы з сучаснага фотапалімеру, магчыма, з папярэднім унутрыканальным адбельваннем зуба. Але гэты метад можа падысці, калі захаваўся вялікі аб'ём сценак зуба, яны без расколін і не занадта вытанчыліся. Калі пашкоджанні сценак значна большыя, то аптымальным будзе выраб керамічнага вініра. Гэта больш дарагая працэдура, праводзіцца яна ў некалькі наведванняў, але дазваляе дасягнуць вельмі высокай эстэтыкі надоўга. Дарэчы, керамічны вінір можа быць выраблены і на жывы зуб з невялікімі пашкоджаннямі.

**НВ: Пасля праблем з сэрцам захісталіся і выпалі зубы. Ці можна выдаліць тыя шэсць зубоў, што засталіся, за адно наведванне доктара?**

**МЦ:** Такое пытанне, безумоўна, будзе вырашаць хірург. Вядома, рашэнне можа залежаць ад вашага агульнага стану здароўя, але ў цэлым гэта магчыма. На мой погляд, лепш звярнуцца па дапамогу ў хірургічны стацыянар: у Мінску гэта 11-я гарадская клінічная бальніца, аддзяленне сківічна-тварнай хірургіі. Ваш стаматолаг можа напісаць для вас накіраванне.

**Андрэй: Якія каронкі цяпер лепш ставіць на верхнія жавальныя зубы?**

**МЦ:** Вядома, канкрэтная клінічная сітуацыя можа паўплываць на выбар віда канструкцыі. Усе сучасныя каронкі шчыльна прылягаюць да куксы зуба без утварэння зазораў. А вось эстэтыка ў іх розная: цэльнакерамічныя, безумоўна, наперадзе, вельмі высокай эстэтыкі можна дамагчыся з металакерамічнымі, а адліваныя металічныя каронкі — гэта серабрысты колер паліраванага металу. Цэнавыя катэгорыі размяркоўваюцца так: у топе — цэльнакерамічныя, разумныя суадносіны кошту-якасці — гэта металакераміка, эканамічны варыянт — суцэльналітыя металічныя.

**Пратэзаванне: Ці ёсць іншыя магчымасці пратэзавання, акрамя імплантацыі?**

**МЦ:** Вядома, аднавіць зуб можна цэлым шэрагам спосабаў, акрамя выдалення і імплантацыі. Папершае, калі корань зуба захаваны і добра загоены, то можна вырабіць штыфт з апорай на корань і надзець штучную каронку. У зубах з некалькімі каранямі магчыма таксама выдаліць той з каранёў, які не паддаецца пералечванню, і зрабіць апорай пакінуты «добры» корань. З уласнага досведу скажу, што гэтыя аперацыі па захоўванні зуба і пратэзаванне на такіх апераваных зубах дае эфектыўныя вынікі ў 91% выпадкаў.

У сітуацыі, калі адзін зуб адсутнічае, таксама існуе маса варыянтаў: ад адгезіўных пратэзаў, пры якіх ствараюць адсутны зуб з кампазіту і фіксуюць да суседніх шкловалакном. Такія канструкцыі захоўваюцца ад 5 і больш гадоў, яны ствараюцца за адно наведванне, лёгка паддаюцца рамонту. Акрамя таго, магчыма вырабіць мост з апорай не толькі на цэлы суседні зуб, але і на больш захаваныя тканкі суседняга зуба ўкладкі. Нарэшце, існуюць здымныя пратэзы невялікай працягласці, на адзін-два адсутныя зубы, якія не патрабуюць «абточвання» суседніх зубоў.

**Юрась: Адны навукоўцы кажуць, што фтор проста неабходны для здаровых зубоў і што трэба піць фтарыраваную ваду. Іншыя лічаць, што ён шкодны для арганізма чалавека і трэба выкарыстоўваць зубныя пасты без фтору. Дык дзе праўда?**

**МЦ:** Фтор, як любы мікраэлемент, неабходны нашаму арганізму для цэлага шэрагу біяхімічных працэсаў, а таксама для фарміравання карысерэзістэнтнасці эмалі. Зубы фарміруюцца ўнутрычэраўна і ў першыя 6 гадоў жыцця. У гэты перыяд у фтору, які паступае з вадой, ежай і паветрам, ёсць шанец убудавацца ў эмаль і ўмацаваць яе. Далей фтор можа ўздзейнічаць на эмаль толькі ў момант чысткі зуба або нанясення спецыяльных прэпаратаў стаматолагам, пакуль сліна не змые яго. Гэта значыць, фтор працуе толькі ў паверхневым пласце і можа павярнуць назад пачатае разбурэнне зуба.

У Беларусі канцэнтрацыя фтору ў вадзе — яго галоўнай крыніцы — у 10 разоў ніжэйшая за норму. Мы хранічна недаатрымліваем фтор, як і ёд. Таму цяжарным жанчынам і дзецям да шасці гадоў неабходна паступленне фтору ўнутр. Астатнім — хоць бы звонку, з пасты.

Часта мы купляем соль, абагачаную ёдам, а яшчэ 5 гадоў таму Мазырскі камбінат выпускаў і фтараваную соль, пакуль працавала Нацыянальная праграма прафілактыкі карыесу і хвароб перыядонту.

Што тычыцца таксічнага ўздзеяння фтору, то яшчэ Парацэльс казаў, што ўсё ёсць атрута і ўсё ёсць лекі, справа толькі ў дозе. Так, існуе стан залішняга назапашвання фтору ў тканках зуба, але такія паражэнні апісаны ў мясцовасцях з залішнім утрыманнем фтору ў вадзе. Беларусі гэта не пагражае.

Выснова: прадукты «фтор-free» — не для беларускіх зубоў.

**Света: Чаму часта (раз на 2—3 месяцы) з'яўляецца стаматыт? Як яго лячыць? Як зрабіць, каб ён не так часта з'яўляўся?**

**МЦ:** Прычынамі могуць быць стан слізістай страўніка (г.зв. хранічны рэцыдыўны афтозны стаматыт), а таксама часта рэцыдыўны герпес, не абавязкова на вуснах. У любым выпадку пры з'яўленні паражэнняў на слізістай трэба ўжываць антысептык ад хлоргексідыну, септамірыну да звычайных рамонкаў. На ранкі наносіць салкасерыл (дэнтальную адгезіўную пасту) — будзе хутка зажываць. Але высветліць прычыну ўсё ж такі трэба!

**Света: На языку ўвесь час з'яўляецца белы налёт з непрыемным пахам, і калі яго не чысціць шчоткай кожны дзень, то яго становіцца ўсё больш. Ці гэта кандыдоз?**

**МЦ:** Выключыць кандыдоз нельга. Магчыма, спатрэбіцца аналіз на грыбок роду Кандыда, які праводзіць парадантолаг.

Дарэчы, калі абодва сімптомы — стаматыт і налёт — назіраюцца ў аднаго чалавека, то трэба абследаваць страўнік.

**32: Ці можна адбяліць мёртвы зуб, што пачарнеў? Як?**

**МЦ:** Так, можна. Стаматолаг можа правесці ўнутрыканальнае адбельванне пасля кантрольнай рэнтгенаграмы і, магчыма, пералечвання канала.

**hata23: Пасля выдалення нерва ў шостым зубе знізу і пламбавання трох каналаў зуб, амаль праз год, працягвае ўмерана пабольваць пры націску на яго. Пломба, мяркуючы па здымках, нармальная, кісты няма. Стаматолаг разводзіць рукамі. Якія могуць быць прычыны і што рабіць?**

**МЦ:** Зрабіць КТ (камп'ютарную рэнтгенаграфію) зуба. Магчыма наяўнасць дадатковага чацвёртага канала, а таксама доктар убачыць больш выразную карціну ў касцяной тканцы вакол зуба. У клініцы, дзе будуць рабіць КТ, можна атрымаць падрабязнае рэнтгеналагічнае апісанне праблемнага зуба.

**Міміно: Лепш да апошняга лячыць хворы зуб або ставіць пратэз? Ёсць меркаванне, што стаматолагі самі сабе пратэзы не ставяць. Гэта праўда?**

**МЦ:** Ставяць! Для ўсяго ёсць паказанні. Велізарныя бясформенныя пломбы не прыносяць здароўя не толькі гэтаму зубу, але і суседзям па баках і зверху. А якасная каронка не разбурыць зуб.

**Alisa: У мяне два імпланты. Ці трэба купляць ірыгатар, каб добра чысціць зубы? Можа, дастаткова звычайнай шчоткі?**

**МЦ:** Імпланты вельмі адчувальныя да любога запалення вакол іх, таму гігіена павінна быць амаль ідэальнай. Ірыгатар — не панацэя і шчотку не заменіць, але дае дадатковае ачышчэнне ў недаступных месцах, антысептычную апрацоўку і масаж.

**Бульбаш: У сына (6 гадоў) часта з'яўляюцца флюсы. Наш стаматолаг сказаў, што нічога тут не зробіш — трэба перарасці. Ці праўда гэта і як засцерагчыся ад рэцыдываў?**

**МЦ:** Так, у малочных зубах праяўляецца хранічны перыядантыт. Гэта яго абвастрэнне: гной назапашваецца вакол кораня, потым прарываецца праз дзясну. Пад гэтым коранем знаходзіцца зародак пастаяннага зуба. Трэба рабіць здымак, глядзець на ступень разбурэння і, магчыма, прымаць рашэнне аб выдаленні. Калі так здарыцца, на месцы выдаленага зуба неабходна паставіць адмысловую распорку, каб захаваць месца і не выклікаць змяшчэння зубоў. Гэта называецца спэйс-кантроль, і дапаможа з ім артадонт.

**Кантрабандыстка: Колькі часу павінна стаяць якасна зробленая пломба?**

**МЦ:** 5—7 гадоў. За гэты час яна можа мяняць свой знешні выгляд: фарбуецца, сціраецца — гэта старэнне матэрыялу ў паласці рота пад уздзеяннем сліны і жавання.

**Пчолка: Ці ёсць спосабы адцягнуць наступленне апошніх стадый парадантозу пры гіпертонусе сківіц, што абумоўлена няправільным прыкусам? Калі ласка, адкажыце на маё пытанне, сітуацыя вострая. Брэкеты ставіць позна.**

**МЦ:** Артадантычнае лячэнне не мае ўзроставых абмежаванняў, а вось няправільны прыкус — гэта не прычына парадантозу, а фактар рызыкі. Таму лячэнне парадантозу, а дакладней стабілізацыя працэсу і прыпыненне яго прагрэсавання, — гэта галоўная задача. Дамагчыся поспеху ўдаецца рэгулярным парадантальным лячэннем (раз на 4—6 месяцаў праводзіць прафгігіену і закрыты кюрэтаж, магчыма — шыніраванне і медыкаментозную тэрапію). Гэта захворванне не безнадзейнае, пры рэгулярнай тэрапіі амаль заўсёды ўдаецца дасягнуць стабілізацыі, сітуацыю можа пагаршаць толькі наяўнасць дыябету.

**Марыйка: Мне 32 гады. На апошнім аглядзе ў стаматолага выявілася, што ў мяне зламаны корань зуба. Зуб нежывы, нерв быў выдалены гадоў 5 таму, каналы добрыя. Але лекар заўважыла, што над зубам на дзясне ёсць невялікі нарыў. Здымак паказаў, што корань зламаны ўпоперак. Як мне растлумачылі, гэта і з'яўляецца прычынай дыскамфорту, а таксама бугарочку на дзясне, бо гэта — запаленне. Пломбу мне зрабілі, але сказалі, што адзінае выйсце — выдаленне зуба. Ставіць імплант вельмі страшна, але чытала, што калі ў такіх выпадках нічога не рабіць, то можа падгніць сківічная костка, і тады нават пратэз не паставіш. А бугарочак гэты ў мяне даволі даўно, больш за год. Дайце, калі ласка, параду: ці выдаляць зуб? Ці трэба зрабіць яшчэ якія абследаванні, каб быць упэўненай, што пратэз можна ставіць?**

**МЦ:** Справа ў тым, што ў зубоў з некалькімі каранямі звычайна складаецца сітуацыя, пры якой толькі адзін з каранёў не паддаецца пералечванню, астатнія пры гэтым у добрым стане. Тады паўстае пытанне аб выдаленні ўсяго зуба. У такой сітуацыі можа дапамагчы зубазахавальная аперацыя, пры якой праводзяць выдаленне толькі праблемнага кораня або яго часткі, а астатняя частка зуба стане апорай для каронкі. Пракансультуйцеся менавіта на прадмет такога частковага захавання зуба. Магчыма, вам давядзецца пачуць, што такое ўмяшанне ненадзейнае і каронка стаяць не будзе, аднак мой досвед такіх аперацый і пратэзаванне на такіх зубах паказвае эфектыўнасць у 91% выпадкаў. Не спяшайся з выдаленнем.

**Туся: Шмат гадоў пакутую на парадантоз, страціла шмат зубоў. На кансультацыі прапанавалі імплантаваць зубы. Ці не адаб'юцца наступствы парадантозу на далейшым выкарыстанні імплантаў?**

**МЦ:** Лічыцца, што пасля выдалення зубоў з захворваннямі парадонту запаленчы працэс у сківіцы спыняецца і імплантацыі нічога не пагражае. Асабліва варта адзначыць, што наяўнасць агульных захворванняў, такіх як дыябет, можа быць рызыкай для прыжыўлення імплантаў. Думаю, калі хірургі ўпэўненыя ў прагнозе, то варта ім паверыць.

**smbd: Ці варта чысціць зубы кожны раз пасля прыёму ежы? Калі так, то ці карыстацца пры гэтым зубной ніткай?**

**МЦ:** Чысціць зубы дастаткова два разы на дзень — пасля сняданку і перад сном. Выкарыстоўваць зубную нітку неабходна як мінімум адзін раз на дзень. Выкарыстоўваць яе часцей мэтазгодна тым, у каго ёсць шмат пломбаў ці каронак, паколькі гэтыя ўчасткі, як правіла, з'яўляюцца месцамі большага назапашвання налёту і рэшткаў ежы.

**Мікалаус: Ці чакаюцца новыя прарыўныя тэхналогіі ў стаматалогіі ў найбліжэйшы час? Як хутка тэхналогіі будуць развітыя да такой ступені, што замест сучасных пратэзаў будуць вырошчваць сапраўдны карэнны зуб?**

**МЦ:** Лічбавыя тэхналогіі стварэння формы і 3D-друк ужо ўпэўнена выкарыстоўваюцца ў стаматалогіі, а таксама матэрыялы, якія развіваюцца ў бок максімальнай біясумяшчальнасці. Немалаважным пытаннем укаранення прарыўных тэхналогій з'яўляецца досыць высокі кошт такога абсталявання і, як вынік, высокі кошт паслугі. А вось наконт вырошчвання карэнных зубоў пакуль у Інстытуце цыталогіі і генетыкі НАН Беларусі маўчаць, хоць асобныя культуры тканак ужо вырошчваць могуць. Зуб — вельмі складана арганізаваная шматслаёвая структура. Будзем чакаць!

Ілья Параскевіч

УНП 192253037
ТАА «Інтэлектуальная стаматалогія»

# «Толькі ў нас усё яшчэ модна хадзіць у салярыі і абгараць»

Перад сезонам летніх адпачынкаў мы сустрэліся з касметыкам медыцынскага цэнтра «Ладэ» **Любоўю Сакаловай**, каб расставіць усе кропкі над «і» ў адносінах з сонцам і салярыямі.

Калі вы яшчэ не ведалі, што саларыі — даўно не модна і не карысна, а наносіць сонцаабаронны крэм варта не толькі каля вады ў купальніку, а і штодзённа (вясной, летам, а некаторым людзям — нават зімой), то чытайце ўважліва.

**Што адбываецца з нашай скурай падчас загару?**

Загар — гэта абаронная рэакцыя арганізма ў адказ на ультрафіялетавае выпраменьванне. Пасля ўздзеяння ультрафіялету меланацыты (клеткі эпідэрмісу) пачынаюць выпрацоўваць пігмент меланін. Калі казаць пра тыпы скуры, то ў беларусаў яна ў асноўным светлая ці сярэдняя — мы вельмі лёгка згараем.

**Загараць правільна — гэта як?**

У выпадку з загарам падчас адпачынку самыя камфортныя гадзіны — з 8.00 да 11.00 і пасля 16.00

Дарэчы, мала хто ведае, што самы жорсткі, небяспечны ультрафіялет — менавіта вясновы (летам мы хаця б больш-менш разумеем, што трэба карыстацца крэмам). З першым з'яўленнем сонейка мы стараемся падставіць яму твар, папесціцца і атрымаць порцыю вітаміну D, але калі не карыстацца крэмам хаця б з мінімальным SPF-фактарам, можна нажыць праблемы.

У асаблівай групе рызыкі людзі, скура якіх схільная да пігментацыі (вяснушкі, хлаазмы). Іх сонейка можа «дастаць» нават восенню ці зімой (летам жа працэс пігментацыі толькі накопліваецца).

Таму пажадана выкарыстоўваць спецыяльныя крэмы і ў халодны сезон. Дарэчы, прычынамі з'яўлення гіперпігментацыі можа быць не толькі працяглае знаходжанне на сонцы. Прыводзіць да іх могуць і гарманальныя змены, прыём пэўных антыбіётыкаў, касметычныя сродкі, захворванні печані.

Каб перастрахавацца, раю людзям, якія часта знаходзяцца летам і вясной у горадзе, перад выхадам на вуліцу выкарыстоўваць крэм з SPF 25–30. Для мора ці адпачынку за горадам пажадана абарона з SPF 50. Такі крэм экраніруе UVA- (вядуць да пігментацыі) і UVB-прамяні (могуць прывесці да ракавых захворванняў).

Памятайце, што ў любога крэму ёсць тэрмін дзеяння, і нават калі напісана, што ён водаўстойлівы, то ўсё адно часткова змываецца. Таму пасля кожнага выхаду з вады наносьце яго зноў.

**Калі я карыстаюся дэкаратыўнай касметыкай, як спалучаць яе з крэмам SPF?**

Сярод сённяшніх прадуктаў можна абраць SPF-крэмы, якія могуць дадаткова служыць і для догляду: з эфектам увільгатнення ці вітамінамі. І калі раней іх структура пры высокім SPF стварала на твары эфект маскі, то цяпер ёсць шмат варыянтаў, якія выглядаюць натуральна.

Акрамя таго, у склад шматлікай дэкаратыўнай касметыкі фільтры ўключаныя самі па сабе: некаторыя танальныя крэмы і пудры змяшчаюць 25 SPF. Але калі вы збіраецеся касметыкай на моры, то праз гадзіны дзве-тры яе лепш змыць, а пасля нанесці новую порцыю.

**Што рабіць з вуснамі?**

З вуснамі летам адбываецца тое самае, што і зімой: яны перасушваюцца. Толькі калі зімой у гэтым вінаваты мароз і авітаміноз, то летам — ультрафіялет. Выкарыстоўвайце спецыяльныя гігіенічныя памады, якія таксама ўтрымліваюць SPF. Дадаткова скажу, што трэба абараняць і валасы: існуе шмат добрых спрэяў з SPF-фактарамі. З іх дапамогай вы, па-першае, захаваеце свой колер валасоў. Па-другое — вільготнасць. Галаўны ўбор пры гэтым ніхто не адмяняў.

**Загарэлы — значыць, здаровы?**

Далёка не заўсёды. Чамусьці ў нашым менталітэце да гэтага закладзена: вярнуўся з мора не загарэлы — значыць, не адпачываў. Нават мне, ведаючы пра маю спецыяльнасць, знаёмыя ці пацыенты могуць задаваць пытанне: «Чаму вы вярнуліся белай?»

А я ведаю, што не буду гвалтаваць сваё цела і наўмысна наносіць яму шкоду. Загараць здарова можна і ў цені. А калі скура белая, то, як ні круці, пры працяглым знаходжанні на сонцы вы пачырванееце і атрымаеце апёкі.

Назапашванне ў целе ўздзеяння прамянёў можа не адчувацца адразу, але адгукнецца пазней: карычневымі плямамі і пастарэлым тварам з маршчынамі (ёсць такое паняцце, як фотастарэнне — вы можаце рабіць карысныя працэдуры і маскі, а пасля адным махам перакрэсліць іх эфект бяздумным знаходжаннем на сонцы).

Калі пацыенты прыходзяць да мяне на прыём з апёкамі і вялікімі пігментнымі плямамі, яны ўжо гатовыя хадзіць у скафандрах, каб толькі гэта не паўтарылася.

Але тут ужо прыходзіцца выпраўляць наступствы: выкарыстоўваць лазерныя пілінгі. І на жаль, працэдура пры моцных пашкоджаннях скуры не заўсёды дае стаадсоткавы вынік.

**Што тычыцца салярыяў, то касметолагі супраць.**

Ва ўсім свеце ад іх адмаўляюцца.

**Калі ўсё ж абгарэў, што рабіць?**

Нашы бабулі і дзядулі ў такіх выпадках любілі даставаць з халадзільніка халодны смятану і кефір. Сёння мы не рэкамендуем пацыентам звяртацца да кісламалочных прадуктаў: усё ж скура пашкоджаная, ёсць уваходныя вароты для інфекцыі (асабліва калі прадукты не першай свежасці).

Калі трэба хутка зняць эфект гарэння, вазьміце лёд ці прыміце халодную ванну, душ. А пасля бяжыце ў аптэку па пантэнол.

Запісала Кацярына Карпіцкая



# Складаная праўда пра вайну: «Партызанаў баяліся, але ўсё адно перабраліся да іх у лес»

**Клаўдзія Аляксандраўна Скопец нарадзілася ў 1935-м і правяла вайну ў лесе, у зямлянцы сярод балот Пухавіччыны. Яе родную вёску Амельна ў 1944-м спалілі немцы. Яе гісторыя — водгулле тысяч гісторый нашых бабуль. Не ветэранак, але тых, на чыім жыцці тая вайна пакінула след назаўжды.**



«Аднойчы вечарам мы гулялі, бегалі. Сабраўся народ, і старшыня сельсавета аб'явіў, што пачалася вайна.

А што мы разумелі? Я помню, мне мама сшыла сукенку — зялёную, на ёй зорачкі. І вот мяне ўсе дзяўчаты дражнілі: калі немцы прыйдуць, яны цябе забяруць, у цябе звёздачкі, значыць, ты камуністка. Дык я не насіла гэту сукенку, баялася.

Паляглі мы спаць, рана раніцай нашы бацькі пайшлі на работу. Тут жа на матацыклах немцы са слуцкай дарогі прыязджаюць.

А адзін на машыне крытай, раней такія называліся «казлы». Як зараз я таго афіцэра помню: здаровы, мардаты, сядзіць, а побач з ім аўчарка такая, як воўк. Машына спынілася ля нашага дома, ён быў вельмі вялікі — 8 метраў шырынёй, 18 даўжынёй. А гэтыя немцы ўсё бегалі па дварах: матка шпэк, матка яйко — сала ім, яйка давай. Да нас у двор яны не заходзілі, не буду гаварыць. Можа, што бацькоў дома не было, былі толькі мы, малыя. Нас у таты, у мамы было трое, тры дачкі: з 1933-га, 1935-га і з 1939-га гадоў.

Хутка пачаліся партызаны. Казалі, яўрэйскі партызанскі атрад. Яны хадзілі, як вечар настане. Нашага суседа аднаго забілі, потым другога забілі, чацвёра дзяцей засталося, патом трэцяга забілі — таксама чацвёра дзяцей.

Цераз адзін дом ад нас жыў шавец, і некалькі дочак у яго было. Адна, Наташа, як хахлуха — такая прыгожая, волас чорны... І, відна, яны патрабавалі ў яго ботаў ці чаго — дык яны яго дачку ўзялі, да сценкі паставілі і забілі, 18 гадоў было. Гэтыя суседзі тады, відаць, пабаяліся — кінулі ўсё, з'ехалі ў Мар'іну Горку.

Нашы бацькі баяліся партызан: мала хто што скажа ці што ім задумаецца, прыедуць і заб'юць.

Дык мужчыны сыходзілі на рэчку зімой. Там лавілі ўюноў цэлую ноч, а пад раніцу вярталіся. Нас, дзяцей, пакідалі з мамай. Як вечар, сцямнее, дык у дзверы «стук-стук». Мама лямпу на газе запаліць і пойдзе адкрывае. А было ж тады ў мамы шарсцяных хустак! Мама звязала вялікую харошую хустку, паўтара на паўтара метра. Пінжачкоў жа не было, дык мяне мама ў гэтую хустку адзявала. Я любіла надзявацца і так з мамай хадзіла гуляць усюды.

Мама на ноч пазавязвала хусткі на нас з сястрой і клала спаць. Я яшчэ і ў панчохах спала: сама сабе іх звязала — гадоў з пяці навучылася вязаць — толькі што пяткі ўжо парваныя былі. Прыйшла жанчына, раскрыла нас, зняла з мяне гэтыя панчохі, зняла хусткі. Я плакала, сястра плакала, а яны раз — разарвалі, знялі ўсё і забралі.

Вы знаеце, я гэту жанчыну запомніла. Паліто яе і беленькі бярэцік, невысокая, з круглым тварам. Яна ад нашай вёскі за 17 кіламетраў жыла. І як прыйшла я на работу ў 1952-м на Трактарны завод, я яе ў цэху пазнала. Я кажу: «Вера, ты была ў партызанах?» Яна: «Так-так, была». Я гавару: «А не ты ў мяне платкі забрала?..» Ну і што ёй, хіба шчасце было? Выйшла замуж, муж памёр, а сама на сметніцы потым памярла.

Немцы ў Мар'інай Горцы адкрылі свой гарнізон. А праз тыдзень ці колькі прыйшлі да нас у Амельну.

Адкрылі гарнізон у нашай двухпавярховай школе. Новая, харошая пошта ў нас адкрылася. Нямецкі паштальён, начальнік пошты і жонка яго таксама немцы.

Прыязджаў не наш нейкі, спецыяльны чалавек, сачыў, каб дарога чыстая была, каб канавы павыкапаваныя, каб усё ўбіралі, падмяталі, травы каб не было.

Немцы ўсім камандавалі. У нас была суседка цераз два дамы, Зоя, з Мінска прыехала ў бежанцы, удрала з двума дзецьмі (муж яе афіцэрам у арміі быў, так і не вярнуўся з вайны). Ёй сказалі ісці есці немцам варыць. Што ёй было рабіць — загадалі — гатавала. Ну а ноччу прыйшлі партызаны і забілі яе.

Адкрылася школа. Мая першая настаўніца — Вольга Максімаўна — была з суседняй вёскі. Яна заходзіць першая ў клас і з ёю прыходзяць на ўрок два паліцаі. І не віталіся, а толькі так бралі пад казырок: «Жыве Беларусь». І мы ўстаём: «Жыве Беларусь». Скажуць, заварочваюцца і сыходзяць. Бог іх знае, чаго яны прыходзілі. А яна ўжо пачынае ўрок.

У Амельне была новая вялікая ветлячэбніца. Партызаны першым доўгам спалілі лячэбніцу, каб немцы там не маглі ставіць коней трымаць. А тады акружылі ўсю вёску, запалілі школу, дзе паліцаі пасяліліся, і ні адзін не ўдраў — усіх забілі. Немцаў, паліцаяў — усіх.

Толькі адна асталася жывая — жонка начальніка пошты. Схавалася ў прыпечку! Усе здзіўляліся, як яна залезла ў гэты прыпечак, такая тоўстая? Вось яна адна засталася жывая. А ў нас сусед ветурач быў. Як пачалі страляць, ён спужаўся, стаў уцякаць у лес — і яго застрэлілі. І яшчэ двух так. [Падзеі, верагодна, адбываліся ў канцы верасня 1942 года. — **НН**]

Калі немцаў спалілі, мы баяліся ў вёсцы заставацца. Зрабілі вышку вялікую, і нашы бацькі на ёй дзяжурылі. Калі бачаць, як з Мар'інай Горкі нешта едзе, крычаць: «Немцы!» Тады бацькі за нас — і ў лес бягом. Аднойчы так ехаў генерал Уласаў.

Спыніўся якраз у нашым даму. Наша суседка адзіная ў лес не ўдрала. Яны ёй кажуць: ідзіце, скажыце ім, мы іх чапаць не будзем, няхай вяртаюцца. Яна знала лес, ведала, дзе мы знаходзімся і ўсё нам перадала. Мужчыкі параіліся і рашылі: хай жонкі з дзецьмі ідуць, калі іх чапаць не будуць, тады і мы прыйдзём. Ну і пайшлі мы. Уласаў выйшаў насустрач, высокі, але худы. На ім кепка чорная і акуляры з чорнай аправай. Мы заходзім у дом, а на печы ў нас сядзяць мужык із бабай, невядомыя, яны з Уласавым разам на павозцы ехалі. Уласаў нам па шакаладцы даў: «Дзяцей накарміць і на печку пагрэць». Гэтыя старыкі накармілі нас бульбай, капустай. Іяшчэ цэлае карыта начышчанай бульбы пакінулі.

Яны ў нас пераначавалі і назаўтра паехалі. Нічога не кранулі. Мама, калі ўцякала ў лес, схапіла соль — яна ў сподачку на стале стаяла — ўзяла яе ў трапачку і ў снег. Дык тыя дзед з бабай кажуць: мы ваш сподачак із солькай паклалі на печку, пасушылі...

Нічога ў нас не ўзялі, нікога не забілі.

Нашы бацькі ўсё роўна баяліся, што нас немцы спаляць. І мы ўсёй вёскай перабраліся ў лес да партызанаў.

Зрабілі зямлянку на дзве сям'і: сусед з чатырма дзецьмі і нас трое дзяцей, мама, тата і бабуля. Зрабілі сабе такія нары. Як устанеш з іх, вады па калена, і вужакі поўзаюць.



Клаўдзія Аляксандраўна (крайняя справа) з мамай і сёстрамі.

Цераз імшарыну ад нас партызанскі атрад быў. Бацькі хадзілі на поле: трэба ж апрацоўваць, сеяць, араць, карміцца. Поле было кіламетраў за пяць ад нас. А мы адны заставаліся. Яны кажуць: вы бегайце тут, а калі хто чужы ідзе, тады нам гаварыце. І ўжо дзе чужы, то мы бяжым і гаворым: ідзе незнаёмы. Раз, помню, мы бегалі ў такім месцы, называецца Конанава палянка, там горка, лес, такое харошае месца. Мы сабе на шапкі крыжыкаў панашывалі, гулялі, што адны партызаны, другія немцы, і хто каго пераможа. Крычым: «Ура-а-а! Ду-ду-ду-ду-ду...» Тут як прыбеглі партызаны! Яны ж думалі, гэта немцы прыйшлі! Як сталі на нас сварыцца ды па задніцы нам надавалі!

Ну і прыказалі, каб мы больш ужо гэткага не рабілі.

Потым мы перасяліліся бліжэй да поля. Там пабудавалі сабе асобную зямлянку. І партызаны перасяліліся разам з намі, пабудавалі млын, ток. Усё будавалі пад елачкамі, каб з самалётаў нас не было відаць.

Самалёт ляціць — я і зараз не магу гэтага гуку выносіць — яны такія цяжкія ляцелі: у-у-у-у-у. Ужо мы, дзецi малыя, зналі па гуку, калі ён лёгкі, а калі гружоны бомбамі.

Партызаны, бывала, у нас начавалі: мы зраніцы паўстаём, а яны на наша месца прыходзяць спаць. З Мурманска была дзеўка-радыстка. Потым хлопец-сібірак, высокі, здаровы. Казалі, як пад Мар'іну Горку пад'едзе, як немцы ідуць, ён тады як з аўтамата застрачыць, немцы спужаюцца і назад вернуцца. Але ўсё ж такі яго там убілі.

Усе хадзілі на работу ў поле, і я ўжо потым хадзіла. Сама навучылася хутка жаць, палец перарэзала пару разоў. А чым лячыць? Так крывы і застаўся.

Мы так жылі, апрацоўвалі поле. А тады прыехаў нямецкі атрад і сталі нашу вёску паліць. Усю спалілі, ніводнай заборынкі не асталася. І суседнюю Рабінаўку, і Остраў — усё спалілі.

Суседа нашага сястра прыехала перад вайной з Ленінграда. Яна была адзінокая і не захацела разам з усімі ісці ў лес. Дык гэтую жанчыну цягалі па ўсёй вёсцы і пыталі: «Дзе партызан, дзе партызан?» А яна адкуль знае! Яны ёй рукі выкруцілі, вочы выкалалі, зорачкі павыразалі і ўкінулі ў агонь. Не там, дзе яна жыла, а ў чужы сарай.

Мужчыны пазалазілі на сосны, на бярозы і ўсё назіралі, як палілі наша сяло.

Мы прыходзім першы раз у вёску пасля таго, я кажу: «Мама, мама, дзе наш дом?» А толькі адны печкі стаялі. Потым мы там ужо садзілі грады: маркоўку, бульбу, бурачкі.

[Вёскі на Пухавіччыне былі спаленыя ў чэрвені 1944-га. — **НН**]

Праз нейкі час кажуць: будзе блакіроўка, будуць немцы партызан у лесе забіваць. Сабраліся

нашы мужыкі: мы здавацца не будзем, калі знойдуць нас, мы ў рэчку — і з дзецьмі будзем тапіцца.

Я падслухала, як яны гэта кажуць. Я такая дапытная ў дзяцінстве была, мне ўсё было цікава.

Усе партызаны пайшлі ў балоты, бо немцы баяліся балот. Як сцямнела, пайшлі і мы. Рашылі аддыхнуць, прыселі на градцы на нашай. І тут чуем: немцы. Тата схапіў маю сястру, і мы ў балота скокнулі. І толькі кулі — жух! жух! І тата крычыць на мяне: «Клава, давай, гніся, гніся!..» Кулі нада мной ляцелі адна за адной.

Дайшлі да дрыгвянай канавы. Мы перайшлі, а тата з маёй сястрой Нінай стаў тануць. Ужо толькі галовы іхнія застаюцца. Тады мужыкі падскочылі, тата схапіўся за трос, потым яшчэ нешта звязалі і выцягнулі іх. Пачакалі, пакуль немцы перастануць хадзіць, і пераплылі на той бок рэчкі ў лазняк, у камышы. Нас папа ўсадзіў у алешыну, і мы сядзелі — не варушыліся. Тата чароцінку адарваў, мы праз яе вады пасмокчам, пасмокчам. Мама захапіла сухароў — іх пагрызём трохі. І так і сядзелі некалькі дзён.

А потым падпаўзае партызан, кажа: «Аляксандр Пятровіч, немцы адступаюць, чырвоныя наступаюць». І ўсё, назаўтра немцы адступілі.

Мы адразу пайшлі да свайго агароду, а потым да зямлянак. Ведаеце, усе зямлянкі спалілі датла. Нічога не засталося. У нас быў куфар, мама туды схавала падушкі, коўдры, посцілкі — мы яго занеслі ў самае балота — усё згарэла. Але вот не зразумею і ніхто не мне адкажа: чаму лес не загарэўся? Гэта цуд цэлы. Я кажу: напэўна, Божая воля ёсць.

Пайшлі мы на дарогу чырвоных сустракаць. Няма. Тады заўтра зноў пайшлі. Нарвалі кветак палявых, дарожку ўсыпалі гэтымі кветкамі. Чакалі-чакалі. І спаць хацелася, і есці. Нарэшце ідуць.

Першая кухня ехала палявая, а потым усе астатнія. Мы ім цвяточкі даём, а яны нам цукеркі або пячэнне якое кінуць, а мы ў траве бегаем збіраем тое пячэнне, каб нам хаця ўварваць якое.

Мы, напэўна, да гадзін пяці раніцы так стаялі, цэлы дзень і цэлую ноч іх сустракалі, а потым ужо замарыліся і недзе ўжо прыспалі. Тады ж у нас нічога не было, дзе ляжаш, там будзеш і спаць.

Разведка ішла асобна, праз лясы, і па дарозе злавіла трох немцаў.

Мы як пабачылі тых немцаў — бягом адтуль! Яны крычаць: не ўцякайце, не ўцякайце, свае, свае! Мы вярнуліся. Яны да немцаў кажуць: у палон здаецеся? Не, не здаёмся. Ну што яны будуць з імі рабіць? Аднаго, другога, трэцяга проста перада мной забілі.

Побач падлеткі бегалі, гадоў па 14–15, ім кажуць: вазьміце і пахавайце немцаў.

Яны ўзялі аднаго, афіцэра, за шынель і цягнулі па дарозе метраў трыста, напэўна. Цягнулі, а я за імі ішла. Там у нас ёсць паварот на могілкі і тры бярозкі стаяць. Ля тых бярозак выкапалі яму і пахавалі. А далей, напэўна, тыя падлеткі ўжо не захацелі займацца, дык старэйшыя мужыкі ўжо пастараліся. Другога немца дзядзя мой у канец вёскі адвёз, каля грушы пахаваў, а трэцяга каля бярозы.

У нас было такое месца Дубовы Стан, там сабралі ўсіх нашых мужыкоў. На чацвёрты дзень пасля вызвалення іх усіх пагналі на вайну. Помню, як яны адыходзілі: сабраліся, выпілі і спявалі «Што стаіш, качаясь, тонкая рабіна».

Тых, каторыя былі ў партызанах, тых не бралі. А каторыя не былі — усіх забралі. Усе яны ў Польшчы і загінулі. Вярнулася з нашай вёскі чатыры чалавекі, у тым ліку і тата мой.

Яны вызвалялі Польшчу і фарсіравалі Одэр. Тата быў мінёрам, ён першы ішоў. Вот размініравалі, пачынаюць будаваць масты. Тут немцы як дадуць, усё разаб'юць і ўсё наноў пачынай. Тата казаў, гэты Одэр была адна кроў.

Тата дайшоў да Берліна. Як вызвалілі Польшчу, размініоўваць далей не было чаго, і тату паставілі поварам. Ён хлеб пёк. Казаў, ботамі, нагамі мясіў — дзе ж ты столькі цеста рукамі намесіш. Шкадаваў гэтых бедных немак і іх дзетак. Як наліваюць ежу, стаяць гэтыя дзеткі з жалезнымі місачкамі. Тата расказваў: «Я ім паказваю: яшчэ раз станавіцеся ў чаргу. Бо думаю: мае ж дзеткі дзесьці там галодныя сядзяць». Ці ж дзеці вінаватыя.

Тата кажа, што тады дазвалялі да немцаў у дамы заходзіць і браць усё: хоць кароў, хоць золата, матэрыял які — усё.

Але яны хітрыя былі: усё замініравалі, і нашы толькі браліся за нешта — і падрываліся. Мамін брат так пайшоў за кароўкай — падарваўся на міне. А можа быць, і не браў бы, і не гнаў бы тую карову — і не падарваўся б. Многія смелыя былі пабралі. А тату як у пачатку далі падушачку маленькую такую, пераспаць, лыжку і відэлец — так ён з вайны і прыйшоў.

Мой тата веруючы быў. Ніколі не сварыўся, ніколі нічога не ўзяў. Можа, таму ён і вярнуўся.

Як тата на вайне быў, мы прыйшлі з лесу. Сталі жыць у варонцы, якая ад бомбы засталася.

У нас засталіся прыхаваныя сякера, піла, то мы пайшлі нарэзалі лесу, перацягалі, зрабілі зямлянку.

Аднойчы я прачнулася — а вакол нас палын рос, быльнік — і гляджу: у ім немец ляжыць! Я як закрычу! Такіх немцаў забіралі падлеткі і забівалі. Разам з партызанамі тапілі ў балоце — дзе яны іх хаваць будуць.

Другі раз мы з мамай пайшлі жыта жаць. І я як закрычу: «Мама-мама, немец!» А ён лёг паспаць у нашым жыце. Дзе той немец дзеўся? Ён жа ўсё адно да Германіі не дайшоў. Куды ім было ісці?

Мы ў вайну не хварэлі, ні разу не кашлялі. Толькі вошай было — параз'ядалі ўсю галаву.

Потым ужо мама нейкага дусту дастала ды ўсыпала нам на галовы.

Хадзілі ў лапцях — мама пляла з лазы. Дзядзя быў у партызанах і дастаў нямецкі матрац, дык мама пашыла нам з яго сукеначкі і хустачкі на галаву.


Бацька Клаўдзіі Аляксандраўны (злева), 1944 год.

Есці не было чаго, дык хадзілі жалуды збіралі, сушылі і таўклі, потым малолі, дадавалі мякіну і выпякалі хлеб.

Як тата прыйшоў, вайна кончылася, і сталі мы будаваць дом.

Амерыканцы пасля вайны дасылалі гуманітарную помач. Ну якую: адзежу ў асноўным. Тое, што было нягоднае ім, яны нам пасылалі.

А тут жа не было чаго надзець. Помню, нам выдзялілі туфлі на такіх то-о-оненькіх абцасах. Хто іх будзе насіць? Але большасць помачы давалі тым, у каго бацькі загінулі. Тым, як мы, у каго бацькі засталіся жывыя, тым не давалі.

Пасля вайны адбудаваліся і, каб нічога не загарэлася, сталі прызначаць дзяжурных.

На вёску была адна такая здаровая драўляная лапата. Я ноч пасцерагу, хаджу па вёсцы пільную, каб нідзе не загарэлася. Да раніцы я дабыў — і нясу гэту лапату ўжо наступнаму суседу. І так кожны дом павінен быў: іхняе дзяжурства прайшло — прыносяць нам тую лапату. У парог так ставяць — значыць, гэта наша ўжо. Гэта лапата — гэта такое напамінанне, што ты сёння стораж, што гэта тваё дзяжурства. Кожнаму перадавалася, да канца вёскі дойдзе — нясуць ужо назад. І ніколі нічога не загаралася.

Школа згарэла, прывезлі замест яе нейкі драўляны сарай. Хто зойме месца на падаконніку — той напіша. А так от мы на лавах сядзелі і на каленках пісалі. Мама знайшла нейкія мяшкі з-пад цэменту, нарэзала, нарэзала — гэта было замест паперы.

Пяро такое было, возьмеш дзеравяшку якую, пяро прышчэпіш — отак і пісалі, так і вучыліся.

Як яны цяпер сталі знішчаць лес! Выразаюць і пруць, і пруць, і пруць! І ўзамен нічога не садзяць.

Пасля вайны мы з татам паехалі да сваякоў у Мінск, то каб вы знали, які горад быў разбіты. Адна цэгла! Трэба было Мінск узнаўляць, і на гэта нашы дрэвы высякалі. Але акуратна: дзялянку высячэш, а тады ўжо чысціш яе. Нават грабелькамі падграбалі. Дробнае спальвалі, а асноўнае ішло на дровы. І мы на тым месцы садзілі новы лес. Хадзілі капалі ямы пад сосны, потым палолі яго, потым акучвалі. І вось ужо за семдзесят гадоў вырас лес.

І ўжо няма. Высякаюць — дык ты пасадзі новы на гэта месца! У нас скора ні чарніцаў, ні дурніцаў не будзе. Усё знішчана. Нікому нічога не трэба.

Помню, у клубе кіно ішло, «Тарзан». Але мы ў царкве былі.

Восем кіламетраў ад нас вёску не спалілі і царква засталася. І мы цераз рэчку малыя па кладках раніцай беглі туды, мама там ужо стаяла... А дырэктар як даведаўся, назаўтра мяне выклікаў: «Ты! Пайшла! У цэркаў!..» Дырэктар вёў у нас алгебру і геаметрыю. Я іх добра знала, адказала яму на 4, ды і ўсё. Праўда, бывала, ён нечага не знаў і да таты майго прыходзіў са складанымі задачкамі. Тата рашаў, а ён нам потым выкладаў. Да вайны тата быў настаўнікам, але пасля вайны ўжо не працаваў, папрысылалі ўжо новых.

Я закончыла сем класаў. Тады ўсе ўжо з'язджалі з вёскі, і мама мне дала 10 рублёў на прапіску.

Там, дзе цяпер Наргас, там вёска была, называлася Будзілава. Там жанчына ўсіх прыпісвала (сама яна жыла ў Сцяпянцы), дзесяць рублёў за гэта брала. Вось яна мяне прыпісала, жыла я на кватэры ў гаспадыні, нас там было чатыры дзеўкі і два хлопцы. Я трохі там пажыла, потым знайшла кватэру на Алега Кашавога, дзе ацэлье — там немцы ўжо дом дабудавалі. Потым да брата падсялілася, у яго быў адзін пакой з жонкай — і я на кушэтцы. Ну, мучылася.

Брат мой стрыечны прыстроіў мяне на завод рабочай. А якая я рабочая: 17 гадоў, худая...

А тады цяжка было працаваць. І аднойчы начальнік кажа: Клава, табе тут не працаваць, ідзі ў кладаўю. І я пайшла кладаўшчыцай, паступіла ў вячэрнюю школу ў восьмы клас на Стаханаўскай (там цяпер школа міліцыянерская). З часам стала загадчыцай склада, выйшла замуж, дачка паявілася. Мы з мужам пражылі два з паловай гады — і ён трагічна загінуў, яго забіла на заводзе. Потым я выйшла замуж другі раз — за яго сябра, яны былі з адной вёскі, ён мяне ўзяў з дзіцём.

48 гадоў я працавала на Трактарным заводзе. Да 65 гадоў. Кантралёрам, кантрольным майстрам... О так жыццё і прайшло.

Неяк я расказала сваякам пра спаленую царкву.

Яны кажуць: «Ну пакажыце, Клава, дзе яна была». Я кажу: «Ды во, 300 метраў ад нас!» І мы ўзяліся за гэту царкву, ачысцілі. Там толькі фундамент застаўся. Столькі смецця выграблі! Там і трактары ставілі, і каровы пакідалі. Там траўка была харошая, дык пусцілі цяля, а назаўтра цяля здохла. Ён жа ж хадзіў, пэцкаў, а нельга — там свято месца. А яшчэ было: зрабілі арэлі, дзеці сталі гушкацца і рукі паламалі. Новая царква там цяпер нікому не патрэбная. Хто пазаставаліся мясцовыя, тыя ўжо няверуюшчыя, а маладыя, што папрыязджалі, толькі, самі знаеце, п'юць і ўсё. У веру ніхто не хоча ісці.

У нас у Амельне памярла Сафія Слуцкая пры родах.

Кажуць, у старыну быў нават жаночы манастыр. Мы ўжо паставілі крыж на месцы царквы, а цяпер Сафіі Слуцкай будзем знак ставіць. Потым святару Уладзіміру Хіраску, які ў нас служыў, будзем ставіць пастамент [святар Уладзімір Хіраска (1874–1932), у 1999 годзе як мясцовашанаваны святы Беларускай праваслаўнай царквы. — **НН**]. Грошы я з пенсіі збіраю. А асноўнае робіць майго стрыечнага брата сын, ён мастак, як і бацька. Я ездзіла вось на Радаўніцу, дык пабачыла таблічку — ён выразаў, напісаў, што за вёска была, бо многа прыезджых, якія нічога таго не ведаюць.


Брыгада скрапаапрацоўчага цэха МТЗ, 1953 год.
Клаўдзія Аляксандраўна другая злева ў ніжнім шэрагу.

Запісала Паўліна Скурко.

# «Наша Ніва»: доўгая гісторыя

Працяг са старонкі 2.

## 1996. «Наша Ніва» пераязджае з Вільні ў Мінск



На дзевяностым годзе свайго існавання «Наша Ніва» пачынае выходзіць штотыднёва. Як фенікс з попелу, з бязладдзя нашага часу вырастае «першая беларуская газета з рысункамі», каб зноў стаць люстэркам жаданняў і патрэбаў свайго народу.

Гісторыя гэтага найбуйнейшага ў Беларусі выдавецкага праекта развівалася гэтак жа сутаргава, як і гісторыя самой нацыянальнай ідэі ў XX ст. Створаная ў 1906 годзе «Наша Ніва» імкліва стала галоўнай трыбунай усяго беларускага: палітыкі, культуры, навукі. На старонках газеты пачыналі сваё ўзыходжанне ўсе без вынятку класікі тае пары... Спыніўся выход газеты ў I сусветную вайну. Першая спроба аднавіць выданне належыць да 1920 года, калі выйшла ўсяго дзевяць нумароў...

У траўні 1991-га «Наша Ніва» была адноўленая ў Вільні, там, дзе яна заўсёды й выходзіла дагэтуль — у радавым гнязьдзе беларускай ідэі, гісторыі й культуры. Тут яшчэ жыў і жыве той беларускі дух, які не зазнаў дэфармацыяў савецкага часу — як гэта адбылося паўсюль у БССР. На працягу пяці апошніх гадоў газета выходзіла раз на месяц і займалася амаль выключна светапоглядам — «прамываннем мазгоў», пастаноўкай беларускай праблематыкі ў нашым часе. Такая «рэанімацыя» ідэі патрабавала чыстага эксперыменту, таму не магло быць і гутаркі пра выдавецкі праект як вытворчы самаакупны механізм. Перад ініцыятарамі стаяла адна задача — навязацца да абарваных караняў нацыянальнай традыцыі.

Многія чытачы ўспрынялі адноўленую «НН» як выданне элітарнае, замкнёнае ў сабе і далёкае ад рэальнага штодзённага жыцця. Але гэта быў неабходны перыяд, без якога рэдакцыйны калектыў папросту не змог бы стаць адэкватным вытлумачальнікам таго, што адбываецца ў Бацькаўшчыне. Важна было дайсці да сутнасці падзеяў, зыходзячы не з агульнага ідэалу, а з канкрэтных нацыянальных інтарэсаў краіны, якая воляю лёсу стала самастойнай дзяржаваю.

Беларусь, аднак, не стала дзяржаваю нацыянальнай. Для калектыву рэдакцыі «НН» гэта быў знак на тое, каб распачынаць новы этап свае працы. Рэдакцыя пераехала з Вільні ў Менск.

Новы этап дыктуе новую форму. Дакладней, сёння рэдакцыя мае ўжо дастатковую светапоглядную базу, каб вярнуцца да канцэпцыі 1910 году — г.зн. да канцэпцыі рэгулярнага тыднёвіка, масавага і самаакупнага, адкрытага да ўсіх тэмаў і праяваў нашага жыцця. І калі ў папярэднія гады найважнейшай ацэнкай нашае працы была самаацэнка, то цяпер галоўным экзаменатарам газеты будзе чытач.

Новы этап — рынкавы. «НН» павінна вярнуць сабе колішні вобраз любімай газеты, але не праз спагаду вузкіх колаў нацыянальна ангажаванай публікі, а праз наклад і ўдзел у нашым выданні рэкламадаўцаў. Выпісвайце «Нашу Ніву», прапануйце нам рэкламны матэрыял і гэтым Вы дапаможаце тыднёвіку на новым этапе ягонага станаўлення.

Фенікс адродзіцца з попелу.



Першы нумар газеты за 1997 год.

## 2006. Валанцёры

Як і іншыя незалежныя газеты, «Нашу Ніву» забараняюць прадаваць у кіёсках і ўключаць у падпісныя каталогі.

Амаль тры гады газету распаўсюджвалі валанцёры — студэнты і пенсіянеры. Дагэтуль з вялікай цеплынёй згадваем гэтых людзей, якія вынеслі беларускае слова ў сваіх рукзаках.

Газета сімвалічна перайшла ў фармат А4, каб лягчэй змяшчацца ў торбах іканвертах.

## 2008. «НН» ізноў выбірае правапіс

«Нашу Ніву» і «Народную волю» вяртаюць у кіёскі. Газета, між тым, пераходзіць на школьны правапіс.

### Рэдакцыйны зварот з нагоды змены правапісу

Шаноўныя чытачы, ад гэтага нумара «Наша Ніва» будзе выходзіць школьным правапісам.

«НН» пераходзіць на яго, бо ставіць перад сабой задачу заваёвы новай аўдыторыі. Вяртанне ў кіёскі «Саюздруку» дае такі шанец. Непрызвычаеным людзям чытаць па-беларуску класічным правапісам цяжэй, моцна цяжэй. Тое адназначна паказвалі сацыялагічныя даследаванні, дый кожны з нас тое бачыў або адчуваў на сабе. Гэты псіхалагічны бар'ер абмяжоўваў аўдыторыю. Мы хочам, каб новыя і новыя людзі пачалі набываць газету, ідэнтыфікавалі беларускую мову як сваю, не адчувалі ад яе адчужэння. Было б недаравальна, каб непрыщцелі беларускага тыкалі: вось, мы іх дазволілі, і што — жменька чытачоў у іх.

Гэты крок ані кан'юнктурны, ані прадыктаваны эмоцыямі. Рэдакцыя даўно адчувала такую патрэбу для пашырэння кола актыўных носьбітаў беларускай культуры.

Лічым патрэбным зрабіць гэты крок цяпер. Спадзяёмся, што яго пазітыўны палітычны і культурны эфект можна будзе ацаніць ужо праз некалькі гадоў.

Незалежнае грамадства не павінна замыкацца ў сваім коле.

Нацыянальная свядомасць глыбока пранікла ў шырокія слаі, а незалежнасць краіны стала нацыянальным кансенсусам, на парадку дня — выхад Беларусі са стану васальнае залежнасці ад Расіі, кансалідацыя паўнапраўнае еўрапейскае нацыі.

«НН» пачатку XX стагоддзя выходзіла рознымі правапісамі, мяняла іх, але не змяняла пазіцыі і задач. Так і цяпер. Мяняецца правапіс, але нязменны дух газеты. «НН» застанецца такой сама чыста беларускай, як і была.

Наша святыня — мова. Правапісаў два, яна адна.

## У бітвах за долю, бітвах за волю

У 2000-х журналісты і рэдактары «НН» прайшлі праз арышты. А ў 2010 у адказ на Плошчу адбываюцца пагромы незалежных арганізацый. У Рэдакцыі «НН» і ў яе рэдактараў і журналістаў адбываюцца вобшукі, канфіскуюць тэхніку. Але на заклік «НН» чытачы за дзень прывезлі Рэдакцыі больш камп'ютараў, чым мы мелі да таго, і «НН» ні на дзень не спыніла працы.




## Ад 2010. Бурны рост папулярнасці сайта NN.BY

Ад 2016 года «НН» становіцца трэцім па колькасці праглядаў парталам краіны, абганяючы амаль усе рускамоўныя выданні.

## 2014. Атмасфера ў краіне змяняецца

Пасля Крыма і Данбаса многае мяняецца і ў рэгіёне, і ў Беларусі. Да грамадства прыходзіць разуменне, што ажыццяўленне рэвалюцыйных сцэнароў можа прывесці да замежнага ўварвання ў Беларусь. А ўлады бяруць курс на «мяккую беларусізацыю».




Наша Ніва

Пагоня. Яна мая

Падпішыся сам, падпішы дзядоў!

Наша Ніва

Ісламісты лезуць у Беларусь?

КДБ затрымаў 20 салафітаў

У Парыжы ворагі нашай, заходняй цывілізацыі паднялі руку на нашых калег з «Шарлі эбдо», на свабоду. Яны подла забілі безабройных журналістаў і спрабавалі ўцячы. Але тэрарыстаў знайшло пакаранне, а свет з'яднаўся ў падтрымку Францыі. Старонка 11.

Як сын палкоўніка КДБ стаў галоўным беларускім ідэолагам

25 гадоў ад званка да званка

ЯНО

Як магілёўская газета зрабіла пачварай сціплага вясковага трансэксуала.

Старонкі 4—5

## 1911. Як паступаць, каб дзеці, вырасшы, шанавалі сваіх бацькоў і былі ім апорай

Бывае так, што бацькі б'юцца, гаруюць, апошняе — ад губы адняўшы — аддаюць, каб дзяцей вывесці ў людзі, а выраслі дзеці, узгадаваліся, адукаваліся, і не толькі бацькі з іх помачы на старыя гады не дачакаюцца, але яшчэ пагарду маюць ад «разумных» сынкоў, каторыя стыдаюцца сваіх бацькоў-мужыкоў. А прыедзе такі сын ці дачка да бацькоў, то свой не свой: ні згаварыцца, ні думкамі падзяліцца. Вось табе і адплата за твой пот і мазалі, стары бацька, за твае няспаныя ночы над калыскай, старая маці!..

А хто ў гэтым вінават? Самі бацькі. Пакуль дзіцё малое было, не вучылі шанаваць свайго роднага, а часта, можа, гэтага роднага, мужыцкага і самі чураліся, — вось дзеці дайшлі вашым следам, толькі далей: яны саўсім адступіліся ад усяго «простага» ды разам і ад вас, прастакоў. А трэба, пакуль дзіцё малое, вучыць яго гаварыць роднай мовай, шанаваць гэту мову. І трэба перасцерагаць, каб не паракручвалі яе чужымі словамі; трэба, каб маці пяяла дзецям свае песні простыя, прывучала шанаваць прадзедаўскія абычаі, — тады, як сынок твой вырасце і пойдзе ў чужыя людзі, нічым з душы яго не выб'юць любві да свайго роднага, і, дзе б ён ні быў — хоць за морам, — яго заўсёды пацягне сэрца ў свой куток, да сваіх бацькоў. У чужой старане, пачуўшы роднае слова з вуснаў незнаёмага чалавека, ён прывітае яго, як брата. Бо мова — гэта найкрапчэйшы вузел, які звязвае бацькоў з дзецьмі, людзей з людзьмі.

Змалку, пабач з роднай мовай, трэба прывучаць дзяцей, каб шанавалі людзей старых, хто б яны ні былі: ці бяднейшыя суседзі, ці ўбогія жабракі, абы толькі людзі справядлівыя. Бо калі дзіцё тваё прывыкне змалку паважаць кожнага старца, то, вырасшы, і цябе пашануе ў старыя гады.

**Вацлаў Ластоўскі**

Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| в. а. галоўнага рэдактара | Ягор Аляксандравіч Марціновіч |
| шэф-рэдактар | Андрэй Дынько |
| намеснікі галоўнага рэдактара | Зміцер Панкавец |
| | Настасся Роўда |
| | Андрэй Скурко |
| сакратарка рэдакцыі | Таццяна Кур'ян |
| заснавальнік | Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы» |
| выдавец | Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы» |

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220004, Мінск, а/с 62
Tel/fax: (017) 316-48-13, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 12 палос фарматам А2, 6 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у Аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» код BLBBBY2X.

Наклад 3001. Газета выдаецца 12 разоў на год.

Нумар падпісаны ў друк 23.00 05.06.2018.

Замова 2028.

Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

9 771819 161008 18006